Культурны пласт з ляпной керамікай трэцяй і апошняй чвэрцяў I тыс. на гарадзішчы захаваўся ў моцна перамяшаных напластаваннях ніжняй часткі сярэдняга стратыграфічнага гарызонта (падрабязнае апісанне яго прыведзена ніжэй). Асноўная колькасць ляпной керамікі гарадзішча была знойдзена менавіта тут. З яе складу вылучаюцца тыповыя формы гаршкоў культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў канца VIII – X стст. (большасць усіх венцаў).

Венцы гаршкоў трэцяй чвэрці I тыс. н. ч. тыповыя для банцараўска-тушамлінскай культуры, знойдзена 1 сценка посуду «з расчосамі» сярэдзіны I тыс. н. ч.

Асноўны па плошчы (каля 6 га) культурны пласт з ляпной керамікай быў выяўлены ў паўночнай частцы Ніжняга замка. Найлепш захаваўся каля т. зв. стрэлцы Ніжняга замка (раскопкі 2008 г.). Пласт размяшчаецца на глыбіні 1,8 м. Яго магутнасць складае ў сярэднім каля 0,2 м. Пласт перакрывае больш 20 мацерыковых ям. Знаходкі прадстаўлены пераважна фрагментамі ляпнога керамічнага посуду, керамічнымі праселкамі і нешматлікімі рэчамі з жалеза і косці. Асаблівасцю гэтага пласта з'яўляецца поўная адсутнасць пацерак, яны былі знойдзены ў вышэй размешчаным пласце з раннеганчарным посудам.

Пласт утвораны шчыльным супескам з вуглем, з-за чаго ён мае шэрае адценне. У пласце месцамі, асабліва над мацерыковымі ямамі, захаваліся валокны спарахнелых кавалкаў дрэва. У гэтым пласце знойдзена асноўная колькасць ляпнога посуду трэцяй і чацвёртай чвэрцяў I тыс.

Проба IGSB-1375 кавалка дрэва, які быў знойдзены ў кв. 3 пл. 9 раскопа 1 (2008 г.) прадстаўляе калібровачную дату 420 – 670 AD. Менавіта ў гэтым квадраце ў пласце 9 знойдзены два венца слоікападобнага посуду банцараўска-тушамлінскай культуры і два венцы гаршкоў, падобных да валынцаўскага тыпу.

Усяго ў раскопе 1 было знойдзена 227 фрагментаў ляпнога посуду. З іх 75 – венцаў, 10 – донцаў, 1 – накрыўка. Апісанню керамікі з гэтага пласта прысвечаны асобны артыкул [5].

Кераміка гладкасценная, грубая, з дамешкамі жарствы (часцей за ўсё некалібраванай). У асобных выпадках у керамічным цесце прысутнічаюць сляды расліннай арганікі. Паверхня посуду загладжана, аднак зерне жарствы вылучаецца на паверхні, што робіць яе гузаватай і няроўнай. Колер фрагментаў звычайна шэра-карычневы, зрэдку карычневы ці белы, звычайна посуд пакрыты плямамі ад нераўнамернага абпалу. На многіх фрагментах заўважаны сляды акапчэння і нагару. Донцы гаршкоў утрымліваюць сляды падсыпкі буйназярністага пяску і жарствы.

У раскопах С.В. Тарасава на Ніжнім замку былі знойдзены кавалкі керамічнага посуду банцараўска-тушамлінскай культуры [6, мал. 47: 2] і культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў [6, мал. 47: 1, 3, 4, 5], які карэлюецца з матэрыяламі раскопа 1 2008 г.

Пласт з ляпной керамікай выяўлены на тэрыторыі селішча – перадграддзя на плошчы 0,24 га. Гэтае селішча аддзелена ад гарадзішча руслам Палаты. Ляпная кераміка з гэтага селішча з'яўлялася прадметам даследавання М.А. Плавінскага і Г.В. Штыхава [7]. Культурны пласт з ляпной керамікай захаваўся толькі ў межах мацерыковых ям і мае аналагічную структуру з раннесярэдневяковым пластом на Ніжнім замку.

Ляпная кераміка з Запалоцця прадстаўлена двума венцамі гаршкоў, верхняя частка якіх мае сляды загладжвання на ганчарным крузе (мал. 1). Гэтая кераміка была знойдзена падчас раскопак у 2010 г. на тэрыторыі, якая прымыкае да Верхняга замка. Кераміка знойдзена ў перамешаным стратыграфічным гарызонце, які ўтварыўся ў выніку будаўніцтва і дзейнасці бернардзінскага кляштара канца XV – першай паловы XVI стст. У раскопе быў адкрыты і даследаваны стартыграфічны пласт XI ст., з якога паходзіць асноўная колькасць раннеганчарнай керамікі. Гэта аднародны сухі супесак шэрага колеру, магутнасцю ў сярэднім 0,3 м. Няма сумненняў, што фрагменты ляпной керамікі паходзяць з гэтага пласта, аднак выявіць ляпны посуд у гэтым стратыграфічным гарызонце не ўдалося па прычыне малой плошчы яго захаванасці. Загладжаныя на ганчарным крузе ляпныя гаршкі з Запалоцця дазваляюць вызначыць час засялення пасада на мяжы X – XI стст.

Ляпная кераміка, выяўленая на тэрыторыі на ўсход ад паркана Вялікага пасада, паходзіць з курганных пахаванняў (валатовак), якія існавалі ў IX – XVIII стст. [8, с. 106 – 109]. Культурны пласт IX – X стст. адсутнічае.

Культурны пласт XI – XIII стст. вылучаны на тэрыторыі Верхняга замка, Вялікага і Запалоцкага пасадаў, у Старой Слабадзе на левым беразе Дзвіны, лакальна – на Востраве. Пры гэтым стратыграфічныя гарызонты XII – XIII стст. вылучаюцца найбольшай магутнасцю (да 2 м ва ўсходняй частцы Верхняга замку, у сярэднім каля 1 м на Вялікім і ў цэнтральнай частцы Запалоцкага пасадаў). Культурны пласт на адзначаных помніках мае цёмна-шэры колер, утрымлівае шмат розных праслоек (вапна, гной, трэскі, пясок, попел, вугаль, дрэва і інш.). На тэрыторыі Вялікага пасаду пласт XI – XIII стст. вельмі вільготны, па-сутнасці размешчаны на ўзроўні залягання грунтовай вады. У заходняй частцы Запалоцкага пасаду і на поўнач ад Запалоцця і гарадзішча зафіксаваны культурны пласт XI – XII стст. Тут ён мае вельмі своеасаблівую структуру. На гэтых помніках культурны пласт прадстаўлены супескам шэрага колеру з вуглем і вышэйзгаданымі праслойкамі арганікі і неарганічных рэчаў. З-за асаблівасці рэльефу ён вельмі сухі, як правіла, моцна ўтрамбаваны.

Тыпалогію бытавой керамікі XI – XVI стст. па матэрыялах «усходніх раскопаў» на Верхнім Замку прапанаваў Г.В. Штыхаў. Даследчык вылучыў 6 тыпаў гаршкоў. Самым раннім з'яўляецца тып I (бытаваў пераважна у пластах X – XI стст.) [9, с. 81]. Пры гэтым вылучаецца спецыфічны полацкі тып IV, які характарызуецца злегку ўвагнутым краем венца, уздоўж якога праходзіць жолаб пад накрыўку [9, с. 82].

Гэтая тыпалогія можа быць істотным чынам дапоўнена тыпалогіяй гаршкоў з полацкага гарадзішча, зробленай па выніках раскопак у 2007 г. Так, уся «кругавая» кераміка паходзіць з двух стратыграфічных гарызонтаў – верхняга і сярэдняга.

*Верхні стратыграфічны гарызонт* – гэта вельмі аднародная зямля светла-шэрага з карычневым адценнем колеру, камкаватая, сухая. Гэтая зямля складаецца з зярністага пяску, жвіру, зрэдку ў пласце фіксуюцца дысперсна размешчаныя камяні, кавалкі вугалю і невялікія лінзы вапны. Сярэдняя магутнасць верхняга стратыграфічнага пласта – 1,2 м.




Мал. 1. Венцы ляпных гаршкоў з раскопа 1 (2010 г.) у Запалоцці

*Сярэдні стратыграфічны гарызонт* – гэта пласт зямлі магутнасцю каля 1,4 м з вельмі стракатай структурай. Гэты гарызонт фіксуецца з узроўня каля 1,2 м. Найбольшая магутнасць пласта – 1,6 м.

З верхняй вугальнай праслойкі сярэдняга стратыграфічнага гарызонта атрыманы дзве радыёвугляродныя даты, матэрыялам з'яўляўся вугаль: кв. 5 проба 1 (далей у тэксце пробы маркіраваны літарай «П») – 430 – 530 гг. н. ч., П 2 – 1270 – 1310 гг. н. ч. Апошняя дата цалкам карэлюецца з археалагічным матэрыялам.

Сярэдняя частка вызначанага стратыграфічнага гарызонта прадстаўлена пластом аднароднай камкаватай зямлі цёмна-шэрага колеру Гэтая праслойка мае магутнасць 0,4 – 0,8 м, у сярэднім 0,5 м.

У гэтай сярэдзіннай частцы вызначанага стратыграфічнага гарызонта знойдзены кавалкі керамічнага посуду, пераважна гаршкоў, якія датуюцца XI – XIII стст. У гэтым пласце зафіксаваны адзінкавыя фрагменты ляпнога посуду апошняй чвэрці I тыс. н. ч.

Ніжняя частка сярэдняга стратыграфічнага гарызонта мае стракатую стратыграфію. Яе магутнасць каля 0,3 – 0,4 м. Яна прадстаўлена чаргаваннем праслоек белага зярністага пяску, вапны магутнасцю каля 0,01 – 0,03 м з вугальнымі праслойкамі, магутнасцю 0,1 м, якія перакрываюць праслойкі цёмна-шэрай зямлі з вуглем магутнасцю 0,2 – 0,3 м (паўночная частка раскопа, кв. 4). Згаданы пласт вугалю кв. 4, размешчаны паміж прапластачкамі белага пяску мае радыёвугляродную дату 60 г. да н. ч. – 140 г. н. ч. (П 5).

Ніжняя мяжа сярэдняга стратыграфічнага гарызонта ва ўсходняй частцы кв. 4 прадстаўлена прапластачкай вугалю, якая мае радыёвугляродную дату 660 – 590 гг. да н. ч. (П 6).

На мяжы кв. 4 і 5 сярэдні стратыграфічны гарызонт дасягае мацерыка ў межах мацерыковай ямы 3. Яма запоўнена пластом чорнай зямлі з вуглем і драўлянай парахнёй. У яме былі знойдзены: 2 косткі жывёл, 30 сценак ляпных гаршкоў, 5 венцаў ляпных гаршкоў, 1 донца ляпнога гаршка, 1 кавалак абпаленай плахі. Венцы ляпнога посуду – гэта тыповыя гаршкі культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, якія на тэрыторыі Беларускага Пад-

звіння датуюцца сярэдзінай VIII – X стст. Радыёвугляродная дата кавалка дрэва – 600 – 780 гг. н. ч. (П 6). Верхняя дата гэтага храналагічнага адрэзка пацвярджаецца керамічным матэрыялам.

Для тыпалогіі былі выкарыстаны ўсе венцы гаршкоў XI – XIII стст., зробленыя на ручным ганчарным крузе ў колькасці 1116 шт. Усе гаршкі падзелены на 9 тыпаў (мал. 2).

| Выява керамікі | Тып керамікі | Пласт | | | | | | | | | | | | | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 9а | 9б-10 | 11 | 12 | 13 | |
| | А 1 | | | 1 | | 2 | 4 | 27 | 3 | 3 | 1 | 4 | | 1 | 1 | 47 |
| | А 2 | | 2 | 4 | 4 | 9 | 6 | 25 | 31 | 4 | 4 | 5 | | | | 94 |
| | А 3 | | 13 | 17 | 19 | 26 | 30 | 121 | 32 | 5 | 22 | 45 | 10 | 1 | 2 | 341 |
| | А 4 | | | 7 | 3 | 3 | 6 | 53 | 30 | | 12 | 9 | 5 | | 1 | 129 |
| | Б | | 1 | | 2 | 6 | 1 | 18 | | | | 2 | 4 | | 2 | 37 |
| | В | | 7 | 10 | 2 | 9 | 24 | 88 | 18 | 1 | 13 | 17 | 18 | 1 | 1 | 209 |
| | Г | | 2 | 1 | 1 | 5 | 2 | 26 | 12 | 1 | 14 | 17 | 9 | | 2 | 92 |
| | Д | | | 2 | 1 | 2 | | 24 | | | 18 | 22 | 3 | | 2 | 74 |
| | Е 1 | | 1 | 3 | 1 | 2 | 2 | 15 | 2 | | 5 | 4 | 1 | | | 36 |
| | Е 2 | | | 1 | | | | 4 | 1 | | | | | | | 6 |
| | Ж | | | 1 | 2 | | 2 | 6 | 3 | | 1 | 7 | | | | 22 |
| | З | | | | | | | | | | 2 | 6 | | | | 8 |
| | К 1 | | 1 | 1 | | | 2 | 6 | 2 | | 2 | 2 | | | | 16 |

| | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | К 2 | | | | | | 2 | 3 | | | | | | | | 5 |

Мал. 2. Зводная табліца гаршкоў XI – XIII стст. з полацкага гарадзішча

Самым распаўсюджаным з'яўляецца ***тып А*** (агульная колькасць 611 венцаў), якія падзяляецца на 4 варыянты. У гаршкоў гэтага тыпу складанае венца, край якога загнуты ўнутр у форме літары «S». Варыянт А 1 – гэта гаршкі з арнаментаваным плечуком і тулавам, як правіла, прамымі лініямі ці хвалістым арнаментам з нахілам у левы бок. Варыянт А 2 – гэта гаршкі з арнаментаваным насечкамі ці ямкамі краем венца, тулава і плечукі гаршкоў, як правіла, таксама арнаментаваны. Варыянт А 3 – кераміка без арнаментацыі. Паводле Г.В. Штыхава, аналагічная кераміка ў раскопе на Верхнім замку была знойдзена ў пластах XI – першай паловы XIII ст. [9, с. 82]. Сярод гэтай керамікі ёсць формы з жалабком па краю венца (падтып А 4 полацкага гарадзішча), такую кераміку Г.В. Штыхаў вызначае як спецыфічны полацкі тып. Тып А бытаваў на полацкім гарадзішчы з XI ст. да канца XIII ст., максімум яго распаўсюджвання прыходзіцца на XIII ст. (верхняя частка сярэдняга стратыграфічнага гарызонта, што адпавядае пл. 7 і 8, гл. мал. 2). Дыяметр венцаў ад 17 да 32 см.

***Тып Б*** – гэта гаршкі з высокай шыйкай і амаль вертыкальна пастаўленым венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 12 да 27 см (агульная колькасць 37 венцаў). Гаршкі арнаментаваны лінейным у спалучэнні з хвалістым арнаментам па плечуку ці хвалістым арнаментам пад самым краем венца. Максімальная колькасць гаршкоў (18 шт.) тыпу Б знойдзена верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта, што адпавядае пл. 7 (гл. мал. 2).

***Тып В*** – гэта гаршкі з высокім, адагнутым вонкі каля 45° прамым венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 22 да 28 см (агульная колькасць 209 венцаў). Гаршкі арнаментаваны хвалістым арнаментам у спалучэнні з лінейным, насечкамі па тулаву з хвалістым арнаментам. Максімальная колькасць гаршкоў тыпу В (88 шт.) знойдзена ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта, што адпавядае пл. 7 табліцы 1. У колькасці ад 13 да 18 шт. яны знойдзены ў сярэдняй частцы сярэдняга стратырафічнага гарызонта (пл. 9а – 11 мал. 1.43). Гэтая кераміка аналагічная некаторым тыпам гаршкоў з Верхняга замка, дзе яна датавана 50-мі гг. XIII ст. [9, рис. 43: 8]. Большасць венцаў гаршкоў тыпу В знойдзена ў пласце, які адпавядае гэтаму датаванню і ў больш ранніх – XI ст.

***Тып Г*** – гэта гаршкі сярэдняга памеру (дыяметр вусця ад 12 да 26 см) з адагнутым вонкі венцам і пакатымі плечукамі. На полацкім гарадзішчы гэтыя гаршкі знойдзены ў колькасці 92 шт. Максімальная колькасць гаршкоў тыпу Г (26 шт.) знойдзена верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта, што адпавядае пл. 7 (мал. 1.43). Аднак гэтыя пасудзіны даволі роўна распаўсюджаны ў сярэдняй і верхняй частках сярэдняга стратыграфічнага гарызонта (ад пласта 7 да пл. 11) (гл. мал. 2). Такія гаршкі, паводле Г.В. Штыхава, адпавядаюць тыпу I і датуюцца X – XII стст., пры гэтым асноўная іх частка знойдзена менавіта ў XI ст. [9, с. 81]. На полацкім гарадзішчы гэтае начынне распаўсюджана ў пластах XI – XIII стст. Гаршкі, як правіла, арнаментаваны гарызантальнымі палоскамі па тулаву альбо двума радамі хвалістага арнаменту па тулаву (нахіл хвалі ў левы бок), асобныя гаршкі арнаментаваны хвалістым арнаментам па самаму краю венца.

***Тып Д*** – гэта гаршкі з высокім, плаўна адагнутым вонкі венцам. Дыяметр гэтых пасудзін ад 14 да 34 см (агульная колькасць 74 венца). Некаторыя гаршкі арнаментаваны па тулаву адным-двума радамі хвалістага арнаменту (нахіл хвалі ў левы бок). Максімальная колькасць гаршкоў тыпу Д (22 шт. і 24 шт.) знойдзена ў сярэдняй і верхняй частках сярэдняга стратыграфічнага гарызонта, што адпавядае пл. 9б – 10 і пл. 7 (гл. мал. 2). Такія гаршкі на Верхнім замку ў Полацку былі знойдзены пераважна ў пласце XII ст. [9, рис. 42: 21–23]. На полацкім гарадзішчы яны бытавалі з XI па XIII стст.

***Тып Е*** – гэта гаршкі з невысокім, адагнутым вонкі венцам. Дыяметр гэтых венцаў ад 12 да 26 см. Гаршкі тыпу Е падзяляюцца на два варыянта. У варыянта Е 1 венца невысокае, у варыянта Е 2 яно мае значную вышыню (да 3 см), таўшчыня сценак каля 0,8 см. Некаторыя гаршкі арнаментаваны адным-двума радамі хваляў з нахілам у левы бок па тулаву. Агульная колькасць венцаў варыянта Е 1 – 36, з іх большасць знойдзена ў верхнім стратыграфічным гарызонце і верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта. На Верхнім замку такія гаршкі знойдзены ў пласце мяжы XII – XIII стст., што цалкам карэлюецца са стратыграфічным датаваннем гаршкоў на полацкім гарадзішчы [9, рис. 42: 32]. Венцаў гаршкоў варыянта Е 2 знойдзена ў колькасці 6 шт., з іх 4 – у пл. 7 (гл. мал. 2).

Венцаў гаршкоў ***тыпу Ж*** знойдзена 22 шт. Дыяметр гэтых венцаў ад 16 да 22 см. Вылучае гаршкі адна характэрная рыса: край венца ў іх загнуты ўнутр і ўтварае своеасаблівы карнізік. Гэтыя гаршкі даволі роўна прадстаўлены ў сярэдняй і верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта (пл. 9б-10 – 7 мал. 1.43). У калекцыі керамікі Верхняга замка прадстаўлена адно падобнае венца, якое датуецца 50-мі гг. XIII ст. [9, рис. 43: 14] Гаршок з гарадзішча арнаментаваны па плечуку рэльефнымі лініямі, а па краю венца – зашчыпамі.

Гаршкі ***тыпу З*** нешматлікія, знойдзены ў колькасці 8 шт. у сярэдняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта (гл. мал. 2). Гэтыя гаршкі маюць пакатыя плечукі і гарызантальна адагнуты вонкі венчык. Дыяметр венцаў ад 18 да 22 см. Паводле стратыграфіі, гаршкі тыпу З ужываліся раней за XIII ст.

Гаршкі ***тыпу К*** падзяляюцца на два варыянта. Гаршкі варыянта К 1 маюць крыху адагнутае вонкі прамое венца са скошаным звонку краем, плечукі гаршка акруглыя, дыяметр венцаў ад 16 да 26 см. Вышыня края венца не перавышае 2 см. Гаршкі варыянта К 2 маюць дыяметр 14 – 25 см і больш высокі прамы край венца (каля 2,5 – 3 см, часта аздоблены пад самым краем венца гарызантальным раўчуком па ўсяму дыяметру). Некаторыя гаршкі арнаментаваны гарызантальнымі палоскамі па плечуку, маюць зашчыпы па краю, ці аздоблены некалькімі радамі хвалістага арнаменту па тулаву. Большасць гаршкоў варыянта К 1 знойдзена ў пласце 7 (6 з агульнай колькасці 16), астатнія даволі роўна распаўсюджаны ў верхніх пластах сярэдняга і ў верхнім стратыграфічным гарызонце. Гаршкі варыянта К 2 знойдзены ў колькасці 5 шт. ў верхняй частцы сярэдняга стратыграфічнага гарызонта (пл. 6 і 7, гл. мал. 2). Гэтыя гаршкі з'яўляюцца найбольш архаічным тыпам ганчарнай керамікі на полацкім гарадзішчы. Гаршкі сфармаваны на ганчарным крузе, аднак венца ў іх няроўнае, гузаватае, у керамічным цесце зафіксаваны кавалкі буйной жарствы, венца некаторых гаршкоў злеплена ад рукі і загладжана на ганчарным крузе.

Пэўныя аналогіі раннеганчарным гаршкам тыпу К магчыма знайсці сярод групы раннеганчарнай керамікі старажытнага Пскова т. зв. «роскошного стиля» (вызначэнне С.В. Бялецкага). Датаванне гэтага посуду ў Пскове ўкладаецца ў дыяпазон канца X – пераважна першай паловы XI ст. Формы полацкага раннеганчарнага посуду тыпу К маюць аналагічна пскоўскаму начынню вертыкальна пастаўленае венца і выразны плячук, аздоблены арнаментам. Розніць полацкі посуд непараўнальна меншае аздабленне плечука як па глыбіні нанясення арнаменту, так і па яго разнастайнасці. Тым не менш, гэтая група керамікі аднолькава нешматлікая як у Пскове, так і ў Полацку. Аналагічнага посуду ў Ноўгарадзе няма [10, рис. 6: 4, 7; 11, с. 115, табл. 138: 2].

Да групы ганчарнай керамікі належаць фрагменты венцаў накрывак для гаршкоў, а таксама дзяржанні да іх. Накрыўкі маюць дыяметр 18 – 30 см і ў двух выпадках аздоблены насечкамі ў тры рады і двума радамі хвалістага арнаменту па вонкаваму краю венца.

Культурны пласт XIV – XV стст. у Полацку практычна не захаваўся. Адзінымі месцамі, дзе магчыма вызначыць напластаванні XV ст., з'яўляюцца тэрыторыя былога Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра і ўсходняя частка Верхняга замка (у межах былой пасадскай тэрыторыі). Культурны пласт XIV – XV стст. прадстаўлены чырвоным моцна ўтрамбаваным суглінкам, у якім знойдзены венцы гаршкоў і гаршковая кафля адпаведнага перыяду. Гэты пласт пачынаецца ад мацерыка і перакрываецца стратыграфічным гарызонтам XVII – XVIII стст. Забудова XIV – XV стст. на месцы «ўсходніх» раскопаў Верхняга замка вызначана паміж III і V будаўнічымі гарызонтамі [9, с. 38].

Культурны пласт адзначанага перыяду зафіксаваны лакальна ў межах асобных закрытых комплексаў. Да іх магчыма аднесці даследаваныя комплексы касцярэзных майстэрняў на Ніжнім замку [12] і Вялікім пасадзе [13], рэштках кафлянай печы ў Запалоцці [14]. Культурны пласт гэтага часу мае найбольшыя варыяцыі колеравай гамы – ад светла-шэрага да чорнага, у апошнім выпадку мае сляды развітай гаспадарчай і рамесніцкай дзейнасці. На пераважнай большасці помнікаў вылучаецца дрэнна, сапсаваны познімі перакопамі. Магутнасць пласта не перавышае 0,4 м.

Геаграфія распаўсюджвання культурнага пласта XVI – XVIII стст. не аднародная. Напластаванні XVI – XVIII стст. вылучаюцца на тэрыторыі Вялікага пасаду, на Крыўцовым пасадзе, Старой Слабадзе і лакальна – у Запалоцці, Верхнім і Ніжнім замках. Тут іх магутнасць у сярэднім роўная 1 – 1,5 м, месцамі (у мацерыковых ямах) – 3 м. Пласт XVI – XVIII стст. даволі рыхлы, пераважна цёмна-шэрага колеру, радзей светла-шэры. Мае шматлікія праслойкі і ўкрапленні, аналагічныя пласту XI – XIII стст. Пласт XVI – XVIII стст. насычаны арганікай (драўлянымі трэскамі, косткамі хатніх жывёл і гноем). Вельмі розніцца яго структура – ад вільготнага, камкаватага, шчыльна ўтрамбаванага, да зярністага і сухога. Характэрнай і яскравай рысай гэтага пласта з'яўляецца прысутнасць у ім дысперстна размешчаных канкрэцый цаглянага друзу чырвонага колеру, што надае пласту карычневае адценне [6, с. 31].

Спробы вылучыць выразны культурны пласт XVI – XVIII стст. у асобных гістарычных частках горада былі безвыніковыя. Гэты пласт адсутнічае ў заходняй частцы Запалоцкага пасада, лакальна зафіксаваны на пасадскай тэрыторыі XI – XII стст., якая размешчана на поўнач ад Запалоцця і гарадзішча. Артэфакты ранняга Новага часу, даволі абмежаваныя па асартыменту, на Ніжнім замку прысутнічаюць у перамешаных і значна пашкоджаных напластаваннях XVI – XIX стст. Затое бытавая кераміка гэтага часу з'яўляецца асноўнай катэгорыяй знаходак. Тая ж карціна назіраецца на старажытным полацкім гарадзішчы (у XVII – XVIII стст. – тэрыторыя гарадскіх могілак). Культурны пласт Ранняга Новага часу тут адсутнічае, адзінкавыя рэчы, у т. л. кераміка XVI – XVIII стст. знойдзена ў запаўненні пахавальных ям. Праведзеныя археалагічныя разведкі асобных гістарычных помнікаў, у прыватнасці Вострава, паказалі, што культурны пласт познефеадальнай пары і ранняга Новага часу на ім знівеліраваны ці пашкоджаны, і яго вылучэнне не прадстаўляецца магчымым.

Пласт XVI ст. у многіх раскопах вылучаны ў асобны стратыграфічны гарызонт (пераважна ў цэнтральнай частцы Вялікага пасада, ва ўсходняй частцы Запалоцця, а таксама на тэрыторыі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра). Гэты пласт чырвонага адцення, з праслойкамі гліны, цаглянага друза і вугалю. Яго магутнасць у сярэднім роўная 0,2 – 0,4 м.

Найгорш культурны пласт XVI – XVIII стст. захаваўся на Верхнім замку. У пераважнай большасці раскопаў ён асобна не вылучаецца з-за значнага пашкоджання і невялікай магутнасці. Выключэнне складае стратыграфія раскопа А.Р. Мітрафанава ў паўднёва-ўсходняй частцы Замкавай гары (1959 г.). Да перыяду XVI – XVIII стст. належалі I – IV будаўнічыя гарызонты [15, с. 6 – 38]. У II – III будаўнічых гарызонтах выяўлены пабудовы з падвор’ямі; IV гары-зонт, магчыма, адносіўся да XVI ст. і захаваў характэрную папярэднім гарызонтам сістэму планіроўкі [15, с. 6 – 38].

Канцом XVII ст. датуецца I будаўнічы гарызонт; II – сярэдзінай XVII ст.; у III будаўнічым гарызонце адзначаны невялікі культурны пласт – час яго існавання не быў працяглы. Па наяўнасці ў пласце характэрных рэчаў, III будаўнічы гарызонт можна датаваць першай паловай XVII ст. На жаль, адсутнасць дэталёвага апісання культурнага пласта ў межах будаўнічых гарызонтаў вельмі абмяжоўвае крынічную базу вынікаў раскопа.

На тэрыторыі паўночна-заходняй частцы Вялікага пасада (раскоп С.В. Тарасава, 1987 г.) вылучаны асобны будаўнічы гарызонт, які датуецца XVII – XVIII стст. [16, с. 5]. Да гэтага гарызонта належалі сляды вулічнай забудовы канца XVI – XVII стст. і адна зрубная пабудова.

Гаршкі першай паловы XVI ст. працягваюць вырабляцца ў традыцыйнай для папярэдніх стагоддзяў тэхніцы спіральнай ляпніны на ручным ганчарным крузе. Донца такой керамікі мае сляды падсыпкі пяску. Калі ў керамічнай вытворчасці заходняга рэгіёну ВКЛ XVI ст. гэта – час шырокага ўкаранення нажнога ганчарнага круга [17, с. 99], то ў Полацку нават у канцы XVI ст. большасць ужываных у побыце непаліваных гаршкоў была выраблена на ручным ганчарным крузе [18, с. 127].

Маюцца ўсе падставы для заключэння аб мясцовай вытворчасці белаглінянага посуду з малажалезістых глін, тым больш што белагліняны посуд аднолькавай формы з чырвонагліняным знойдзены падчас даследаванняў культурных напластаванняў пасяленняў XVI – XVII стст. Беларускага Падняпроўя і Панямоння [19, с. 33]. Донцы белагліняных гаршкоў утрымліваюць сляды падсыпкі сярэдне-і буйназярністага пяску- рачніка. Паверхня посуду загладжана падчас фармоўкі, аднак даволі няроўная – візуальна фіксуюцца сляды злучэння асобных тасмаў гліны.

У XV – першай палове XVI ст. частка гаршкоў абпальвалася ў акісліцельным асяроддзі і мела чырвоны ці карычневы колер палівы. Абпаленыя ў аднаўленчым асяроддзі гаршкі маюць шэрагліняны колер. Асобныя чырвонагліняныя гаршкі апрацаваны ў абварной тэхніцы. З другой паловы XVII ст. да 2/5 усіх гаршкоў пакрываецца палівай.

Усе гаршкі XIV – XVIII стст. падзелены на дзве групы паводле тэхналогіі фармавання на ручным і нажным ганчарным крузе (гл.: Дук, Д.У. Полацк XVI – XVIII стст [20]).

Падагульняючы адзначым, што гаршкі групы II выраблялiся ў рэчышчы развіцця заходне-і цэнтральнаеўрапейскага рамяства XVII – XVIII стст., на што ўказвае, па-першае, форма вырабаў, па-другое, тэхналагічныя прыёмы выканання (нажны ганчарны круг, склад фармовачнай масы). Відавочны пераломам у развіцці ганчарнай вытворчасці не парывае з традыцыямі папярэдняй эпохі, якія праяўляюцца ў трансфармацыі многіх ганчарных формаў XVII ст.: лакальныя асаблівасці сярэднявечнага ганчарства паўночнага рэгіёну Беларусі накладваюць адбітак на развіццё асобных груп керамічных вырабаў XVII – XVIII стст.

Такім чынам, у выніку вывучэння асноўных груп бытавой керамікі можна зрабіць высновы па часе з’яўлення і распаўсюджвання ганчарнага круга ў г. Полацку, што з’яўляецца адным з важнейшых этапаў станаўлення прафесійнага рамяства, уласна рамеснай вытворчасці і яскравай прыкметай урбаністычнай культуры [21, с. 55; 22, с. 218]. Так, кераміка культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў бытуе ў Полацку з 780-х гг. да канца X ст. З сярэдзіны X ст. большая частка ляпнога посуду прадстаўлена падпраўленымі на ручным ганчарным крузе венцамі гаршкоў. Такая кераміка знойдзена ў Запалоцці, у невялікай колькасці прадстаўлена на паселішчах каля гарадзішча і на самім гарадзішчы. Раннеганчарная кераміка XI ст. тыпу I па Г.В. Штыхаву і тыпаў Г[6] і К (варыянт К2) тыпалогіі керамікі з гарадзішча з’яўляецца самай архаічнай. Пры гэтым гаршкі тыпа I з Верхняга замка і тыпа Г і К з полацкага гарадзішча знойдзены на тэрыторыі вакольнага горада, на ўсёй плошчы Вялікага і Запалоцкага пасадаў, тэрыторый на поўнач ад Запалоцця і гарадзішча, у Старой Слабадзе разам з ляпной, падпрацаванай на ганчарным крузе керамікай, на Востраве. Гаршкі гэтых тыпаў у культурным пласце Полацка знойдзены на плошчы 180 га. Гаршкі тыпу К, знойдзеныя на полацкім гарадзішчы ў колькасці 21 шт., з’яўляюцца пераходнымі ад ляпной керамікі культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў, вызначанай як група 3 паводле знаходак на селішчы-перадграддзі і вакольным горадзе. Варыянт К2 прадстаўляе прыклад таго, як ляпны посуд групы 3 трансфармаваўся ў раннеганчарныя формы. У адрозненні ад гаршкоў тыпу I паводле Г.В. Штыхава, форма якіх шырока прадстаўлена ў культурных пластах канца X – XI стст. старажытнарускіх гарадоў [9, с. 81], гаршкі тыпу К полацкага гарадзішча выяўлены толькі ў Пскове [11, с. 115].

Працэс распаўсюджвання ганчарнага круга адбываўся ў межах другой паловы X ст. У XI ст. ганчарны посуд безумоўна дамінуе. Гэта яскрава прасочваецца на прыкладзе керамікі з заходняй частцы

[6] Тып Г гаршкоў з Полацкага гарадзішча адпавядае тыпу I гаршкоў з Верхняга замку.

Запалоцкага пасада, якая пачала засяляцца на мяжы X – XI стст. Тут ляпная кераміка адсутнічае. Радыёўглародныя даты на паселішчы і гарадзішчы пацвярджаюць датаванне культурнага пласта з ляпнымі гаршкамі, падпраўленымі на ганчарным крузе, у межах не раней за другую палову X ст.

Масавае ўкараненне тэхналогій вырабу на нажным ганчарным крузе назіраецца ў Полацку ў першай трэці XVII ст., хаця выкарыстанне ганчарнага круга адбывалася з канца XVI ст. З таго часу шырока выкарыстоўваецца і паліваная кераміка.

ЛІТАРАТУРА

1. Дук, Д. Старажытныя славяне полацкага гарадзішча (780 – 1310 гг.) / Д. Дук // БГЧ. – 2008. – № 7. – С. 21 – 27.
2. Клімаў, М.В. Новае адкрыццё ў храналогіі старажытнага Полацка / М.В. Климаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2010. – № 5. – С. 5 – 7.
3. Харитонович, З.А. Керамика городищ Северной Беларуси / З.А. Харитонович // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20 – 21 лістап. 2008 г. / пад агульн. рэд. Д.У. Дука, У.А. Лобача. – Наваполацк: ПДУ, 2009. – С. 97 – 105.
4. Шадыра, В.І. Беларускае Падзвінне (І тысячагоддзе н. э.) / В.І. Шадыра. – Мінск: ДНУ «Інстытут гісторыі НАН Беларусі», 2006. – 150 с.
5. Дук, Д.У. Ляпная кераміка і рэчавы комплекс вакольнага горада старажытнага Полацка (па выніках раскопак 2008 г.) / Д.У. Дук // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследаванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку): зб. навук. прац рэсп. навук.-практ. семінара, Полацк, 20 – 21 лістап. 2008 г. / пад агульн. рэд. Д.У. Дука, У.А. Лобача. – Наваполацк: ПДУ, 2009. – С. 9 – 30.
6. Тарасаў, С.В. Полацк IX – XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 183 с.
7. Плавінскі, М. Ляпная кераміка полацкага селішча / М. Плавінскі, Г. Штыхаў // ГАЗ. – 2006. – № 21. – С. 62 – 73.
8. Дук, Д.У. Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д.У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180 с.
9. Штыхов, Г.В. Древний Полоцк (IX – XIII вв.) / Г.В. Штыхов. – Минск, «Наука и техника», 1975. – 136 с.
10. Белецкий, В.Д. Городское ядро средневекового Пскова / В.Д. Белецкий, С.В. Белецкий. Ч. 1: Белецкий, С.В. Начало Пскова / С.В. Белецкий. – СПб., 1996. – 92 с.
11. Носов, Е.Н. Городище под Новгородом и поселения Северного Приильменья (новые материалы и исследования) / Е.Н. Носов, В.М. Горюнова, А.В. Плохов // Труды Института материальной культуры РАН. – Т. XVIII. –СПб.: Издательство «Дмитрий Буланин», 2005. – 404 с.
12. Дук, Д.У. Справаздача аб археалагічных раскопках на Ніжнім замку Полацка ў 2008 г. / Д.У. Дук // Архіў ІГНАНБ. – Воп. 1. – Спр. 2600.
13. Дук, Д. Полацкая касцярэзная майстэрня XV – першай паловы XVI стст. / Д. Дук // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. II (Вып. 2) / Уклад. М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. – Мінск : І.П. Логвінаў, 2007. – С. 86 – 101.
14. Дук, Д. Археалагічная разведка на Запалоцкім пасадзе Полацка ў 2003 г. / Д. Дук // МАБ. – 2006. – № 11. – С. 104 – 113.
15. Митрофанов, А.Р. Отчёт о раскопках Полоцкой археологической экспедиции Ин-та истории АН БССР в 1959 г. / А.Р. Митрофанов // Архіў ІГ НАНБ. – Воп. 1. – Спр. 203.
16. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 г. / С.В. Тарасов // Архіў ІГНАНБ. – Воп. 1. – Спр. 1014.
17. Зданович, Н.И. О некоторых видах неполивной посуды окислитель-ного обжига Лидского замка / Н.И. Зданович // Древнерусское государство и славяне / редкол. Л.Д. Поболь и др. – Минск: Наука и техника, 1983. – С. 98 – 99.
18. Здановіч, Н.І. Комплекс рэчаў з пабудовы XVI ст. з Полацка / Н.І. Здановіч // ГіАППЗ. – Полацк: Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік; ПГУ, 1998. – С. 125 – 140.
19. Ганецкая, І.У. Маёліка на Беларусі ў XI – XVIII ст / І.У. Ганецкая. – Мінск, 1995. – 120 с.
20. Дук, Д.У. Полацк XVI – XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.

21. Горюнова, В.М. О появлении раннекруговой керамики в Северо-Восточной Руси / В.М. Горюнова, В.А. Лапшин // Археология, история, нумизматика, этнография Восточной Европы: Сб. статей памяти проф. И.В. Дубова / Под ред. А.Н. Кирпичникова, В.Н. Седых. – СПб.: Изд-во С.-Петербургского ун-та, 2004. – С. 55 –72.
22. Ляўко, В.М. Ганчарны круг / В.М. Ляўко // Археалогія Беларусі: энцыклапедыя. У 2 т. Т. 1. А – К / рэдкал.: Т.У. Бялова (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П.Броўкі, 2009. – С. 218.

## АСОБНЫЯ АСПЕКТЫ РАЗВІЦЦЯ ПАЎНОЧНАЙ ЧАСТКІ ВЯЛІКАГА ПАСАДА Г. ПОЛАЦКА (ПА ВЫНІКАХ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ 2009 г. НА ВУЛ. Ф. СКАРЫНЫ)

***канд. гіст. навук М.В. КЛІМАЎ***
***(Інстытут гісторыі НАНБ, Мінск)***

У 2009г. аўтарам артыкула былі праведзены археалагічныя працы ў г. Полацку на пляцоўцы, якая змяшчалася паміж лазняй і гарадскім архівам, паміж вуліц Ф. Скарыны, Войкава, Сака і Ванцэці (мал. 1).




Мал. 1. Агульны план знаходжання месца археалагічных прац 2009 – 2010 гг.

Археалагічныя працы насілі выратавальны характар і былі выкліканы рашэннем пабудаваць філіял № 216 «Беларусбанка» у г. Полацку і падвесці да будучага будынка ўсе неабходныя камунікацыі. Асноўныя працы былі разгорнуты падчас стварэння катлавана для будучага філіяла № 216 і складаліся з наглядаў за ўладкаваннем катлавана і пракладаннем інжэнерных камунікацый для будынка філіяла і археалагічных раскопак на плошчы 244 м$^2$ на месцы катлавана[7]. Даследуемая тэрыторыя адносілася да гістарычнай часткі Полацка – Вялікага пасада. У гэтай частцы пасада археалагічныя даследаванні раней праводзіліся Г.В. Штыхавым і С.В. Тарасавым. За 30 м на захад ад будучага катлавана ў 1964-м годзе Г.В. Штыхавым былі зачышчаны сценкі катлавана пад фундаменты дзіцячага садка (існуе зараз) і знойдзены матэрыялы, характэрныя для XI – XIII стст.: венчыкі керамічнага посуду і два біканічных шыферных прасліца [9, с. 29]. Археалагічныя раскопкі С.В. Тарасава на плошчы 84 кв. м каля воданапорнай вежы, якая знаходзіцца за 20м на паўночны-захад ад катлавана таксама вызначаліся наяўнасцю керамічных матэрыялаў XI – XII стст. [2, с. 19]. Таму прысутнасць культурнага пласта на месцы будучага катлавана, запланаванага плошчай 1045,5 м$^2$ не выклікала сумнення. Але як паказалі далейшыя працы такое меркаванне было памылковым.

[7] Дапамога падчас правядзення асобных этапаў археалагічных прац аказвалася з боку П.М. Кенько, Д.У. Дука, А.А. Салаўёва, І.У. Магалінскага, студэнтаў 2-га курса гістарычнага факультэта Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, за што прыносім ім удзячнасць.

Падчас археалагічнага нагляда за выкопваннем катлавана было засведчана амаль поўнае знішчэнне культурнага пласта, які захаваўся часткова толькі на 4-х участках і яго магутнасць вагалася ў межах 0,1 – 0,45 м. Астатні культурны пласт або быў знішчаны і нават вывезены з данай пляцоўкі, або перавернуты і перамяшаны ў выніку існавання на гэтым месцы кацельні. Ад былой кацельні ў запаўненні катлавана засталіся каменныя падмуркі, часткі цагляных сценаў, кавалкі металічных трубаў. Акрамя артэфактаў ХХст. луракопны пласт вызначаўся наяўнасцю манет позняй чаканкі, сярод якіх неабходна адзначыць наступныя: солід-бараці́нчык 2-й паловы XVII ст., капейкі 1798г. і 1898 г. (Расія), манета «10 фенінгаў, 1942 г., (Германія). Для археалагічных раскопак былі вызначаны 4 асобных участкі з захаваным культурным пластом (мал. 2), які не перавышаў 0,4 – 0,5 м і стратыграфічна вызначаўся па глыбіні ў межах 2-х раскопачных пластоў № 7 і № 8, якія адлічваліся ад дзённай паверхні па краі катлавана.




Мал. 2. План асноўных участкаў археалагічных раскопак у межах катлавана будучага будынка банка

Як паказалі далейшыя археалагічныя доследы пластоў № 7 і № 8, яны адлюстроўвалі адзін будаўнічы гарызонт, пераважаючая колькасць знаходак з якога датавалася ў межах XI – XIII стст. У выніку правядзення археалагічных доследаў былі вызначаны асноўныя аспекты развіцця паўночнай часткі Вялікага пасада. Спынемся ніжэй на характарыстыцы вылучаных у выніку доследаў аспектах.

**Храналагічны аспект**. Адзін з важных аспектаў, які вынікаў з аналізу закрытых комплексаў і матэрыялаў у месцы доследаў. Пры археалагічных раскопках была выяўлена значная колькасць фрагментаў керамічных начын-

няў, якія датаваліся ў шырокіх храналагічных межах, XI – XVIII стст. Разам з тым, у рэштках культурнага пласта і, асабліва, на перадмацерыковым узроўні фіксаваліся венчыкі к. X – 1-й паловы XI ст. (мал. 3: 1 – 9). Падобная кераміка адзначалася і ў шэрагу ям (мал. 4: 5 – 15).




Мал. 3. Асноўныя катэгорыі знаходак к. X – XIII стст.




Мал. 4. Комплексы мацерыковых ямаў

Асабліва каштоўным, з пункту гледжання храналогіі, выступае комплекс ямы № 1 і кантэкст знаходак побач з ямай у пласце. У верхняй частцы ямы на мяжы з передмацерыком была выяўлена частка манеты, падражанне дзірхама канца Xст.[8], які фактычна «закрываў» керамічны комплекс у яме (гл. мал. 4: 3), з якой таксама паходзілі складныя шалі (гл. мал. 4: 3). Побач з ямай, у слоі былі выяўлены такія рэдкія знаходкі як: паса-

[8] Прыносім удзячнасць Вяч. С. Куляшову за вызначэнне манеты

вая накладка, зробленая з бронзы і пакрытая белым металам (мал. 9:3); лірападобная спражка[9]; фрагмент аднабаковага касцянога грэбяня (мал. 3:13); свінцовая таварная пломба. Акрамя керамікі і вышэй указанных рэчаў у якасці маркераў з адноснай храналогіяй у межах X – XIII стст. выступалі такія знаходкі як: фрагменты керамікі к.XI – XIII стст. (мал. 4:16 – 18); фрагменты амфар; фрагмент золаташкляной пацеркі (гл. мал. 3: 10); шыферныя прасліцы (мал. 3:11/ паказана адно з 6 экзэмпляраў); ключ ад кубічнага замка (гл. мал. 3: 14). Большасць з вышэй указаных храналагічных маркераў мела істотны перыяд бытавання ў Полацку. Напрыклад, перыяд бытавання амфар, якія знаходзіліся ў культурным пласце Полацка акрэсліваўся ў межах X – ¼ XIII стст. [8, с. 32, 138 – 139, мал. 43, 44].

Для больш позняга этапа жыццядзейнасці на месцы катлавана было выяўлена даволі шмат артэфактаў XVI – XVIII стст., сярод якіх вылучаюцца наступныя катэгорыі рэчаў: фрагменты керамічнага тэракотавага і паліванага посуду (мал. 5: 1 – 8), поўнапрофільныя начынні XVI – XVIII стст.(мал. 5:9 – 10), фрагменты люлек (мал. 6:1 – 3), гліняныя шарыкі для гульні ў мурмельшпіль (мал. 6:4 – 6), ключ (мал. 6:7), касцяная (мал. 6:8) і бронзавая накладкі (мал. 6:9) для нажоў з тронкавымі дзяржальцамі, пярсцёнак (мал. 6:10), свінцовыя кулі (мал. 6:11 – 15) і кулялейка (мал. 6:16), абутковыя падкоўкі (мал. 6:17/прадстаўлены адзін з 6 экзэмпляраў), свінцовы ваконны пераплёт (мал. 6:18).




Мал. 5. Фрагменты керамічнага посуду, характэрныя для перыяду XVI – XVIII стст.

[9] Артэфакты аналізуюцца ў асобным сумесным артыкуле аўтара і П.М. Кенько




Мал. 6. Асноўныя катэгорыі рэчаў XVI – XVIII стст. з месца археалагічных прац

Усе вышэй пералічаныя артэфакты XVI – XVIII стст. выступалі ў якасці характэрных складнікаў матэрыяльнай культуры горада і выяўляліся пры ранейшых археалагічных доследах [1, с. 102 – 06, с. 118 – 121, 143 – 145, 150]. Такім чынам, храналагічна добра вызначаецца два перыяды жыццядзейнасці ў межах раскопа па вул. Ф. Скарыны.

**Вытворчы аспект.** Падчас археалагічных раскопак былі выяўлены сведчанні некалькіх рамесных заняткаў, характэрных для даннай часткі тэрыторыі. На апрацоўку чорнага метала ўказвалі наступныя сведчанні: шлакі, кроплі металу, фрагменты соплаў. Апрацоўка чорнага метала была ўласціва для гэтай часткі пасада ў перыяд XI – XIII стст. Напрыклад, у пласце кв. А-9 утрымліваліся шлакі памерамі: 7 × 8 см, 5 × 6 см, фраг-

менты керамічнага посуду XI ст. і фрагменты амфар, што ўскосна можа даваць адносную храналагічную веху для данных шлакаў. Але кампактнае згрувошчванне шлакаў паходзіла з участка III, кв. Ж-21. Шлакі канцэнтраваліся ў межах невялікай праслойкі, разам з асобнымі камянямі і фрагментам керамічнага белаглінянага сопла. Знаходжанне шлакаў ізноў жа падымае пытанне аб характары металаапрацоўчай дзейнасці ў горадзе. Яна насіла небяспечны характар, таму канцэнтравалася побач з воднымі крыніцамі. Так вялікая колькасць шлакаў, выяўленых у 2008 г. у Запалоцці тлумачылася блізкасцю р. Палаты, тое ж назіралася ў нашым выпадку [4, с. 42]. У выпадку з даследаванай часткай пасада трэба казаць аб тым, што падыход да стромкага берага р. Палаты пачынаўся за 30 – 35 м ад месцаў выяўлення шлакаў. Не трэба выключаць, што ў перыяд X – XIII стст. у гэтай частцы пасада знаходзілася ручаіна.

На аснове ўскосных дадзеных магчыма дапускаць існаванне на месцы раскопак у X – XIII стст. існаванне гарбарнай справы. Прысутнасць вялікай колькасці вапны на месцы раскопа і доступ да вады (побач р. Палата) сведчылі на карысць таго, што ў XI – XIII стст. у гэтай частцы горада ажыццяўлялася апрацоўка скуры. Падчас першапачатковага этапа апрацоўкі скуры выкарыстоўвалася вапна [6, с. 268]. У выніку археалагічных прац былі выяўлены і сляды апрацоўкі косткі, аб чым сведчылі дзве нарыхтоўкі з рога (мал. 7: 8, 10), загатоўка гузіка (мал. 7:9). На асобныя аспекты вытворчай дзейнасці ўказвалі і касцяныя прылады працы (мал. 7: 1-7).




Мал. 7. Прылады (1 – 7) і нарыхтоўкі вырабаў (8 – 10) з косткі

Дынамічна на даследаванай плошчы развівалася і шавецкая справа, аб наяўнасці якой сведчылі бронзавыя (мал. 8: 1 – 4) і жалезныя (мал. 8: 6 – 9) іглы, спружынныя нажніцы (мал. 8: 5). Бронзавыя іглы мелі выгнуты стан, які найбольш быў прыдатны для пашыву скуранога абутку. Адлюстраваннем бандарнай справы з'яўляецца выяўленне на даследуемай плошчы ўторнай пілы (мал. 8: 10). Падобныя пілы вядомы па матэрыялах з Давыд-Гарадка і Ноўгарада і прызначаліся вырабу пазоў (утораў) драўляных клёпках [3, с. 373, мал. 100:5; 5, с. 43 – 44, рис. 28].




Мал. 8. Прылады і інструменты з археалагічнага раскопа

**Гістарычны аспект.** На аснове прааналізаваных матэрыялаў вызначаецца і гістарычны аспект у развіцці даследаванай паўночнай часткі Вялікага пасада, якая пачала засяляцца ў к. X – 1-й палове XI ст. Фарміраванне данай часткі пасада адбывалася без пакватальнага падзела па характару рамесніцкіх заняткаў і насіла хаатычны характар, што прывяло да скаплення ў адным месцы рамеснікаў многіх прафесій, прааналізаваных вышэй. Акрамя рамеснікаў у вывучанай частцы пасада пражываў і прадстаўнік феадальнага саслоўя, прыналежнасць да якога характарызавала пасавая накладка, як маркер дружыннай культуры (мал. 9: 3). Комплекс знаходак (шалі, падражанне дзірхама, пломбы (мал. 9: 1/*адлюстраваны 1 экз. з ліку 7*), гірка-разнавага[10] (мал. 9: 2) якi паходзiў з участкаў II і IV раскопу сведчыў на карысць таго, што адным з накірункаў дзейнасці жыхароў у гэтай частцы Полацка з'яўляўся гандаль. Безумоўна, што вытворчая функцыя тэрыторыі спалучалася з яе жылым характарам, аб чым сведчаць знаходкі пабытовага характару: нажы, асялкі, крэсівы, керамічны посуд. Тое ж пацвярджае вялікая колькасць костак. Акрамя костак, якія належылі хатняй жывёле сустракаліся сківіцы і іклы дзікіх кабаноў, чэрап мядзведзя. На ўчастку IV (квадраты З-23, З-24; І-23, І-24) быў вызначаны развал печы, у аснове канструкцыі якой былі гліна і камяні, які захаваўся толькі часткова. У гэтай пабудове былі выяўлены свінцовыя таварныя пломбы, але больш аб занятках жыхароў пабудовы сказаць было цяжка.

Выклікае пытанне этнічная прыналежнасць часткі жыхароў ў перыяд XI – XIII стст., якія насілі рэдкія для Полацка ўпрыгожанні, сярод якіх вылучаецца частка арнаментаванага бранзалета (мал. 9: 4), часткі скроневых калец (мал. 9: 5, 7), ланцугатрымальнік, характэрны для балцкага этнічнага масіву (мал. 9: 6). Гістарычна не магчыма зрабіць і поўную атрыбуцыю праслоек пажара, якія фіксаваліся ў межах катлавана. Вялікая колькасць вуголля прасочвалася ў цэнтральнай частцы ўчастка 1, дзе кавалкі керамічнага посуду фіксаваліся сярод вуголля, камянёў і фрагментаў абпаленай гліны (глінянай абмазкі). Укажам на яшчэ адзін храналагічны маркер адносна вышэй указаных квадратаў, якія ўтрымлівалі сляды пажару. Тут быў засведчаны «сівы» колер мацерыка, які звычайна пакідае пажарышча. Сляды пажару фіксаваліся і ў ямах. Ніжняй храналагічнай мяжой, якой магчыма датаваць пажар з'яўляецца к. XI ст. Характар пажару не зусім зразумелы. Заўважым, што на ўзроўні раскопачнага пласта № 7 былі выяўлены два наканечніка стрэл, адзін з якіх меў характэрнае пашкоджанне, затупленне падчас выкарыстання (мал. 9: 8, 9). Іншых доказаў вайсковых дзеянняў раскоп не ўтрымліваў.

[10] Атрыбутавана ў якасці гіркі Ш.І. Бекцінеевым




Мал. 9. Асобныя групы артэфактаў, якія адлюстроўваюць гістарычны аспект

Аб храналагічным перыядзе XIV – XV стст. дакладна нічога сказаць не магчыма. З перыядам XVI – XVIII стст. разам з вышэй указанымі храналагічнымі маркерамі можа звязвацца і існаванне некалькіх кантруктыўных элементаў. Першы з іх фіксуецца амаль па лініі захад-усход і прадстаўлены рэшткамі драўляных сваяў-слупоў, іх прызначэнне застаецца не зразумелым. Адна з сваяў, дыяметрам 0,25 м была расчышчана ў кв. Б-8. Падобныя рэшткі сваяў назіраліся і ў квадратах Б-24 і Г-23.

Другі аб’ект, які паходзіў з кв. Б-19 і В-19 адносіўся да падпечка, памерамі: 0,9 × 1,65 м, выцягнутага па лініі: паўднёвы захад – паўночны ўсход. Вонкавыя сценкі падпечка былі зроблены з дошак, замацаваных па кутах невялікімі вертыкальнымі брусамі, ад якіх засталіся сляды парахні, За дошкамі, з унутранага боку сценкі фармаваліся глінай. Падобныя канструкцыі падпечкаў добра вядомы па матэрыялах Полацка і Віцебска [7, с. 25; 9, с. 46]. Падпечак быў добра «пасажаны» у ранейшы па часе культурны пласт, на яго сценках прасочваліся рэшткі культурнага пласта і вуголля. З унутранага боку з гліны было сфармавана аснаванне. Ва ўнутранай частцы падпечка былі знойдзены часткі цэглы, памерамі: ? × 6,5 × 14 см. Пасля зачысткі перадмацерыка, на ім дакладна прасочваліся сляды драўляных дошак. Над падпечкам выяўлены, у асноўным, матэрыялы XVIII – XIX стст. Магчыма, што падпечак насіў позні характар і быў пабудаваны не раней XVIII ст.

Істотную цікавасць уяўляе знаходка ў цёмна-шэрым запаўненні пласта, з вуголлем гербавай, каробкавай кафліны, якая захавалася амаль поўнасцю. Гэта кафліна была ідэнтыфікавана. На ёй быў адлюстраваны герб Бенядзікта Паўла Сапегі (2-я палова XVII ст.)[11]. Не выключана, што кафліна ў адзіным экзэмпляры была вынесена на пэўную адлегласць ад свайго першапачатковага месцазнаходжання, бо іншых фрагментаў кафлін і слядоў сподачнай часткі кафляной печы ў раскопе не засведчана. На карце лакалізацыі кафлін полацкай шляхты кафля, якая б належыла Бенедзікту Паўлу Сапезе не значыцца [2, мал. 34].

Разгледжаныя матэрыялы дазваляюць казаць аб тым, што ў развіцці паўночнай часткі Вялікага пасада назіралася некалькі этапаў, ранні з якіх неабходна звязваць з к. X – 1-й паловай XIII стст. На прыкладзе матэрыялаў вышэй указанага перыяда рэльефна бачна складанне пасада як месца пражывання рамеснікаў і гандляроў, зручнасць знаходжання для якіх была звязана з наяўнасцю побач р. Палаты. Пажар і на-

[11] Прыносім удзячнасць за вызначэнне А. Шаландзе

канечнікі стрэл сведчаць аб невядомых для нас падзеях. Культурны пласт XIV – XVIII стст. быў амаль поўнасцю знішчаны, разам з тым, атрыманыя матэрыялы сведчылі аб наяўнасці ў гэтай частцы пабудоў простых гараджан і магната Бенедзікта Паўла Сапегі.

ЛІТАРАТУРА

1. Дук, Д.У. Полацк XVI – XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д.У. Дук . – Наваполацк: ПДУ, 2007 – 268 с.
2. Дук, Д.У. Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д.У. Дук. – Наваполацк : ПДУ, 2010. – 180 с.
3. Звяруга, Я.Г. Рэчавы інвентар / Я.Г. Звяруга // Археалогія Беларусі: У 4-х т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX – XIII стст.).—Мн.:Беларуская навука, 2000. – С. 370 – 422.
4. Клімаў, М.В. Новыя звесткі аб гісторыі Запалоцкага пасада г. Полацка (па выніках раскопак 2008 г.) / М.В. Клімаў // Віцебскія старажытнасці. Мат-лы навук. канф., прысвечанай 50-годдзю знаходкі берасцяной граматы ў Віцебску і 150-годдзю з дня нараджэння А.Р. Брадоўскага, Віцебск, 22 – 23 кастрычніка 2009. – Мінск: Медысонт, 2010. – С. 39 – 48.
5. Колчин, Б.А. Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого / Б.А. Колчин. – Материалы и исследования по археологии СССР. – М.: Наука, 1959. – С. 7 – 120.
6. Колчин, Б.А. Ремесло / Б.А. Колчин // Древняя Русь. Город. Замок. Село. – М.: Наука, 1985. – С. 244 – 297.
7. Левко, О.Н. Витебск XIV – XVII вв. (Стратиграфия, хронология, социально-историческая топография и технология производств) / О.Н. Левко. – Минск: Наука и техника, 1984. – 120 с.
8. Тарасаў, С.В. Полацк IX – XVII стст.: Гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў . – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 183 с.
9. Штыхов, Г.В. Древний Полоцк / Г.В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 135 с.

## ТАПАГРАФІЯ І ПЛАНІРОЎКА ГАРАДЗІШЧАЎ МІЖРЭЧЧА ДЗІСНЫ І УШАЧЫ

***А.Л. КОЦ***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*Прадстаўлены вынікі даследаванняў гарадзішчаў міжрэчча Дзісны і Ушачы ў 2010 г. Разгледжана тапаграфія умацаваных паселішчаў. Асабістая ўвага нададзена абарончай сістэме і ўездам на гарадзішча.*

Асноўным тыпам паселішчаў жалезнага веку былі гарадзішчы. Яны былі шырока распаўсюджаны і ў сярэднявеччы. Месца выбіралася з такім разлікам, каб яно было максімальна абаронены прыроднымі ўмовамі ў выглядзе рэчак, ручаёў, балот і стромкіх схілаў. З неабароненага, напольнага боку пагоркі ці мысы ўмацоўваліся сістэмай штучных пабудоў, якія складаліся з драўляных агароджаў, земляных валоў і рвоў. Часам для пабудовы гарадзішчаў выкарыстоўваліся высокія адзіночныя ўзгоркі, размешчаныя сярод даліны або каля ракі. Форма пляцоўкі гарадзішча залежыла ад канфігурацыі выбранага ўчастка і характару абарончых умацаванняў на вяршыне і схілах. Пад час фарміравання ўмацаванага паселішча значная ўвага надзялялася ўзвозам.

Існуюць пэўныя праблемы ў выяўленні і даследаванні ўзвозаў на гарадзішча. Іх можна назваць агульнымі для вывучэння ўсіх гарадзішчаў жалезнага веку і ранняга Сярэднявечча. Галоўным чынам гэта стан захаванасці помніка. Значныя пашкоджанні помнікам археалогіі нанаслі гаспадарчая дзейнасць чалавека ў больш позні час, прыроднае разбурэнне (выветрыванне культурнага слою, разбурэнне схілаў ракой, пашкоджанне помніка ляснымі насаджэннямі, апаўзанне культурнага пласта на схілы і інш.), перабудова гарадзішчаў іх насельнікамі ў жалезным веку і Сярэднявеччы.

Арэал днепра-дзвінскай культуры і арэал культуры штрыхаванай керамікі на Поўначы Беларусі можна разглядаць адзінай тэрыторыяй, так як тут сходныя фізіка-геаграфічныя ўмовы пражывання і ідэнтычны ўзровень сацыяльна-эканамічнага развіцця насельніцтва. Разглядаючы тэму абарончых умацаванняў і тапаграфіі гарадзішчаў даследчыкі абыходзяць увагай праблему ўзвозаў на гарадзішча. Найбольш верагодна, што абарончыя ўмацаванні ахоўвалі ўзвоз на гарадзішча і апошнія фарміраваліся дзякуючы форме і месцу ўзвоза.

Пад час ахеалагічных разведак 2010 г. на тэрыторыі Дзісны і Ушачы было выяўлена, што тапаграфічныя сляды ўзвозаў на некаторых гарадзішчах добра захаваліся. На гарадзішчах Старыя Зябкі, Брыкіцы, Перавоз дакладна зафіксаваны сляды ўзвозаў. На гарадзішчах Шчаўкуны, Свіла І і Паддубнікі яны яскрава не прасочваюцца, але можна выказаць меркаванні дзе маглі размяшчацца ўзвозы (мал. 1).




Мал. 1. Карта гарадзішчаў, на якіх захаваліся знешнія прыкметы ўзвозаў

Гарадзішча **Брыкіці** знаходзіцца на правым беразе р. Свіліцы. З заходняга боку каля гарадзішча размяшчаецца селішча. Вышыня пагорка, на якім размяшчаецца паселішча, дасягае 18 м. Форма пляцоўкі гарадзішча трохкутная, выцягнута па лініі захад-усход у бок мыса. З 3-х бакоў паселішча мае стромкія схілы да ракі, якая акаляе гарадзішча. З напольнага, заходняга боку пляцоўка абаронена 2-ма валамі і 2-ма рвамі. Памеры аднаго вала складаюць: даўжыня – 40 м, вышыня з боку гарадзішча да 4 м, з боку селішча – 2 – 2,5 м, шырыня верхняй пляцоўкі вала – 3 – 4 м. Другі вал (?) насыпаны па краю пляцоўкі. Яго вышыня 3 – 5 м, даўжыня – 35 м. Адзін роў з напольнага боку глыбінёй да 1 м, шырынёю да 2-х м. Другі – паміж валамі (глыбіня да 4 м, шырыня да 6 м).

Верагодна, што на гарадзішча было два ўзвозы (мал. 2).




Мал. 2. План гарадзішча Брыкіці (пункцірнай лініяй пазначаны месцы ўзвозаў)

Адзін яскрава прасочваецца з заходняга боку (мал. 3).



Мал. 3. Узвоз з заходняга боку на гарадзішча

Ён, па сярэдзіне, праразае валы і выводзіць на пляцоўку. Сляды ўзвозу добра захаваліся, што, верагодна, сведчыць аб яго больш познім паходжанні. Другі ўзвоз мог быць з усходняга боку на мыс. Тут прасочваецца больш пакаты схіл чым астатнія, але ён вельмі моцна пашкоджаны каранямі старых дрэваў.

Узвоз з боку ракі характэрны для мысавых гарадзішчаў [1, с. 62 – 63]. Але падцвердзіць гэта можна толькі дзякуючы археалагічным раскопкам на помніку.

Гарадзішча **Перавоз** знаходзіцца на левым беразе р. Шоша, пры ўпадзенні ў яе мясцовага безназоўнага ручая з левага боку. Умацаванае паселішча размяшчаецца на невысокім пагорку. Яно было ўмацавана кальцавым валам па перыметры пляцоўкі (захаваўся ў вышыню да 0,3 м, шырынёю – 3 – 4 м) і з паўднёва-ўсходняга боку дугападобным валам (вышыня – 0,5 м, шырыня да 6 м). Паміж валамі быў prакапаны роў (шырыня каля 3-х м), роў захаваўся з паўночна-ўсходняга боку гарадзішча (шырыня да 3 м, глыбіня да 0,5 м). Яшчэ адзін роў атачаў паселішча з заходняга боку каля падножжа гарадзішча (шырыня да 2 м, глыбіня да 0,4 м). З паўночна-заходняга боку гарадзішча акаляе невялікае балота. Роў каля падножжа злучаў балота з ручаём, таму, магчыма, быў запоўнены вадой.

Узвоз на гарадзішча знаходзіўся з боку ракі (мал. 4).




Мал. 4. План гарадзішча Перавоз (пункцірнай лініяй пазначана месца ўзвозу)

У гэтым месцы візуальна прасочваецца больш пакаты схіл. Шырыня ўзвозу 3 – 4 м. Як адзначае А.А. Егарэйчанка, характэрнай рысай мысавых гарадзішчаў з’яўляецца ўзвоз з боку ракі [1, с. 62 – 63].

Гарадзішча **Старыя Зябкі** размяшчаецца на высокім пагорку, на беразе невялікага балота, якое злучана ручаём з воз. Доўгае. Каля падножжа гарадзішча, з паўночна-ўсходняга боку, выяўлены сляды селішча. Вышыня пагорка, на якім знаходзіцца ўмацаванае паселішча, вагаецца ў межах 7-15 м, у залежнасці ад living рознага ўзроўню падэшвы гарадзішча. На помніку размяшчаюцца сучасныя вясковыя могілкі (мал. 5).




Мал. 5. План гарадзішча Старыя Зябкі (пункцірнай лініяй пазначаны месцы ўзвозаў)

Гарадзішча складаецца з двух асобных частак. 1-ая з’яўляецца пад’ездам на гарадзішча (мал. 6).



Мал. 6. Узвоз на гарадзішча Старыя Зябкі. Справа размяшчаецца вал. Фотаздымак з пляцоўкі гарадзішча

Яна ўяўляе сабой пясчаны насып са стромкімі схіламі даўжынёю 88 м, шырынёю да 5 м, вышынёю да 7 м. Культурны слой тут не прасочваецца (вызначана па ямах, з якіх людзі бяруць пясок на могілкі). Відавочна, што насып прыроднага паходжання. 2-ая пляцоўка з'яўляецца месцам, дзе, непасрэдна, жылі людзі. З левага боку ад узвозу на 2-ую пляцоўку захаваўся дугападобны вал. Даўжыня захаваўшайся часткі 9 м, вышыня да 1 м. З правага боку ад узвозу на схіле гарадзішча знаходзіцца тэраса. Даўжыня яе каля 40 м. Тэраса злучае селішча і гарадзішча. Такім чынам, магчыма што яна з'яўлялася ўзвозам з селішча на гарадзішча. Аналагічных прыкладаў умацаваных паселішчаў не выяўлена.

Гарадзішча **Шчаўкуны** размяшчаецца на правым беразе р. Аута. Паселішча знаходзіцца на перасечанай мясцовасці на высокім пагорку ў лесе. Вышыня пагорка дасягае 15 м. З паўночнага і заходняга бакоў яго акаляе р. Аута. Адлегласць ад падножжа пагорка да ракі каля 60 м. Пляцоўка гарадзішча авальнай формы, выцягнута па лініі паўночны-ўсход – паўднёвы-захад. Яе даўжыня – 73 м, шырыня –33 м.

Гарадзішча мае складаную сістэму абарончых умацаванняў. Два дугападобныя валы размешчаны на пляцоўцы гарадзішча з паўночна-ўсходняга боку і паўднёва-заходняга бакоў. Валы моцна аплыўшыя. Іх вышыня складае: першага – 0,2 м, другога – 0,25 м, даўжыня суадносна 24 м і 30 м.

Два дугападобныя валы размяшчаюцца на схілах гарадзішча. Адзін абараняе гарадзішча з паўночна-ўсходняга боку, другі – з паўднёва-заходняга. Даўжыня першага – 65 м, другога – 38 м, вышыня 1,5 м і 1 м суадносна. Паміж валамі і схіламі гарадзішча знаходзяцца глыбокія рвы. З паўночнага, усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў на схіле гарадзішча захавалася тэраса (яна злучае два валы). З паўночнага боку помніка знаходзіцца пясчаны насып, які злучаны з гарадзішчам на ўзроўні тэрасы побач з валам (мал.7).




Мал. 7. План гарадзішча Шчаўкуны (пункцірнай лініяй пазначана месца ўзвозу)

Насып прыроднага паходжання, выцягнуты па лініі поўнач-поўдзень. Верагодна, што насып быў узвозам на гарадзішча. Далей узвоз пралягаў па тэрасе ўздоўж пляцоўкі і з паўднёва-заходняга боку мог быць уезд на пляцоўку, дзе візуальна прасочваецца больш пакаты схіл. Магчыма, што тут магла быць зроблена драўляная канструкцыя (?), па якой можна было падняцца на гарадзішча.

Гарадзішча **Паддубнікі** размяшчаецца на левым беразе ручая Сквірэль. Яно знаходзіцца на высокім пагорку (вышынёю да 10 м) са стромкімі схіламі. Пляцоўка паселішча авальная. На заходнім схіле прыблізна на 3-4 м ніжэй пляцоўкі гарадзішча размяшчаецца невялікая тэраса шырынёю да 7 м, даўжынёю каля 60 м. З паўночна-заходняга боку схіл больш пакаты. З гэтага боку схіл падмываецца ручаём і разбураецца, утвараючы абрыў. Гарадзішча мае складаную сістэму абарончых умацаванняў: з усходняга боку размяшчаюцца 5 валоў вышынёю да 2,5 м і 4 рвы, глыбінёю 1,8 – 2 м [3, с. 54].

А.Р. Мітрафанаў лічыць, што ўзвоз на гэтым гарадзішчы размяшчаўся з паўночна-заходняга боку [3, с. 54]. Але, верагодна, што ўзвоз меў больш складаную структуру. Пачынаўся ён каля падножжа гарадзішча з паўднёва-ўсходняга боку. Пралягаў праз сістэму валоў і рвоў, якія былі ўзведзены для абароны

ўзвозу. На ўзроўні чацвёртага вала ўзвоз выходзіў на тэрасу (мал. 8) на заходнім схіле і з паўночна-заходняга боку быў уезд на пляцоўку.




Мал. 8. План гарадзішча Паддубнікі (па А.Р. Мітрафанаву; пункцірнай лініяй пазначана месца ўзвозу)

Апошняе дакладна высветліць не магчыма, бо з паўночна-заходняга боку адбываецца разбурэнне схілу. Для ўдакладнення дадзенага варыянту ўзвозу патрабуецца археалагічнае вывучэнне тэрасы і сістэмы валоў і рвоў гарадзішча.

Гарадзішча **Svіла I** размяшчаецца на высокім пагорку (вышыня над поймай 18 – 20 м), на левым беразе безназоўнага ручая, які злучае невялікае возера каля падножжа ўмацаванага паселішча і воз. Пліса. Ручай з трох бакоў акаляе гарадзішча. Акрамя таго яно мае магутную абарончую сістэму. Яна складаецца з трох кальцавых валоў і двух рвоў. Унутраны вал (вышыня каля 1,5 м, шырыня ў ніжный частцы каля 10 м) насыпаны па краі пляцоўкі, другі (вышыня 2 – 2,5 м, шырыня каля 10 м) – на схіле пагорка на 5 м ніжэй унутранага вала, трэці (знешні, вышыня 1,5 – 2 м, шырыня 8 – 10 м) – уздоўж асновы пагорка. Рвы размешчаны паміж валамі, іх глыбіня 1,5 – 2 м, шырыня 10 – 15 м [2, с. 238]. Па ўсім перыметры гарадзішча валы маюць аднолькавую вышыню, толькі з паўночна-заходняга боку зафіксавана паніжэнне шапкі кожнага з трох валоў (па адной лініі) на 0,4 – 0,5 м. У гэтым жа месцы зафіксавана, што глыбіня рвоў меншая чым па ўсім перыметры на 0,5-0,7 м. Верагодна, што ў дадзеным месцы быў узвоз на гарадзішча (мал. 9).



Мал. 9. План гарадзішча Свіла I (па Г.В. Штыхаву; пункцірнай лініяй пазначана месца ўзвозу)

Такім чынам, пад час археалагічных разведак былі выяўлены тапаграфічныя сляды ўзвозаў на шэрагу гарадзішчаў Міжрэчча Дзісны і Ушачы. Дакладна можна сказаць, што ўзвозы былі добра ўмацаваны. Візуальна, валы, якія абараняюць узвозы, прасочваюцца на гарадзішчах Шчаўкуны, Старыя Зябкі, Паддубнікі. Былі распаўсюджаны ўзвозы з боку ракі (Перавоз, Брыкіці). А таксама асобнай катэгорыяй выступаюць узвозы з селішча на гарадзішча (Старыя Зябкі, Брыкіці). Распрацоўка дадзенай тэмы раскрые больш шырока тэму грамадскага і ваеннага жыцця насельніцтва гарадзішчаў і фарміравання абарончых умацаванняў.

ЛІТАРАТУРА

1. Егорейченко, А.А. Культура штрихованной керамики / А.А. Егорейченко. – Минск: БГУ, 2006. – 207 с.
2. Мітрафанаў, А.Р. Падсвільскі пасялковы савет. Гарадзішча / А.Р. Мітрафанаў, І. Свіла // Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць / Рэдкал.: С.В. Марцэлеў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск: Бел. Сав. Энцыкл., 1985. – С. 238.
3. Харитонович, З.А. Городище Поддубники / З.А. Харитонович // Памятники эпохи железа и средневековья Беларуси. Материалы по археологии Беларуси. К 60-летию О.Н. Левко. – Минск, 2007. – № 14 – С. 54 – 85.

## ГІСТОРЫЯ ДАСЛЕДАВАННЯ АРХЕАЛАГІЧНЫХ ПОМНІКАЎ ЭПОХІ СТАРАЖЫТНАЙ РУСІ Ў БАСЕЙНЕ Р. БЯРЭЗІНЫ

*канд. гіст. навук, дац. В.І. КОШМАН*
*(Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Мінск)*

*Прадстаўлены асноўныя вынікі гісторыі даследавання археалагічных помнікаў эпохі Старажытнай Русі ў басейне р. Бярэзіна. Падрабязна асвятляюцца этапы вывучэння помнікаў X – XIII стст., пачынаючы з пачатку XIX ст. і да пачатку XXI ст., выдзяляюцца этапы гэтага вывучэння, прыводзяцца асноўныя дасягненні кожнага з этапаў.*

**Уводзіны.** Першыя звесткі аб даследаваннях археалагічных помнікаў X – XIII стст. басейна р. Бярэзіна сустракаюцца ў XIX ст. Вядома, што ў 1818 – 1820 гг. З.Я. Даленга-Хадакоўскі актыўна займаўся пошукам і сістэматызацыяй гарадзішчаў і курганных могільнікаў у Еўрапейскай частцы Расійскай імперыі, у тым ліку і на тэрыторыі сучасных Бабруйскага і Кіраўскага раёнаў [1, с. 41 – 46]. В.Ф. Капыцін мяркуе, што даследчык пры інтэрпрэтацыі гарадзішчаў у якасці свяцілішчаў выкарыстоўваў звесткі аб гарадзішчы-свяцілішчы Любонічы (мясцовая назва «Дзявочая Гара»). Даследаванне гэтага помніка ў канцы 1990-х гг. адназначна сведчыць аб сакральным характары гарадзішча [2].

У XIX ст. даследчыкі яшчэ мала цікавіліся рэшткамі паселішчаў (гарадзішчаў, селішчаў) і не ўяўлялі які вялікі аб'ём інфармацыі змяшчаюць іх культурныя слаі. Наяўнасць звестак аб раскопках багатых скіфскіх курганных пахаваннях на тэрыторыі Украіны і пахаваннях вікінгаў на тэрыторыі Паўночнай і Заходняй Еўропы падштурхоўвалі мясцовых памешчыкаў і аматараў-навукоўцаў да раскопак курганных некропаляў у сваіх маёнтках. З гэтага часу і на працягу ўсяго XIX і пачатку XX стст. атрымала распаўсюджанне менавіта «курганная археалогія», мэтай даследавання якой з'яўлялася здабыванне «археалагічных старажытнасцей», а ў далейшым ставіла пытанні пра храналагічную і культурную атрыбуцыю здабытых матэрыялаў.

А між тым вялікая колькасць курганаў на беларускай зямлі ўражвала вандроўнікаў. Так у 1815 г. праз Беларусь праязджаў нерэхтскі памешчык А.К. Башняк, які пакінуў апісанне свайго падарожжа [1, с. 23 – 24]. Яго шлях пралягаў у тым ліку і праз сучасныя Асіповіцкі і Бабруйскі раёны. У сваіх дзённіках ён апісваў не толькі навакольную мясцовасць і сялянскі быт, але і пакінуў шэраг звестак пра археалагічныя помнікі. А.К. Башняк адзначаў, што курганы з розных мясцовасцей маюць розную велічыню, што самыя высокія насыпы часцей за ўсе сустракаюцца паміж р. Свіслач і р. Галынка. Таксама ім узгадваюцца і крэпасныя валы (відаць гарадзішчы – *В.К.*).

У 1830 – 1850-я гг. актыўную дзейнасць па вывучэнні археалагічных старажытнасцей Цэнтральнай Беларусі разгарнулі браты К.П. і Е.П. Тышкевічы. К.П. Тышкевіч абследваў шмат гарадзішчаў і замчышчаў у Мінскай губерніі, раскапаў каля 200 курганаў, у асноўным на Лагойшчыне па р. Гайна (правы прыток р. Бярэзіны) [3]. Ён зрабіў спробу класіфікацыі курганоў, сярод якіх выдзеліў «курганы асобныя», «курганы ў групах», «курганы вартавыя», «курганы прыдарожныя, пуцевыя» і «курганы грабавыя» і гарадзішчаў, якія ён падзяляў на «умацаваныя замкі», «ахвярныя гарадзішчы» і «акопы-судзілішчы». К.П. Тышкевіч зрабіў важныя высновы аб асаблівасцях пахавальнага абраду, звярнуў увагу на ганчарныя клеймы і асобныя катэгорыі знаходак.

Вывучэннем курганных могільнікаў займаўся і Е.П. Тышкевіч [4, 5]. Маюцца звесткі што ім было раскапана каля тысячы курганоў [6, с. 32]. Удзел у раскопках курганоў, а магчыма і самастойныя археа-

лагічныя даследаванні ў Барысаўскім і Ігуменскім паветах праводзілі разам з братамі Тышкевічамі А.К. Кіркор і М.М. Турбін [1, с. 70, 119 – 120]. Е.П. Тышкевіч стваральнік Віленскага музея старажытнасцей і Археалагічнай камісіі пры ім (1855 – 1865 гг.). Большая частка археалагічных калекцый братоў Тышкевічаў, якая захоўвалася ў Лагойску і Вільні была страчана, частка захоўваецца ў Варшаўскім дзяржаўным археалагічным музеі. Пэўная колькасць матэрыяла была апублікавана Л.Д. Пободлем [7]. Апошнім часам большая частка археалагічных калекцый, якая паходзіць з тэрыторыі Беларусі, пачала апрацоўвацца і публікавацца. Маюцца сярод іх і матэрыялы з раскопак братоў Тышкевічаў [8].

Карысная дапаможнай крыніцай па вывучэнні старажытнасцей басейна р. Бярэзіны з'яўляецца апісанне падарожжа П. М. Шпілеўскага (пачатак 1850-х гг.) [9]. Ён неаднаразова ўзгадвае Барысавы камяні, старажытныя Вітаўтавы і Баторыевы дарогі, курганы, гарадзішчы, замчышчы і г.д. [9, с. 106 – 110, 180 – 182, 184 – 188]. Аднак азнаямленне з яго назіраннямі схіляе да думкі, што шэраг дадзеных прыведзены аўтарам паводле К.П. Тышкевіча.

У 1870-я гг., па ініцыятыве Д.Я. Самакваса, праз Цэнтральны статыстычны камітэт па губернях Расійскай імперыі былі разасланы анкеты па збору сведчанняў аб курганах і гарадзішчах у наваколлі. Шматлікія сведчанні аб помніках X – XIII стст. змешчаны ў «Сведениях о городищах и курганах Минской губернии» (1873 г.), якія да апошняга часу захоўваліся ў Інстытуце і музеі антрапалогіі МДУ[12]. На сённяшні дзень інфармацыя аб археалагічных помніках, сабраная ў 1870-я гг., з'яўляецца важнейшай крыніцай пры складанні рэестраў помнікаў і баз дадзеных [*гл.* напрыклад, 10, с. 151 – 243, археологические памятники на территории дреговичей].

У 1875 і 1883 гг. Т. Саподзька даследаваў курганы ў Ігуменскім і Барысаўскім паветах [11]. Шырокія працы былі праведзены па курганным могільніку каля в. Мурава Ігуменскага павета (зараз Бярэзінскі раён). Ён распрацаваў сваю класіфікацыю курганаў, пад час раскопак вывучаў іх пабудову, рабіў замалёўкі, складаў табліцы і планы.

Масавы пісьмовы збор звестак пра археалагічныя помнікі, які актывізаваўся ў 1890-я гг., абумовіў неабходнасць складання археалагічных карт. Вядома, што Е.Р. Раманавым была складзена карта Магілёўскай губерніі, А.П. Смародскім і Г.Х. Татурам – Мінскай. На жаль, яны так і не былі выдадзены [12, с. 14 – 15].

Трэба адзначыць, што менавіта ў 1880 – 90-я гг. раскопкі курганоў сталі адным з заняткаў мясцовых памешчыкаў, а інфармацыя аб гэтых раскопках і атрыманых матэрыялах даволі рэдка прасочвалася ў друк. Стымуліраваўся гэты працэс своеасаблівай «модай» на калекцыяніраванне розных відаў старажытнасцей (манет, вырабаў з каляровага метала, камня і інш.), для чаго мясцовыя памешчыкі і праводзілі раскопкі курганоў на сваіх землях.

Адным з даследчыкаў, які праводзіў масавыя раскопкі курганоў і адначасова з'яўляўся апантаным калекцыянерам быў Г.Х. Татур [13, 14]. Па яго ініцыятыве і цыркулярнаму прадпісанню мінскага губернатара па Мінскай губерніі былі разасланы спецыяльныя анкеты, у якіх валасныя пісары і настаўнікі народных вучылішчаў заносілі звесткі пра вядомыя ім археалагічныя помнікі [15]. На аснове гэтых звестак Г.Х. Татур і складаў археалагічную карту Мінскай губерніі. Пачынаючы з 1874 г. ён праводзіў масавыя археалагічныя раскопкі ў Мінскай губерніі. Устанавіць колькасць раскапаных курганоў, методыку раскопак і тым больш наменклатуру знаходак не ўяўляецца магчымым. Яго сучаснікі неаднаразова ўказвалі на недастатковую навуковую і метадычную падрыхтоўку даследчыка. Так, напрыклад, толькі ў 1891 г. Г.Х. Татур раскапаў 60 курганоў каля в. Дулебы і 60 курганоў каля в. Неганічы (Няюнішчы), некалькі дзесяткаў курганоў каля в. Палілееўка, у наваколлях г. Беразіно, в. Калюжыцы, Курганне і інш (Ігуменскі павет) (сучасныя Барысаўскі, Бярэзінскі, Чэрвенскі раёны). Між тым нават павярхоўнае апісанне аўтарам шэрагу знаходак і візуальных прыкмет помнікаў (форма і памеры) і зараз уяўляюць значную цікавасць для даследчыкаў. Так Г.Х. Татур указваў, што ў Мінскай губерніі ў найбольшай колькасці гарадзішчы сустракаюцца па цячэнні р. Бярэзіны і яе прытоках, асабліва на іх правых берагах. Важныя сведчанні даследчыка датычацца гарадзішча ў в. Дулебы (Бярэзінскі раён)[13]. Аўтар спасылаецца на паданне аб наяўнасці горада на месцы гарадзішча і прыводзіць апісанне знойдзенага там крыжа-энкалпіёна (мяркуючы па апісанню ён можа датавацца XIV ст.). Г.Х. Татур прыводзіць свае назіранні над формай курганных насыпаў у розных рэгіёнах. Ён адзначаў, што па цячэнні р. Бярэзіна часцей сустракаюцца курганы конусападобнай, востраканечнай і чатырохвугольнай формаў. Ім таксама звернута ўвага і на наяўнасць у вярхоўях р. Бярэзіна т.зв. «валікаў», відаць доўгіх курганоў, а таксама на розныя мясцовыя назвы курганоў («валатоўкі», «стаўпавыя горы»).

Значным недахопам прац Г.Х. Татура з'яўляецца адсутнасць канкрэтных апісанняў курганных комплексаў, хаця даследчыку траплялiся і багатыя пахаванні з утрыманнем маністаў з бронзавых і

[12] Паводле інфармацыі В.Ф. Капыціна адзіны экземпляр быў узяты Л.Д. Пободлем і не вернуты

[13] Гарадзішча і селішча цалкам знішчаны ў канцы 1970-х гг. і аб ім цалкам адсутнічае інфармацыя (памеры, магутнасць культурнага слоя, культурна-храналагічная атрыбуцыя). Улічваючы наяўнасць вялікага курганнага некропаля ў наваколлі вёскі (больш 200 насыпаў) гэты комплекс уяўляў бы значную цікавасць для даследчыкаў.

срэбраных пацерак (зярністыя ажурныя «дрыгавіцкія» пацеркі (?), шкляныя і сердалікавыя пацеркі, крыжыкі і нават рэшткі шоўкавай тканіны [14, с. 121, 146; 13, с. 116].

У 1885 – 1890-х гг. М.П. Авенарыус займаўся раскопкамі курганаў у Барысаўскім павеце. Асабліва цікавы матэрыял быў атрыманы пад час даследаванняў каля в. Эсьмоны, дзе ён, пасля аматарскіх раскопак Шыманоўскага, у 1887 г. зафіксаваў тры курганныя могільнікі. Частка з курганоў была абкладзена камянямі, а ў другім і трэцім могільніках ім былі выяўлены пахаванні ў сядзячым стане. Сярод пахавальнага інвентару вядома ўнікальная срэбраная завушніца, шматлікія прывескі і пацеркі [16, с. 42 – 43; 1, с. 139 – 140]. Разам з М.П. Авенарыусам раскопкамі курганоў у Эсьмонах займаўся У.Г. Краснянскі [1, с. 140, 161].

На 1890-я гг. прыпадае дзейнасць У.З. Завітневіча [17, 18, 19, 20]. З мэтай удакладнення летапісных паведамленняў аб рассяленні дрыгавічоў ім было даследавана каля 700 пахаванняў у 82 курганных могільніках басейнаў Прыпяці, Дняпра, Бярэзіны, вярхоўях Нёмана. На матэрыялах даследаванняў 647 курганных насыпаў у Мазырскім, Рэчыцкім і Бабруйскім паветах Мінскай губерніі даследчыкам былі зраблены працэнтныя падлікі тыпаў пахавання (крэмацыі, інгумацыі на гарызонце і ў яме). Яму належыць першая спроба гістарычнай інтэрпрэтацыі археалагічнага матэрыяла дрыгавічоў. Праведзеныя раскопкі і атрыманы матэрыял дагэтуль з'яўляецца найбольш важным для характарыстыкі асаблівасцей іх пахавальнага абраду, матэрыяльнай і духоўнай культуры. Даследаванні праводзіліся на дастаткова высокім для канца XIX ст. метадычным узроўні і ў большасці захаваліся дастаткова поўныя пакурганныя апісанні, але пры адсутнасці графічнай і фатаграфічнай дакументацыі. Даследчык выказаў сваё меркаванне аб эвалюцыі пахавальнага абрада, аднак неправільна вызначыў іх храналагічныя межы. У работах падрабязна апісаны знешні выгляд курганных могільнікаў і асобных курганоў, адзначана залежнасць колькасці курганоў у курганных могільніках ад памераў паселішчаў, зафіксаваны падзел могільнікаў на групы. На падставе распаўсюджвання аднолькавых назваў рэчак (Бярэзіна Дняпроўская і Нёманская, Свіслач і Іслач, Ольса і Альшанка) выказаў свае меркаванні наконт шляхоў рассялення славян (Днепр → Бярэзіна Дняпроўская → Свіслач → верхні Неман → Іслач). У.З. Завітневіч звярнуў увагу на частую сустракаемасць у пахаваннях буйных ажурных зернёных бочкападобных металічных пацерак, якія аднёс да этнічна вызначальнай прыкметы дрыгавічоў. Згодна яго назіранням, паўднёвая мяжа іх рассялення праходзіла па правабярэжжы р. Прыпяць, усходняя – па р. Днепр і водападзеле Бярэзіны і Друці, паўночная – ад вярхоўяў р. Друць у накірунку Барысаў – Заслаўе (фактычна даследчык прыняў мяжу паміж Тураўскім і Полацкім княствамі), заходняя – па вярхоўях р. Шчара да Пінску. Як паказалі далейшыя даследаванні, высновы У.З. Завітневіча па межах рассялення дрыгавічоў амаль не прыцярпелі зменаў.

Разнастайны матэрыял быў атрыманы пад час раскопак Н. Мышанкова у Бабруйскім павеце [21]. Ім даследаваліся круганныя могільнікі каля вв. Кастрыцкая Слабада, Макарычы, Кармазы.

У 1915 г. раскопкі ў Барысаўскім павеце Мінскай губерніі праводзіў Ю.В. Шавельскі. Матэрыялы яго раскопак захоўваюцца ў Эрмітажы, часткова яны выкарыстаны Г.В. Штыхавым [22, с. 72]. Багаты матэрыял быў атрыманы даследчыкам пры вывучэнні 6 курганоў каля маёнтка Стахаўшчына (Малое Стахава, Барысаўскі раён). Знойдзены нажы, вітыя, трохдротавыя і літыя бранзалеты, блакітныя рабрыстыя шкляныя пацеркі, бурштынавыя пацеркі, шыйныя вітыя грыўны, бронзавыя бразготкі (Шавельский, фонды Эрмитажа).

Першая сусветная вайна, савецка-польская вайна 1919 – 1920 гг. на пэўны час прыпынілі археалагічныя і гістарычныя даследаванні ў рэгіёне. Гэтым часам можна завяршыць першы перыяд вывучэння археалагічных помнікаў X – XIII стст. у басейне р. Бярэзіна. Ён характарызуецца масавымі раскопкамі толькі адной катэгорыі помнікаў – курганных могільнікаў, назапашваннем матэрылу, паступовай выпрацоўкай метадычных асноў. Даследчыкі яшчэ не ў поўнай ступені ўяўлялі важнасць вывучэння культурных слаёў паселішчаў.

У пачатку 1920-х гг. пачынаецца працэс узнікнення навукова-культурных арганізацыйі і краязнаўчых гурткоў. Паступова даследаванне старажытных помнікаў пачынае набываць мэтанакіраваны характар, гэтаму садзейнічала адкрыццё ў 1922 г. Інстытута беларускай культуры. У 1923 – 1924 гг. у Інбелкульце была створана гісторыка-археалагічная секцыя, у кастрычніку 1925 г. – гісторыка-археалагічная камісія, рэарганізаваная ў 1927 г. у археалагічную камісію аддзела гуманітарных навук. Дзейнасць гэтых установ стала магчымай дзякуючы актыўнай навуковай дзейнасці цэлай плеяды маладых і таленавітых даследчыкаў – А.М. Ляўданскага, А.Д. Кавалені, С.С. Шутава, М.М. Улашчыка, Д. Дружчыца, С.А. Дубінскага і іншых.

Важным крокам па сістэматызацыі археалагічных помнікаў сталі складзеныя І.А. Сербавым т.зв. «апытальныя лісты», якія ў 1924 – 1925 гг. масава рассылаліся па рэгіёнах[14]. Інфармацыя з месцаў аб наяўнасці тых ці іншых адметных гістарычных або археалагічных аб’ектаў, паданнях аб помніках дагэтуль з’яўляецца важнейшай, а часта і адзінай крыніцай інфармацыі пра помнікі ў Ігуменскім, Барысаўскім, Бабруйскім паветах [23, 24, 25].

Актывізавалася работа краязнаўчых гурткоў па вывучэнню этнаграфічнай, гістарычнай і археалагічнай спадчыны рэгіёнаў. Цікавасць уяўляе дзейнасць А. Немцава па пошуку археалагічных по-

[14] Разаслана каля 8000 экзэмпляраў

мнікаў у Асіповіцкай акрузе. Даследчыкам выяўлена і зарэгістравана звыш 20 курганных могільнікаў, шэраг гарадзішчаў і селішчаў у ніжнім цячэнні р. Свіслач, сабраны і апісаны пад'ёмны матэрыял [26].

Перыяд 1920-х – пачатку 1930-х гг. быў надзвычай плённы для археалагічнага вывучэння помнікаў басейна р. Бярэзіна. Так, А.М. Ляўданскі правёў археалагічныя разведкі па Сярэдняй Бярэзіне, выявіў мноства археалагічных помнікаў розных эпох, даследаваў некалькі дзесяткаў курганных насыпаў [27, 28, 29]. С.С. Шутаў і М.М. Улашчык правялі разведку па абодвух берагах ніжняга цячэння р. Свіслач і невялікім участку правага берага р. Бярэзіны [30]. Былі абследаваны гарадзішчы Свіслач, Ялізава, Навасёлкі (Паліцкае), апісаны вядомыя і выяўлены новыя курганныя могільнікі. Пад'ёмны матэрыял з гэтай разведкі дагэтуль захоўваецца ў сховішчах ІГ НАН Беларусі (№ 1168). І.Р. Калодкін і М.М. Канвісараў абследавалі па абодвух берагах р. Бярэзіну ад Барысава да Беразіно [31, 32]. Былі выяўлены, апісаны і часткова даследаваны шэраг археалагічных помнікаў. Такое суцэльнае даследаванне пэўных рэгіёнаў і масавае выяўленне помнікаў стала новай з'явай для беларускай археалогіі і дазволіла перайсці на якасна іншы ўзровень разумення здабытага матэрыялу і іх навуковай апрацоўкі. Даследчыкі імкнуліся характарызаваць помнікі ў шырокім тэрытарыяльным і храналагічным дыяпазоне, а таксама звяртаць увагу на дэталёвы культурна-храналагічны падзел археалагічных комплексаў. Аднак вялікім недахопам шэрагу работ з'яўляецца іх агульны і інфармацыйны характар, асабліва ўлічваючы тое, што падаўляючая колькасць археалагічных калекцый, картатэка, фотатэка, справаздачы, чарцяжы, малюнкі зніклі пад час Вялікай Айчыннай вайны [33, с. 12].

У далейшым паласа рэпрэсій канца 1930-х гг. прыпыніла навуковае даследаванне археалагічных старажытнасцей. У засценках НКУС загінулі амаль усе беларускія даследчыкі.

Такім чынам, у сярэдзіне 1930-х гг. завяршыўся другі этап археалагічных даследаванняў помнікаў X – XIII стст. басейна р. Бярэзіна. Яго характарызуюць не масавыя археалагічныя раскопкі, а пачатак сістэматызацыі помнікаў і выпрацоўкі метадычных асноў – як палявых, так і лабараторных. Даследчыкі пераходзяць да вывучэння паселішчаў, робяць першыя спробы навуковай інтэрпрэтацыі здабытага «паселішчнага» матэрыялу, прапаноўваюць сваю тыпалогію і храналогію гарадзішчаў. Пры раскопках курганоў вялікая ўвага пачала надавацца не толькі пахавальнаму інвентару, але і асаблівасцям пахавальнага абрада.

На тэрыторыі, якая згодна дамовы 1921 г. адыйша Польшчы, таксама праводзіліся археалагічныя даследаванні. Так, каля вытокаў р. Бярэзіна, на беразе воз. Медзазол А. Цэгак-Галубовіч даследавала ўнікальны курганны могільнік X – XI стст. каля в. Парэчча [34]. Спецыфічны пахавальны інвентар у курганах з трупаспаленнем схілілі даследчыцу да меркавання аб скандынаўскім паходжанні пахаваных. Яна меркавала, што на гэтую тэрыторыю ў эпоху ранняга сярэдневякоўя пранікалі гандлёва-ваенныя атрады скандынаваў. Гэтае палажэнне доўгі час ставілася пад сумненне, аднак улічваючы ўнікальны скарб дзірхемаў, шалі, грыўн і меч тыпу Н (канец IX ст.), якія знойдзены ў раёне Барысава [35, с. 60 – 61], меркаванне А. Цэгак-Галубовіч аб пранікненні на гэтую тэрыторыю выхадцаў з Скандынавіі выглядае не такім ужо фантастычным.

Адсутнасць уласных навуковых археалагічных кадраў і неабходнасць эканамічна-культурнага аднаўлення краіны пасля Вялікай Айчыннай вайны абумовілі пэўны перапынак у даследаваннях на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Эпізадычныя даследаванні праводзіліся даследчыкамі з Масквы, Ленінграда і інш. І вяліся толькі ў Мінску (1945 – 1951 гг.) (В.Р. Тарасенка), на захадзе Беларусі (сярэдзіна 1950-х гг.) (Індура і Мсцібава (К.Т. Кавальская, С.А. Тараканава)), паўночным-захадзе (Браслаў) (1955 – 1956 гг.), Цэнтральнай Беларусі (Друцк) (1957 – 1965 гг.), усходзе Беларусі (Мсціслаўе) (1959 – 1964 гг.) Л.В. Аляксеевым і інш.

Аднаўленне археалагічных даследаванняў уласнымі навуковымі кадрамі прыпадае толькі на 1960-я гг. [36, с. 176 – 190]. З гэтага часу ў сферу навуковых інтарэсаў трапляюць і помнікі X – XIII стст. басейна р. Бярэзіна. Так, Л.Д. Побаль спецыяльна не вывучаў старажытнасці X – XIII стст., аднак пры даследаванні помнікаў ранняга жалезнага веку аказалася, што верхнія напластаванні часта змяшчалі матэрыялы старажытнарускага часу. Такая сітуацыя назіралася пры вывучэнні комплекса з гарадзішча і селішчаў Шчаткава (Бабруйскі раён) [37], комплекса паселішчаў Чырвоная Зорка (Бярэзінскі раён)[15] [38] і інш. Вялікая заслуга даследчыка заключаецца ў зборы звестак і сістэматызацыі мноства розначасовых археалагічных помнікаў [39], у правядзенні шырокіх разведачных палявых работ, ва ўвядзенні ў навуковы зварот матэрылаў, якія аказаліся па-за межамі Беларусі [7].

Археалагічныя даследаванні П.Ф. Лысенка, у асноўным, былі звязаны з вывучэннем старажытных гарадоў Беларусі, іх абарончых збудаванняў, планіроўкі, забудовы, сацыяльна-эканамічнага развіцця, палітычнай гісторыі і гд. [40, 41]. Шмат увагі даследчык прысвяціў этнічнай атрыбуцыі помнікаў, пытанням паходжання і рассялення дрыгавічоў [10]. Яго даследаванне грунтавалася на вялізарным матэрыяле здабытым у канцы XIX ст. У.З. Завітневічам, братамі Тышкевічамі, М.М. Турбіным пад час раскопак у Бабруйскім, Барысаўскім, Рэчыцкім, Мазырскім паветах. П.Ф. Лысенка падрабязна ахарактарызваў асаблівасці пахавальнага абрада, інвентар дрыгавіцкіх курганоў, выказаў аўтарскае меркаванне аб паходжанні і межах рассялення дрыгавічоў. Прыведзеныя ў дадатках замалёўкі пахавальнага інвентару з'яўляюца адзінымі даступнымі для сучасных даследчыкаў крыніцамі[16] для рэканструкцыі пахавальнага строя, характарыстыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры і інш.

[15] На гарадзішчы была выяўлена скандынаўская фібула тыпу JP 237 [42, с. 36], інтэрпрэтаваная Л.Д. Побалем як шпілька з рухомым кольцам

Навуковыя інтарэсы Г.В. Штыхава былі звязаны з вывучэннем гарадоў Полацкай зямлі [43]. Аднак пры распрацоўцы гэтай тэматыкі аўтар часта звяртаўся да вывучэння помнікаў старажытнарускага часу басейна р. Бярэзіна. Аўтар лакалізаваў гарадзішча старажытнага Барысава і правёў раскопкі на гарадзішчы і прылягаючым селішчы, даследаваў некалькі курганоў каля Стара-Барысава, правёў раскопкі на курганных могільніках і селішчы Глівін (Барысаўскі раён). Г.В. Штыхаў з'яўляецца аўтарам археалагічнай карты Беларусі [44]. Важным ўнёскам у вывучэнне этнічнай гісторыі насельніцтва IX – XIII стст. з'яўляецца яго праца «Крывічы» [22]. Аўтар удакладніў межы рассялення крывічоў, акрэсліў іх этнавызначальныя прыкметы, ахарактарызаваў асаблівасці пахавальнага абраду, матэрыяльнай і духоўнай культуры.

З пачатку 1960-х гг. актыўную працу па археалагічнаму вывучэнню помнікаў басейна р. Бярэзіна праводзіў Э.М. Загарульскі. Шырокай плошчай даследавалася гарадзішча Свіслач (каля 700 кв.м.), пад яго кіраўніцтвам праведзены разведачныя работы на гарадзішчы Паліцкае (Навасёлкі) (Асіповіцкі раён) [45, с. 45 – 48]. Аднак, на жаль, вялізарны матэрыял, атрыманы пад час раскопак, дагэтуль застаецца не ўведзеным у навуковы зварот, акрамя шэрагу энцыклапедычных артыкулаў аўтара раскопак і паведамленняў яго вучняў і студэнтаў, якія з'яўляюцца фактычна вытрымкамі з яго справаздач [46, с. 559 – 560; 47; 48].

Вывучэннем комплекса гарадзішча – селішча IX – XIII стст. Жужлянка (Смык) (Асіповіцкі раён) (ніжняе цячэнне р. Свіслач) займаўся Ю.І. Драгун [49]. Ён даследаваў 140 кв.м на гарадзішчы Жужлянка і 244 кв.м. на прылягаючым селішчы. На гэтым помніку Ю.І. Драгун выявіў матэрыялы IX – XI стст., якія прадстаўлены прадстаўлена раменскай і раннеганчарнай керамікай. Раменская кераміка ў Жужлянцы, відаць, адлюстроўвае рассяленне і засваенне славянамі басейна ніжняй Свіслачы і Сярэдняй Бярэзіны. Знаходкі падобнай керамікі з'ява дастаткова рэдкая, аналагічны матэрыял сустрэты пры вывучэнні адкрытага гандлёва-рамеснага паселішча на р. Менка (в. Гарадзішча) [43, с. 63 – 72].

У 1970-я – пачатку 1980-х гг. палявая археалогія актывізавала даследаванне помнікаў X – XIII стст., значная ўвага пачала надавацца вывучэнню сельскіх паселішчаў, распачалося шырокае абследаванне тэрыторый, складанне археалагічных картаў, вывучэнне сістэм рассялення і гістарычных ландшафтаў. У гэты час у мэтах сістэматызацыі і папулярызацыі гісторыка-культурнай спадчыны на аснове вядомых звестак і даследаванняў апошніх гадоў сталі складацца своды помнікаў гісторыі і культуры па вобласцям [50, 51] і мясцовыя гісторыка-дакументальныя хронікі «Памяць». Гэтыя своды ўтрымліваюць важную інфармацыю аб археалагічных помніках, прыводяцца дадзеныя аб іх раскопках, замалёўкі, схематычныя планы, фотаздымкі, паданні, пісьмовыя звесткі і г.д. На сённяшні дзень кнігі «Памяць» выйшлі амаль ва ўсіх раённых цэнтрах, якія адносяцца да басейна р. Бярэзіны (Докшыцкі, Барысаўскі, Бярэзінскі, Чэрвенскі, Асіповіцкі, Клічаўскі, Бабруйскі, Светлагорскі) [52, 53, 54, 55 і інш.].

Экспедыцыямі гістарычнага факультэта МДПУ імя А. Куляшова пад кіраўніцтвам В.Ф. Капыціна на працягу дзесятка гадоў ажыцяўляўся праект па пошуку, картаграфаваннню, сістэматызацыі і ўзяццю пад ахову дзяржавы розначасовых археалагічных помнікаў на тэрыторыі Магілёўскай вобласці. Апошнімі экспедыцыямі вывучалася археалагічная спадчына Асіповіцкага, Бабруйскага і Клічаўскага раёнаў. Выяўлены дзесяткі новых селішчаў і курганных могільнікаў X – XIII стст. На жаль, апублікаваны толькі звод помнікаў па Бабруйскаму раёну [56][17].

Даследаваннем курганных старажытнасцей басейна р. Бярэзіны займаецца Л.У. Дучыц. Вывучаліся асобныя курганы ў могільніках каля вв. Маяк, Сімгаравічы (Бабруйскі раён), Патока, Несята (Клічаўскі раён), курганы паміж в. Азярышча і Зборск (Асіповіцкі раён) [57, 58]. Атрыманы матэрыял пераканаўча сведчыць аб прыналежнасці некропалей да дрыгавічоў, удакладняе асаблівасці пахавальнага абраду.

Даследаваннем старажытнасцей ранняга жалезнага веку басейна р. Бярэзіны займаецца А.У. Ільюцік. Пры вывучэнні селішча Дзеднава (Бабруйскі раён) выяўлены напластаванні старажытнарускага часу (ганчарная кераміка, пацеркі, шыферныя праселкі, свяцец [59, с. 29 – 32, рис. 7 – 8, 11]. Падобная сітуацыя назіралася і пры вывучэнні селішча Ліпень і гарадзішча Зборск I (Асіповіцкі раён) [60]. Знойдзена ганчарная кераміка старажытнарускага часу, наканечнік стралы, варган.

Пры даследаванні гарадзішчаў Міхалёва II (Бабруйскі раён) і Паліцкае (Навасёлкі) (Асіповіцкі раён) М.І. Лашанковым выяўлены шматлікія артэфакты XI – XIII стст. Так на гарадзішчы Міхалёва II маецца добра выражаны культурны слой канца I тыс. – пачатку II тыс. н.э. Атрымана прадстаўнічая калекцыя ганчарнага посуду, шкляныя пацеркі, бронзавыя зярнёныя («дрыгавіцкія») пацеркі, вырабы з жалеза

[16] Усе матэрыялы даследаванняў XIX ст. перадаваліся ў Архіў Імператарскай археалагічнай камісіі, дзе рэчавы матэрыял мог аддзяляцца ад справаздачнай дакументацыі. У сувязі з гэтым матэрыял аказаўся раскіданы па некалькіх установах (ДГМ (Масква), Эрмітаж (С.-Пецярбург), С-Пецярбургскае аддзяленне Інстытута археалогіі Акадэміі навук і інш., акрамя таго большая частка матэрыяла аказалася дэпаспартызавана і не шыфравана [10, с. 51 – 53]. Па-сутнасці, П.Ф. Лысенка з'яўляецца адзіным беларускім даследчыкам, які здолеў у нейкай ступені апрацаваць частку здабытага ў канцы XIX ст. вялізарнага археалагічнага матэрыяла і прадставіць яе ў манаграфіі.

[17] Заўчасная смерць В.Ф. Капыціна перарвала працэс выхаду ў друк сводаў па Клічаўскаму і Асіповіцкаму раёнам. Палявая дакументацыя, чарцяжы, фотаздымкі захоўваюцца ў архіве гістарычнага факультэта МДПУ імя А. Куляшова.

(нажы, фрагменты замкоў і ключоў і інш.) [61, с. 83 – 104]. Верагодна, паселішча выконвала ролю ўмацаванага цэнтра акругі і з’яўлялася тэрытарыяльна-адміністрацыйным цэнтрам сельскагаспадарчых абшчын па р. Ала. На гарадзішчы Паліцкае выражанага культурнага слоя не зафіксавана, аднак знаходкі ганчарнай керамікі, бронзавай бразготкі і фрагмента шпоры сведчаць на карысць яго засялення ў XII – XIII стст. Сталага пражывання насельніцтва ў XI – XIII стст. на гарадзішчы даследчыкам не адзначана. Мы мусім адзначыць, што раскопкам падверглася толькі мізэрная частка гарадзішча, астатняя частка была ўжо размыта р. Бярэзіной, у сувязі з гэтым атрымаць больш дакладныя звесткі пра характар паселішча ў XI – XIII стст. ужо немагчыма. М.І. Лашанкоў лічыць, што на гарадзішчы Паліцкае у старажытнарускі час мог знаходзіцца вартавы пост з Свіслацкага замка [62, с. 125 – 140; 63, с. 30 – 38].

Пры даследаванні гарадзішча Клішына (воз. Селява) (Крупскі раён) В.І. Шадыра неаднаразова фіксаваў знаходкі старажытнарускага часу (ганчарная кераміка на паселішчы складае 10 – 12 %) [64, с. 290]. У ваколіцах возера (каля в. Дакучын) былі даследаваны два кургана і дзве жальнічныя магілы, якія датуюцца XI – XIII стст. [65]. Падобныя жальнічныя магілы па структуры, абраду і пахавальнаму інвентару блізкі аналагічным помнікам Панямоння і Падляшша.

Вывучэннем курганных старажытнасцей IX – XII стст. на Верхняй Бярэзіне займаецца А. Вайцяховіч [66, с. 269 – 270; 67, с. 294 – 295; 68, с. 238 – 239]. Даследуюцца курганныя могільнікі з абрадам крэмацыі і інгумацыі Вітунічы, Бірулі (Докшыцкі раён), Новыя Валосавічы, Звязда (Лепельскі раён) і інш.

Археалагічная экспедыцыя гістарычнага факультэта БДУ даследуе курганны могільнік XI – XIII стст. Харчычы (Бярэзінскі раён) [69, с. 229 – 235; 70, с. 270 – 271; 71, с. 296 – 297]. Гэта адзін з добра захаваўшыхся курганных могільнікаў у склад якога ўваходзяць больш 200 насыпаў вышынёй ад 0,5 да 3 м, а з паўночна-заходняга боку могільніка знаходзіцца група грунтовых пахаванняў з каменнай абкладкай і каменнымі крыжамі грубай работы. Бачыцца, што раскопкі гэтага могільніка могуць даць матэрыял аб эвалюцыі пахавальнага абраду на працягу XI – XVI стст.

Невялікія даследаванні ў Асіповіцкім раёне, звязаныя з шурфоўкай паселішчаў, вывучэннем асобных курганоў або разведкай, вяліся Ю.А. Зайцам (гарадзішча Жужлянка, курган ва ур. Жужлянка) [72, с. 120], А.Коласавым [73, с. 312], Н.М. Дубіцкай ў Светлагорскім раёне [74, с. 281].

У рамках даследавання сельскіх паселішчаў і сістэмы рассялення ў X – XIII стст. у міжрэччы Бярэзіны і Дняпра і вывучэннем помнікаў старажытнарускага часу басейна р. Бярэзіны займаецца В.І. Кошман. Праведзены палявыя разведкі на тэрыторыі Бярэзінскага, Асіповіцкага і Бабруйскага раёнаў, раскопкі на гарадзішчы (240 кв.м.) і селішчы (164 кв.м.) Капланцы (Бярэзінскі раён) [75, с. 201 – 211; 76, с. 275 – 276 і інш.), гарадзішчы Свіслач (164 кв.м) [77, с. 187 – 194; 78, с. 110 – 129; 79, с. 154 – 161]. Атрыманы матэрыял з’яўляецца каштоўнай крыніцай для характарыстыкі матэрыяльнай і духоўнай культуры насельніцтва XI – XIII стст. сярэдняй Бярэзіны на паселішчах розных сацыяльна-гістарычных тыпаў (феадальныя сядзібы-замкі, вясковае паселішча сялян-абшчыннікаў), а таксама эканамічных і культурных сувязей рэгіёна. Частка атрыманага матэрыялу атрымала сваё адлюстраванне на старонках манаграфічнага даследавання [80].

Археалагічныя даследаванні апошніх гадоў даволі значна пашырылі нашыя веды аб матэрыяльнай і ухоўнай культуры, планіроўцы, забудове і фартыфікацыі гарадскіх і сельскіх паселішчаў, удакладнілі этнічную сітуацыю ў басейне р. Бярэзіны. Атрыманы матэрыял сведчыць аб шырокіх эканамічных і культурных сувязях гэтай тэрыторыі з суседзямі. Даследаванне археалагічных помнікаў X – XIII стст. басейна р. Бярэзіны патрабуе комплекснага даследавання у плане спалучэння археалагічных, гістарычных, прыродазнаўчых навук. Неабходна прымяненне статыстычных і кампутарных апрацовак атрыманага матэрыялу.

## ЛІТАРАТУРА

1. Алексеев, Л.В. Археология и краеведение Беларуси XVI – 30-е годы XX в. / Л.В. Алексеев. Под ред. акад. Б.А. Рыбакова. – Минск: Навука і тэхніка, 1996. – 206 с.
2. Копытин, В.Ф. Археологические памятники Кировского района Могилёвской области: Монография / В.Ф. Копытин. – Могилёв: МГУ им. А. Кулешова, 2002. – 144 с.
3. Тышкевич, К.П. О курганах на Литве и Западной Руси (археологические исследования) / К.П. Тышкевич. – Вильна: Типография А.К. Киркора, 1865. – 141 с.
4. Tyszkiewicz, E. Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geograficznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo-handlowym i lekarskim z dodaniem wiadomości o obyczajach , śpiewach, przysłowiach i uborach ludu, guśliach, zabobonach i t.d. / E. Tyszkiewicz. – Wilno: Druk Marcinowskiego, 1847. – 489 s.
5. Tyszkiewicz, E. Wiadomośc o kurchanach / E. Tyszkiewicz // Tygódnik Peterburski. – СПб., 1837. – № 94. – ч. XVI
6. Киркор, А.К. Значение и успехи археологии в наше время / А.К. Киркор // Записки Виленской археологической комиссии. – Т. 1. – Вильна, 1856.
7. Поболь, Л.Д. Древности Белоруссии в музеях Польши / Л.Д. Поболь. – Минск: Наука и техника, 1979. – 208 с.
8. Zabytki z okresu wpływów rzymskich, średniowiesza i czasów nowozytnych z Białorusi w zbiorach Państwowego Muzeum Archeologicznego w Warszawie. – Warszawa, 2005.

9. Шпилевский, П.М. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю / П.М. Шпилевский. – Минск: Полымя, 1992. – 251 с.
10. Лысенко, П.Ф. Дреговичи / П.Ф. Лысенко. Под ред. В.В. Седова. – Минск: Навука і тэхніка, 1991. – 224 с.
11. Sopodźko, T. Poszukiwania archeologiczne w powiecie Ihumieńskim. Źbiór wiadomości do antropologii Krajowej / T. Sopodźko. – T. XIII. Cz. 1. – Kraków: 1889. – S. 58 – 59.
12. Алексеев, Л.В. Полоцкая земля. Очерк истории северной Белоруссии в IX – XIII вв. / Л.В. Алексеев. – М., 1966.
13. Татур, Г.Х. О курганах Минской губернии / Г.Х. Татур // Труды IX Археологического съезда в Вильне. 1893 г. Т. II / Под ред. графини Уваровой и С.С. Слуцкаго. – М.: 1897. – С. 115 – 117.
14. Татур, Г.Х. Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и её археологическое значение / Г.Х. Татур. – Мн.: Губернская типография, 1892. – 176 с.
15. Минской губернии волостным писарям и учителям народных училищ волостей Минской губернии // НГАБ. – Ф. 295. – Воп. 1. – Спр. 3823 (1882 г.).
16. Заметка Н.П. Авенариуса об его раскопках в Минской губернии в 1889 и 1890 гг. // Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильно IX Археологического съезда. – Вильна: Типография А.Г. Сыркина, 1893. – С. 42 – 43.
17. Завитневич, В.З. Археологические разыскания в бассейне р. Березины // Отчёт Императорской Археологической комиссии за 1892 г. / В.З. Завитневич. – СПб.: 1894. – С. 124–153.
18. Завитневич, В.З. Археологические раскопки в системе рек Нёмана и Березины // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Кн. 2. / В.З. Завитневич. – Киев: 1888. – С. 270 – 280.
19. Завитневич, В.З. Область дреговичей как предмет археологического исследования // Труды Киевской духовной академии / В.З. Завитневич. – Т. 2. Кн. 8. – Киев, 1886. – С. 569 – 603.
20. Завитневич, В.З. Формы погребального обряда в могильных курганах Минской губернии // Труды IX Археологического съезда в Вильне 1893 г. / В.З. Завитневич. Под ред. графини Уваровой и С.С. Слуцкаго. Т. 1. – М.: 1895. – С. 221 – 235
21. Мышенков, Н. Курганы Бобруйского уезда Минской губернии: (Исследования 1888 г.) // Вестник археологии и истории / Н. Мышенков. – Вып. IX. – СПб.: 1892. – С. 59 – 97.
22. Штыхаў, Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі / АН Беларусі. Інстытут гісторыі / Г.В, Штыхаў. Пад рэд. М.А. Ткачова. – Мінск: Навука и тэхника, 1992. – 191с.
23. Опросные листы 1924 г. по Бобруйскому уезду. Бобруйск-Осиповичи // Архіў ІГ НАН Беларусі. – Спр. 69. – Воп. 1.
24. Опросные листы 1924 г. по Игуменскому уезду // Архіў ІГ НАН Беларусі – Спр. 70. – Воп. 1.
25. Опросные листы 1924 г. по Минскому и Борисовскому уездам // Архіў ІГ НАН Беларусі. – Спр. 71. – Воп. 1.
26. Нямцоў, А. Экскурсія вучняў Асіповіцкай сямігодкі / А. Нямцоў // Наш край. Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. – 1925. – № 2. – С. 21 – 25.
27. Ляўданскі, А.М. Археолёгічныя досьледы ў Барысаве / А.М. Ляўданскі // Запіскі аддзелу гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук. Кніга 11. Працы археолёгічнай камісіі. Т. ІІ. – Мінск: 1930. – С. 253 – 261.
28. Ляўданскі, А.М. Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930 – 1931 гг. / А.М. Ляўданскі // Працы секцыі археолёгіі. Т. ІІІ. – Мінск: 1932. – С. 230 – 235.
29. Ляўданскі, А.М. Да гісторыі жалезнай прамысловасці на Беларусі па данных археолёгіі / А.М. Ляўданскі, К.П. Палікарповіч // Савецкая Краіна. – 1932 г. – № 5. – С. 55 – 84.
30. Шутаў, С.С. Археолёгічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г. / С.С. Шутаў, М.М. Улашчык // Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларускай Акадэміі навук. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі. Т. 2. – Мінск, 1930. – С. 105 – 120
31. Рынейскі, А. Да археолёгічнага вывучэння Беларусі / А. Рынейскі // Наш Край. Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. – 1929. – № 11. – С. 73 – 74.
32. Рынейскі, А. Разведачная археолёгічная экспедыцыя / А. Рынейскі // Наш край. Штомесячнік Цэнтральнага Бюро Краязнаўства пры Інстытуце Беларускае Культуры. – 1929. – № 8 – 9. – С. 87.
33. Вяргей, В.С. Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919 – 1941 гг. / В.С. Вяргей. – Мінск, Навука і тэхніка, 1992. – 144 с.
34. Cehak-Holubowiczowa, H. Slowiańsko-wareskie cmentarzyko kurhanowe koło Porecza w powiecie Dziśnienskim / H. Cehak-Holubowiczowa // Przeglad archeologiczny. – № 6. – zesz. 2/3. – Poznan, 1938 – 1939. – S. 178 – 203.
35. Рябцевич, В.Н. Монетная часть Брилёвского денежно-вещевого комплекса конца IX в. / В.Н. Рябцевич // Девятая Всероссийская нумизматическая конференция. Великий Новгород. 16 – 21 апреля 2001 г. Тезисы докладов и сообщений. – С.-Пб.: Изд-во Государственного Эрмитажа, 2001. – С. 60 – 61.
36. Алексеев, Л.В. Археология средневекового периода в Белоруссии (1950 – 1990 гг.) / Л.В. Алексеев // Российская археология. – 1998. – № 3. – С. 176 – 190.

37. Поболь, Л.Д. Поселения железного века около д. Щатково Бобруйскаго района / Л.Д. Поболь // Белорусские древности. Доклады к конференции по археологии Белорусии (январь – февраль 1968). – Минск: Институт истории АН БССР, 1967. – С. 182 – 242.
38. Поболь, Л.Д. Старажытныя паселішчы на Сярэдняй Бярэзіне / Л.Д. Поболь // Беларускія старажытнасці. Матэрыялы канферэнцыі па археалогіі БССР і сумежных тэрыторый. – Минск: Институт истории АН БССР, 1972. – С. 117 – 149.
39. Поболь, Л.Д. Славянские древности Белоруссии (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры – с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э / Л.Д. Поболь. Ред. Ю.В. Кухаренко. – Мн.: Наука и техника, 1974. – 424 с.
40. Лысенко, П.Ф. Города Туровской земли / П.Ф. Лысенко. – Мн.: Наука и техника. 1974. – 200 с.
41. Лысенко, П.Ф. Туровская земля (IX – XIII вв.) / П.Ф. Лысенко. – Мн.: Беларуская навука, 1999. – 268 с.
42. Дернович, С.Д. Скандинавские древности эпохи викингов на территории Беларуси / С.Д. Дернович. – Минск, 2006.
43. Штыхов, Г.В. Города Полоцкой земли (IX – XIII вв.) / Г.В. Штыхов. АН БССР. Институт истории; Науч. ред. В.П. Даркевич. – Минск: Наука и техника, 1978. – 160 с.
44. Штыхов, Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Памятники железного века и эпохи феодализма. Вып. 2. / Г.В. Штыхов. – Минск: Полымя, 1971. – 276 с.
45. Жихарева, Л. Городище Городок / Л. Жихарева // Тезисы III региональной студенческой археолого-этнографической конференции ВУЗов северо-запада СССР. – Рига, 1971. – С. 45 – 48.
46. Ваганава, А.М. Свіслач / А.М. Ваганава // Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. – Мінск, 1993. – С. 559 – 560.
47. Дайчик, Г. Топография и оборонительные сооружения Свислочского замка XII в. / Г. Дайчик // Тезисы III региональной студенческой археолого-этнографической конференции ВУЗов северо-запада СССР. – Рига, 1971. – С. 42 – 44.
48. Гаврилюк, Н. Стеклянные изделия Свислочского замка (по материалам раскопок 1969, 1970 гг.) / Н. Гаврилюк // Тезисы III региональной студенческой археолого-этнографической конференции ВУЗов северо-запада СССР. – Рига, 1971. – С. 40 – 42.
49. Драгун, Ю.И. Раннеславянское поселение в нижнем течении р. Свислочь / Ю.И. Драгун // Белорусские древности. Доклады к конференции по археологии Белоруссии (январь – февраль 1968). – Минск: Институт истории АН БССР, 1969. – С. 422 – 431.
50. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Магілёўская вобласць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Рэд. кал.: С.В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелСЭ, 1986. – 408 с.
51. Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Рэд. кал.: С.В. Марцэлеў (гал. рэд.) і інш. – Мінск: БелСЭ, 1987. – 284 с.
52. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Асіповіцкага раёна. – Мн.: БЕЛТА, 2002. – 720 с.
53. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Бабруйскага раёна / Беларус. Энцыкл.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э.Э. Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 1998. – 608 с.
54. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Барысава і Барысаўскага раёна / Беларус. Энцыкл.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) і інш.; Маст. Э.Э. Жакевіч. – Мінск: БелЭн, 1997. – 800 с.
55. Памяць: Гіст.-дакум. хроніка Бярэзінскага раёна / Беларус. Энцыкл.: Г.П. Пашкоў (гал. рэд.) [і інш.]. – Мінск, БелЭн, 2003.
56. Копытин, В.Ф. Археологические памятники Бобруйского района Могилёвской области: Монорафия / В.Ф. Копытин. – Могилёв: МГУ им. А. Кулешова, 2001. – 147 с.
57. Дучыц, Л.У. Курганы Бабруйшчыны / Л.У. Дучыц // Старажытнасці Бабруйшчыны. – Бабруйск: 1998. – С. 18 – 25.
58. Дучыц, Л.У. Раскопкі курганных могільнікаў каля вёсак Патока і Нясята Клічаўскага раёна Магілёўскай вобласці / Л.У. Дучыц, С.Д. Дзярновіч, В.І. Кошман // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Да 70-годдзя з дня нараджэння П.Ф. Лысенка. – № 3. – 2001. – С. 165 – 172.
59. Ильютик, А.В. Селище Деднова на Березине / А.В. Ильютик // Старажытнасці Бабруйшчыны. – Бабруйск: 1998. – С. 26 – 32.
60. Ильютик, А.В. Городище Зборск / А.В. Ильютик // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – Вып. 5. – Минск, 2002. – С. 41 – 50.
61. Лошенков, М.И. Михалёвское городище / М.И. Лошенков // Старажытнасці Бабруйшчыны. – Бабруйск: 1998. – С. 83 – 104.
62. Лошенков, М.И. Городище Палицкое / М.И. Лошенков // Iś baltu kulturos istorijos. – Vilnius, 2000. – S. 125 – 140.
63. Лашанкоў, М.І. Паліцкае гарадзішча і яго месца сярод помнікаў басейна Бярэзіны / М.І. Лашанкоў // Заслаўскія чытанні 1995 года. – Заслаўе, Інстытут гісторыі АН Беларусі, 1997. – С. 30 – 38.
64. Шадыра, В.І. Новыя дадзеныя з раскопак гарадзішча Клішына Крупскага раёна / В.І. Шадыра // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 19. – 2004. – С. 290.
65. Шадыра, В.І. Таямніцы возера Селява / В.І. Шадыра // Беларускі гістарычны часопіс. – № 2. – 2006. – С. 42 – 46.
66. Вайцяховіч, А. Даследаванні ў Докшыцкім і Лепельскім раёнах / А. Вайцяховіч // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 18. – 2003. – С. 269 – 270.

67. Вайцяховіч, А. Даследаванні курганных могільнікаў у Віцебскай вобласці / А. Вайцяховіч // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 19. – 2004. – С. 294 – 295.
68. Вайцяховіч, А. Працы на курганных могільніках у Віцебскай вобласці / А. Вайцяховіч, П. Кенька // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 20. – 2005. – С. 238 – 239.
69. Плавинский, А.Н. Погребальные памятники возле деревни Харчичи / А.Н. Плавинский // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 17. – 2002. – С. 229 – 235.
70. Плавинский, А.Н. Раскопки курганов у деревни Харчичи / А.Н. Плавинский // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 18. – 2003. – С. 270 – 271.
71. Плавинский, А.Н. Раскопки курганного могильника Харчичи в 2003 г. / А.Н. Плавинский // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 19. – 2004. – С. 296 – 297.
72. Заяц, Ю.А. Новые материалы и памятники раннего железного века и третьей четверти I тыс. н.э. в Минском Поднепровье и Витебским Подвинье / Ю.А. Заяц // Ранние славяне Белорусского Поднепровья и Подвинья. – Минск, 2003. – С. 118 – 121.
73. Коласаў, А. Археалагічныя разведкі 2003 г. у Асіповіцкім, Мсціслаўскім і Чэрыкаўскім раёнах Магілёўскай вобласці / А. Коласаў // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 19. – 2004. – С. 312.
74. Дубицкая, Н.Н. Археологические исследования в бассейне нижней Березины / Н.Н. Дубицкая // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 19. – 2004. – С. 281.
75. Кошман, В.І. Гарадзішча Капланцы / В.І. Кошман // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 17. – 2002. – С. 201 – 211.
76. Кошман, В.І. Палявыя даследаванні ў Капланцах / В.І. Кошман // Гістарычна-археалагічны зборнік. – № 18. – 2003. – С. 275 – 276.
77. Кошман, В.І. Тапаграфія, планіроўка і фартыфікацыя Свіслацкага замка ў XII – XVII стст. / В.І. Кошман // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – № 3. – 2001. – С. 187 – 194.
78. Кошман, В.І. Гарадзішча Свіслач (матэрыялы даследавання 2000 г.) / В.І. Кошман, А.У. Ільюцік // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – № 5. – 2003. – С. 110 – 129
79. Кошман, В.І. «Свіслацка-бярэзінскі» мікрарэгіён ў X – XIII стст. / В.І. Кошман // Археалогія эпохі сярэдневякоўя (да 75-годдзя з дня нараджэння П.Ф. Лысенкі) / Матэрыялы па археалогіі Беларусі. – № 12. – 2006. – С. 154 – 161.
80. Кошман, В.І. Паселішчы міжрэчча Бярэзіны і Дняпра ў X – XIII стст. / В.І. Кошман. – Мінск, Беларуская навука, 2008. – 281 с.

## ШПІЛЬКІ «ПУС ЕПІ» З ТЭРЫТОРЫІ ПОЛАЦКА: КЛАСІФІКАЦЫЯ, ХРАНАЛОГІЯ І ПРАБЛЕМА ПАХОДЖАННЯ

***І.У. МАГАЛІНСКІ***
***(Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік)***

*Даследуюцца шпількі «пус епі», якія былі выяўлены на тэрыторыі Полацка і на сённяшні момант захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ. На аснове вывучэння 136 прадметаў паводле формы галоўкі вылучаюцца чатыры тыпы артэфактаў: 1) з галоўкай, утворанай накручваннем дроту; 2) з суцэльнаметалічнай галоўкай; 3) з галоўкай у выглядзе пытальніка; 4) з цвікападобнай галоўкай. Выказваецца меркаванне аб заходнееўрапейскім паходжанні шпілек.*

**Уводзіны.** Археалагічныя даследаванні старажытнага Полацка далі багаты матэрыял для рэканструкцыі розных бакоў жыцця яго насельнікаў. Асаблівае значэнне ў гэтым кантэксце маюць вырабы з каляровых металаў, якія заўсёды адлюстроўвалі не толькі эстэтычныя густы сваіх гаспадароў, але таксама іх сацыяльны і маёмасны статус.

Падчас вывучэння прадукцыі мясцовых ювеліраў XIV – XVII стст. асаблівую ўвагу трэба звяртаць на масавыя, серыйныя рэчы стандартызаванага выгляду, якія былі шырока прадстаўлены ў матэрыяльнай культуры насельніцтва старажытнага горада. Сярод такіх прадметаў, выяўленых на тэрыторыі Полацка, асаблівую цікавасць уяўляюць шпількі «пус епі». Не гледзячы на прыналежнасць гэтых прадметаў да катэгорыі ювелірных упрыгажэнняў, яны вылучаюцца мінімалізмам знешняга выгляду і выразнай функцыянальнай арыентаванасцю.

Назва шпілек паходзіць з чувашскай мовы («пуç йĕппи») і перакладаецца як «галаўная шпілька» [2, с. 166]. У рускай транскрыпцыі яна гучыць як «пус йеппи» [8, с. 142]. Паводле правіл беларускай арфаграфіі, дадзены тэрмін павінен запісвацца як «пус епі».

Выкарыстанне гэтай назвы для абазначэння асобнага віду ювелірных упрыгажэнняў тлумачыцца толькі трывалай гістарыяграфічнай традыцыяй, бо сам тэрмін не адлюстроўвае рэальнага функцыянальнага прызначэння і тыпалагічнай разнастайнасці шпілек.

У матэрыяльнай культуры паволжскіх народаў тэрмін «пус епі» выкарыстоўваўся не столькі для назвы саміх шпілек, якія ўжываліся для мацавання галаўной павязкі (сурпан) з перавяззю (масмак), колькі для абазначэння асобнага элементу жаночага галаўнога ўбору, што складаўся са скуранай палоскі даўжынёй 5 – 10 см на двух канцах якой былі замацаваныя адзінарныя медныя шпількі. Адзін бок такой палоскі ўпрыгожваўся некалькімі радамі нашытых манет. Акрамя таго, этнаграфічна вядомыя «пус епі» мелі вялікае вушка за якое мацавалася адмысловая стужка ці ланцужок [2, с. 166, 170].

Працяглы час у полацкай калекцыі гэтыя прадметы былі прадстаўлены адзінкавымі экземплярамі. Аднак апошнія археалагічныя даследаванні значна павялічылі колькасць вядомых шпілек «пус епі». Акрамя таго, пэўная частка гэтых упрыгажэнняў была выяўлена выпадкова мясцовымі аматарамі даўніны, якія перадалі свае знаходкі ў фонды Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка (далей – НПГКМЗ).

Значная колькасць шпілек «пус епі», выяўленая ў Полацку, актуалізавала неабходнасць іх навуковага аналізу. Да гэтага часу ў айчыннай гістарыяграфіі адсутнічаюць спецыяльныя даследаванні, прысвечаныя дадзенай катэгорыі вырабаў, а існуючыя тыпалагічныя схемы патрабуюць удакладнення на аснове аналіза новых крыніц.

Такім чынам, мэтай дадзенага даследавання з'яўляецца навуковы аналіз і сістэматызацыя шпілек «пус епі», якія былі выяўлены на тэрыторыі Полацка і ў цяперашні момант захоўваюцца ў фондах НПГКМЗ.

**Асноўная частка.** У гістарыяграфіі вывучэння вырабаў з каляровых металаў даследаванні шпілек «пус епі» займалі вельмі мала месца. У публікацыях матэрыялаў археалагічных раскопак перыядычна з'яўляліся звесткі пра знаходкі асобных шпілек, аднак спецыяльнага навуковага аналізу вырабаў не праводзілася [9].

М.В. Сядова у сваёй манаграфіі «Ювелірныя вырабы Ноўгарада X – XV стст.» асобны невялічкі раздзел прысвяціла шпількам «пус епі» (на тэрыторыі Ноўгарада іх выяўлена звыш 20 экземпляраў). Даследчыца адзначыла, што такія прадметы сустракаліся ў старажытнасцях паволжскіх народаў, дзе яны з'яўляліся неад'емным атрыбутам адзення ў XV – XVII стст. М.В. Сядова лічыла, што мода на падобныя ўпрыгажэнні была занесена на Русь мангола-татарамі [11, с. 158].

Аналізуючы тэхналогію старажытных ювеліраў, Н.В. Рындзіна апублікавала ліцейную форму для адліўкі шпілек «пус епі», якая з'яўляецца сведчаннем іх мясцовай наўгародскай вытворчасці [10, Рис. 10: 4].

Сярод апошніх публікацый трэба адзначыць артыкул А.У. Казловай, якая разглядае шпількі «пус епі» з традыцыйных для расійскай гістарыяграфіі пазіцый. Даследчыца адносіць дадзеныя вырабы да катэгорыі «металічных упрыгажэнняў і прадметаў быту ўсходняй традыцыі». Работа выканана на матэрыялах раскопак Пскова, дзе было знойдзена 15 цэлых экземпляраў шпілек. Не глядзячы на невялікую колькасць артэфактаў, А.У. Казлова паводле формы галовак здолела вылучыць тры тыпы вырабаў: 1) літое завяршэнне; 2) з галоўкай, утворанай накручваннем тонкага дроту; 3) з суцэльнаметалічнай галоўкай на якую нанесены арнамент, які імітуе накручаны дрот [7].

Акрамя работ навукоўцаў блізкага замежжа, вялікую цікавасць маюць працы, напісаныя на заходнееўрапейскім матэрыяле. У кантэксце нашага даследавання, пэўнае значэнне мае работа англійскіх даследчыкаў, прысвечаная шпількам, выяўленым падчас раскопак Лондана. Усебаковы навуковы аналіз звыш 800 упрыгажэнняў канца XIII–XV ст. дазволіў вылучыць тыпы прадметаў, устанавіць храналогію і тэхніку іх вырабу [16, с. 297–305]. Шпількі тыпалагічна практычна ідэнтычныя полацкім знаходкам, што прымушае звярнуцца да пытання пераасэнсавання паходжання гэтых артэфактаў на тэрыторыі Беларусі.

У айчыннай гістарыяграфіі праблема не знайшла належнага адлюстравання. Сярод спецыяльных публікацый трэба адзначыць толькі невялікі артыкул Г.В. Штыхава «Пус ейпі» ў энцыклапедычным выданні [15]. У працы даследчык паўтарае асноўныя высновы М.В. Сядовай.

На падобных пазіцыях знаходзіцца і Л.У. Калядзінскі, які, спасылаючыся на работу Цой Су Біна, лічыць шпількі «пус епі» «усходняй навацыяй цюркскіх этнасаў», якая была характэрная для беларускіх земель XIV–XVII стст. [6; 14].

Такім чынам, у гістарыяграфіі вывучэння шпілек выразна вылучаюцца тры найбольш актуальныя блокі праблем: 1) класіфікацыя вырабаў; 2) іх храналагічная атрыбуцыя; 3) паходжанне.

На сённяшні дзень у фондах НПГКМЗ захоўваецца 136 шпілек тыпу «пус епі». Асноўная іх частка з'яўляецца выпадковымі знаходкамі, што значна зніжае іх значэнне для датыроўкі, аднак дазваляе пашырыць нашы ўяўленні адносна характару распаўсюджанасці і лакалізацыі прадметаў на тэрыторыі горада. У дадзенай рабоце намі праводзіўся аналіз толькі гатовых прадметаў, якія захавалі ўсе канструктыўныя элементы, неабходныя для тыпалагічнага аналізу.

Шпілька «пус епі» складаецца з дзвюх асноўных частак: завостранага з аднаго канца тонкага стрыжня і галоўкі. Галоўнай прыкметай, якая можа служыць асновай для вылучэння з усяго масіву вырабаў дадзенага тыпу асобных таксанамічных груп з'яўляецца форма галоўкі.

Падчас матэрыялазнаўчай экспертызы трох шпілек з раскопак Д.У. Дука 2005 г., праведзенай па метаду лазернага спектральнага аналізу ў Інстытуце фізікі імя Б.І. Сцяпанава НАН Беларусі, было ўстаноўлена, што ўсе прадметы зроблены з латуні (табл. 1).

Табліца 1

Вынікі спектральнага аналізу шпілек «пус епі» з Полацка

| № | Cu, % | Zn, % | Pb, % | Ag, % | Fe, % |
|---|---|---|---|---|---|
| КП 19–23699 (стрыжань) | 89,2 | 7,24 | 0,81 | 1,57 | 0,36 |
| КП 19–23699 (галоўка) | 89,71 | 8,16 | 0,42 | 0,60 | 0,18 |
| КП 19–23700 (стрыжань) | 92,19 | 6,29 | 0,55 | 0,44 | 0,13 |
| КП 19–23700 (галоўка) | 88,52 | 6,51 | 1,94 | 1,59 | 0,65 |
| КП 19–23701 (стрыжань) | 91,13 | 6,81 | 1,06 | 0,34 | 0,21 |
| КП 19–23701 (галоўка) | 89,78 | 7,70 | 1,41 | 0,39 | 0,09 |




Мал. 1. Шпількі «пус епі»з Полацка

На большай частцы стрыжняў шпілек падчас візуальнага агляду былі выяўлены адмысловыя бараздкі, якія ўказваюць на спосаб іх вырабу – валачэнне.

Паводле афармлення галоўкі намі было вылучана пяць тыпаў вырабаў: 1) з галоўкай, утворанай накручваннем дроту; 2) з суцэльнаметалічнай галоўкай; 3) з галоўкай у выглядзе пытальніка; 4) з цвікападобнай галоўкай.

Найбольш распаўсюджаным тыпам шпілек з'яўляліся вырабы з галоўкай, утворанай накручваннем дроту вакол стрыжня (109 экземпляраў). Для больш надзейнага мацавання галоўкі канец стрыжня расплюшчваўся. Звычайна, для фармавання галоўкі выкарыстоўваўся дрот меншага чым стрыжань дыяметру. Між тым гэтае правіла не заўсёды выконвалася і на шэрагу прадметаў галоўкі ўтвораны з адносна масіўнага дроту.

Пераважная большасць галовак у шпілек дадзенага тыпу складаецца з дроту, навітага ў два-тры абароты пад вострым ці прамым вуглом да стрыжня, утвараючы адмысловы «цюрбан» (мал. 1: 1 – 6). Частка з іх падпраўлена з дапамогай малатка для атрымання круглай, а не цюрбанападобнай формы.

Даўжыня шпілек з накручанымі галоўкамі вагаецца ад 2,0 да 6,1 см. Пры гэтым дыяметр стрыжня складае 0,03 – 0,19 см, а галоўкі – ад 0,15 да 0,4 см.

Значна меншую групу шпілек складаюць вырабы з суцэльнаметалічнымі галоўкамі (мал. 1: 8 – 10). Дадзены тып прадстаўлены двума варыянтамі: са свінцовымі галоўкамі і з латуні. Усе прадметы з'яўляюцца выпадковымі знаходкамі і паходзяць з прыватных калекцый, што значна ўскладняе іх датыроўку.

Шпількі са свінцовымі галоўкамі дастаткова нешматлікія (7 экземпляраў). Іх аснову складае металічны стрыжань, адзін канец якога завостраны, а другі – раскляпаны для больш надзейнага мацавання завяршэння.

Падчас даследавання было ўстаноўлена, што галоўкі ўтвараліся двума асноўнымі спосабамі: 1) раскляпаны канец стрыжня апускалі ў ёмістасць з расплаўленым свінцом, што надавала завяршэнню шпількі кроплепадобную форму (2 экземпляры); 2) на стрыжань нанізваўся невялікі свінцовы шарык (5 экземпляраў).

Памеры падобных прадметаў наступныя: даўжыня – 2,9 – 3,3 см, дыяметры стрыжня – ад 0,05 да 0,1 см, а галоўкі – 0,1 – 0,3 см. Аднак сустракаюцца і адносна вялікія вырабы (даўжыня – 5,7 см, дыяметр стрыжня – 0,12 см, а галоўкі – 0,4 см).

Шпількі з латуннымі галоўкамі складаюцца з шарападобнага літога завяршэння, якое насаджвалася на расклепаны канец завостранага стрыжня. Дадзены варыянт вырабаў нешматлікі і ў полацкай калекцыі прадстаўлены 15 экземплярамі. На большай частцы галовак размешчана арнаментацыя, якая імітуе накручаны дрот. Даўжыня такіх вырабаў вагаецца ад 2,8 да 4,5 см, пры дыяметры стрыжня 0,05 – 0,1 см, а галоўкі – 0,1 – 0,2 см.

Аднак сустракаюцца і больш масіўныя прадметы, даўжыня якіх дасягае 7,0 см, пры дыяметры стрыжня 0,1 см, а галоўкі – 0,3 – 0,35 см.

Вырабы, якія маюць галоўкі ў выглядзе пытальніка мы адносім да асобнага тыпу (мал. 1: 11). Не гледзячы на той факт, што дадзеная група прадметаў вельмі простая з пункту гледжання тэхнікі выканання, яна не атрымала значнага распаўсюджвання на тэрыторыі горада. У полацкай калекцыі налічваецца ўсяго тры экземпляры

такіх шпілек. Яны маюць дастаткова стандартызаваны выгляд і памеры (даўжыня – 4,9 см, дыяметр стрыжня – 0,1 см, шырыня галоўкі – 0,35 – 0,4 см). Усе яны зроблены з кавалка валочанага металічнага дроту, адзін канец якога завостраны, а другі выгнуты ў выглядзе пытальніка.

Цікавасць уяўляе экземпляр такой шпількі, які паходзіць з матэрыялаў археалагічных даследаванняў 1988 г. на тэрыторыі Вялікага пасаду. Дадзены выраб быў знойдзены разам з прышчэпленым да яго галоўкі звяном латуннага ланцужка ў выглядзе выцягнутай лічбы восем.

Цвікападобныя шпількі не шматлікія (у полацкай калекцыі налічваецца ўсяго два экземпляры) (мал. 1: 12). Падобныя вырабы зроблены з валочанага дроту, адзін канец якога завостраны, а другі – раскляпаны. Вырабы гэтага тыпу маюць адносна невялікія памеры: даўжыня – 2,3 – 3,0 см, дыяметр стрыжня – 0,08 – 0,09 см, шырыня галоўкі – 0,15 – 0,12 см. Абодва прадметы з'яўляюцца выпадковымі знаходкамі, што не дазваляе іх надзейна датаваць.

Для ўстанаўлення храналогіі шпілек і часу іх з'яўлення ў Полацку важную ролю адыгрываюць артэфакты, якія былі знойдзены ў ходзе археалагічных даследаванняў. На тэрыторыі горада шпількі «пус епі» былі выяўлены ў межах раскопаў 1987 – 1988 гг. (кіраўнік – С.В. Тарасаў) і 2005 г. (кіраўнік – Д.У. Дук) на Вялікім пасадзе [3; 12; 13]. Пры гэтым, асноўная іх колькасць канцэнтруецца ў раскопе 2005 г., дзе былі знойдзены рэшткі вытворчага ювелірнага комплексу, дзейнасць якога, верагодна, была арыентавана на выраб масавых, серыйных рэчаў, да катэгорыі якіх адносіліся і шпількі «пус епі» [5, с. 126].

Наяўнасць сярод археалагічных матэрыялаў з раскопак 2005 г. нарыхтовак, а таксама адмысловых ювелірных інструментаў, дазваляе з упэўненасцю казаць аб мясцовай вытворчасці шпілек. Акрамя таго, дастаткова вузкая датыроўка комплексу ювелірнай майстэрні дае магчымасць скласці ўяўленне аб найбольш распаўсюджаных тыпах вырабаў і іх памерах, характэрных для пачатку XVII ст.

На сённяшні момант ў фондах НПГКМЗ захоўваецца 32 шпількі «пус епі» з раскопак 2005 г. на тэрыторыі Вялікага пасада. Асноўная частка гэтых вырабаў адносіцца да тыпу 1 (галоўка, утвораная накручваннем дроту – 30 экземпляраў). Акрамя таго, дзве шпількі з галоўкай у выглядзе пытальніка. Усе прадметы былі знойдзены ў межах 12–14 умоўных пластоў, што адпавядае ўзроўню, на якім выяўлены рэшткі вытворчага ювелірнага комплексу [3].

Для шпілек «пус епі» першага тыпу характэрны наступныя памеры: даўжыня – 2,0 – 5,3 см, дыяметр стрыжня – 0,03 – 0,1 см, а галоўкі – 0,2 – 0,3 см. Вырабы з галоўкай у выглядзе пытальніка, як ужо адзначалася, маюць стандартызаваную форму і памеры: даўжыня – 4,9 см, дыяметр стрыжня 0,1 см, а шырыня галоўкі – 0,35 – 0,4 см. Усе прадметы датуюцца першай паловай XVII ст.

У фондах НПГКМЗ захоўваецца пяць шпілек з раскопак 1987–1988 гг. (даследаванні С.В. Тарасава). З іх чатыры адносяцца да першага тыпу, а адна да трэцяга. Вырабы з галоўкай, утворанай накручваннем дроту вакол стрыжня, маюць наступныя памеры: даўжыня – 4,5 – 5,5 см, дыяметр стрыжня – 0,1– 0,2 см, а дыяметр галоўкі – 0,3 – 0,4 см.

Крыху большыя памеры шпілек з раскопу 1987–1988 гг. не дазваляе лічыць падобную прыкмету важным храналагічным індыкатарам. Гэта тлумачыцца, па-першае, невялікай выбаркай, а, па-другое, адсутнасцю надзейнай прывязкі той ці іншай знаходкі да канкрэтнага пласта ў межах раскопу.

Дадзеная акалічнасць звязана з тым, што на большай частцы прадметаў не захавалася палявых нумароў, што не дазваляе надзейна лакалізаваць знаходкі і суаднесці іх з артэфактамі, пазначанымі ў калекцыйным вопісе. Аднак не выклікае сумнення, што шпількі былі выяўлены разам з познесярэднявечнымі матэрыяламі (трохшыпныя абутковыя падкоўкі, конскія падковы і інш.), якія датуюцца XVII–XVIII стст.

Такім чынам, асноўная колькасць шпілек «пус епі», якія былі выяўлены падчас археалагічных даследаванняў на тэрыторыі Полацка, найбольш верагодна датуюцца ў межах XVII ст. У той жа час, улічваючы агульную храналогію артэфактаў дадзенага віду (XIV – XVII стст.) можна з пэўнай доляй упэўненасці меркаваць, што сярод шпілек, якія з'яўляюцца выпадковымі знаходкамі, могуць быць экземпляры і больш ранняга часу.

Вельмі важным аспектам вывучэння шпілек «пус епі» з'яўляецца праблема іх паходжання. Як ужо адзначалася, дадзеныя артэфакты ў айчыннай гістарыяграфіі адносяцца да прадметаў ўсходняй традыцыі. На думку большасці аўтараў, падобныя вырабы магі трапіць на землі паўночна-заходняй Русі падчас мангола-татарскага нашэсця [11, с. 158].

Даныя для такіх высноў далі археалагічныя даследаванні 1960 – 1970 гг., якія праводзіліся на тэрыторыі г. Чэбаксары, сталіцы сучаснай Чувашскай Рэспублікі (Расійская Федэрацыя). У ходзе раскопак было знойдзена некалькі экземпляраў шпілек з акруглымі галоўкамі, блізкія аналогіі якім сустракаліся ў матэрыяльнай культуры чувашоў. Шпількі былі выяўлены ў слоі XV – XVII стст. [8, с. 142].

На тэрыторыі Ноўгарада шпількі выяўлены ў слаях 10-ых гг. XIV – канца XV ст. (усяго звыш 20 экземпляраў). Яны прадстаўлены бронзавымі суцэльналітымі вырабамі даўжынёй 3 – 6 см [11, с. 158]. У Пскове знойдзена 15 цэлых экземпляраў шпілек «пус епі», аднак датуюцца яны толькі паводле аналогій XIV – XV стст. У даследаваннях таксама адзначаецца, што ў народаў Сібіры і еўразійскага стэпу шпількі маглі бытаваць да пачатку XX ст. [7].

Аналагічныя шпількі сустракаюцца не толькі на ўсходзе, але і на захадзе. Так, на тэрыторыі Лонданскага Сіці падчас археалагічных раскопак іх было знойдзена звыш 800 экземпляраў. Большая частка вырабаў выяўлена ў слаях XIV – XV стст., аднак пэўная колькасць датуецца XIII ст. Шпількі прадстаўлены рознымі тыпамі, прамыя аналогіі якім сустракаюцца і ў матэрыялах раскопак помнікаў паўночназаходняй Расіі і Беларусі. Англійскія даследчыкі вылучаюць два найбольш масавыя тыпы шпілек: 1) з цэльнымі галоўкамі; 2) з галоўкамі, утворанымі з дапамогай накручанага дроту (мал. 2). Большасць падобных вырабаў зроблена з латуннага валочанага дроту. Літых шпілек у лонданскай калекцыі не выяўлена [16, с. 298].



Мал. 2. Шпількі XIV ст. з Лондана [16]

Такім чынам, калі прыняць да ўвагі той факт, што шпількі «пус епі», выяўленыя на тэрыторыі Чэбаксар, знойдзены ў слоі XV – XVII стст., а асноўная колькасць дадзеных артэфактаў з Ноўгарада і Пскова датуецца пачаткам XIV – канцом XV ст., то відавочным з’яўляецца накірунак дыфузіі падобных упрыгажэнняў не з усходу на захад, а з захаду на ўсход. Гэта пацвярджаецца яшчэ і тым фактам, што на асобных помніках Заходняй Еўропы (Лондан), яны сустракаюцца ўжо ў слаях XIII ст., а пік іх папулярнасці прыпадае на XIV – XV стст.

Найбольш верагодна, што шпількі «пус епі» трапілі на землі паўночна-заходняй Русі (Ноўгарад, Пскоў) ў пачатку XIV ст., а ўжо адтуль далей на ўсход. Магчыма, што ў гэты ж час яны з’явіліся і ў Полацку, што аднак не пацверджана археалагічна.

Паводле існуючых матэрыялаў, на тэрыторыі горада шпількі былі найбольш распаўсюджаны ў XVII ст. Усе яны зроблены з латуннага валочанага дроту, што з’яўляецца заходнееўрапейскай тэхналагічнай традыцыяй. Гэта можа ўказваць на з’яўленне дадзеных вырабаў у Полацку незалежна ад іншых цэнтраў паўночна-заходяй Русі.

У сярэдневяковай Еўропе падобныя шпількі выкарыстоўваліся для мацавання галаўных пакрывал да прычоскі ці вакол плеч да пярэдняй часткі сукенкі. Гэта пацвярджаецца іканаграфічнымі і дакументальнымі крыніцамі [16, с. 297].

Верагодна, што падобным чынам дадзеныя ўпрыгажэнні ўжываліся і насельніцтвам старажытнага Полацка, які ў пачатку XIV ст. уваходзіць у склад Вялікага княства Літоўскага і пачынае адчуваць пэўныя ўплывы заходняй культуры. Папулярнасць на тэрыторыі горада шпілек «пус епі» трэба звязваць з паступовым распаўсюджваннем адпаведнага адзення і галаўных убораў заходнееўрапейскага тыпу (напрыклад, рантух), якія сталі важнай часткай матэрыяльнай культуры прывілііяваных слаёў насельніцтва [1, с. 14, 258].

**Заключэнне.** Такім чынам, шпількі «пус епі» з’яўляюцца вельмі важнай крыніцай для рэканструкцыі культурных і эканамічных працэсаў часткай якіх з’яўляўся Полацк на працягу стагоддзяў. Найбольш верагодна, што гэтыя вырабы трапілі на тэрыторыю горада з Заходняй Еўропы, дзе яны з’яўляліся

неад'емным атрыбутам адзення. Аб папулярнасці дадзенага тыпу ўпрыгажэнняў сведчыць адкрытая на Вялікім пасадзе ювелірная майстэрня, якая спецыялізавалася на вырабе шпілек і іншай фурнітуры. У той жа час не яснай застаецца дата з'яўленне гэтых артэфактаў на тэрыторыі горада. Не гледзячы на вялікую колькасць выяўленых шпілек, толькі нязначная іх частка паходзіць з матэрыялаў археалагічных раскопак. Гэтая група вырабаў датуецца дастаткова позна – XVII ст. У той жа час нельга выключаць магчымасці бытавання шпілек у Полацку ўжо ў XIV–XV стст.

ЛІТАРАТУРА

1. Бялявіна, В.М. Жаночы касцюм на Беларусі / В.М. Бялявіна, Л.В. Ракава. – Мінск: Беларусь, 2007. – 351 с.
2. Гаген-Торн, Н.Н. Женская одежда народов Поволжья (материалы к этногенезу) / Н.Н. Гаген-Торн. – Чебоксары: Чувашское государственное издательство, 1960. – 229 с.
3. Дук, Д.У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе / Д.У. Дук // Веснік «ПДУ». Серыя А. Гуманітарныя навукі. – № 1. – 2007. – С. 5 – 23.
4. Дук, Д.У. Полацк XVI – XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.
5. Дук, Д.У. Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2010. – 180 с.
6. Калядзінскі, Л.У. Вырабы з каляровага металу / Л.У. Калядзінскі // Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 4. Помнікі XIV–XVIII стст. / Пад рэд. В.М. Ляўко і інш. – Мінск: Беларуская навука, 2001. – С. 287 – 295.
7. Козлова, А.В. Металлические украшения и предметы быта восточной традиции X–XV веков из раскопок в Пскове / А.В. Козлова // Археология и история Пскова и Псковской земли. – Псков: Институт археологии РАН, 2007. – С. 125 – 143.
8. Краснов, Ю.А. Средневековые Чебоксары: Материалы Чебоксарской экспедиции 1969–1973 гг. / Ю.А. Краснов, В.Ф. Каховский. – М: Наука, 1978. – 192 с.
9. Розенфельдт, Р.Л. Инструменты московских ремесленников / Р.Л. Розенфельдт // Древности Московского Кремля. – М.: Наука, 1971. – С. 253 – 267.
10. Рындина, Н.В. Технология производства новгородских ювелиров X – XV вв. / Н.В. Рындина // Труды новгородской археологической экспедиции. – М., 1959. – № 65: Материалы и исследования по археологии СССР. – С. 200 – 247.
11. Седова, М.В. Ювелирные изделия Древнего Новгорода (X – XV вв.) / М.В. Седова. – М.: Наука, 1981. – 196 с.
12. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке в 1988 г. / С.В. Тарасов // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – № 1084.
13. Тарасов, С.В. Отчёт о раскопках в Полоцке и Полоцкой округе в 1987 г. / С.В. Тарасов // ААНД ДНУ «Інстытут гісторыі» НАН Беларусі. – № 1014.
14. Цой Су Бін. Усходнія ўплывы ў жаночых галаўных уборах усходніх славян / Цой Су Бін // Весці НАН Беларусі. Серыя гуманітарных навук. – 1998. – № 1. – С. 96 – 103
15. Штыхаў, Г.В. «Пус ейпі» / Г.В. Штыхаў // Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыкл. / Беларус. Энцыкл.; Рэдкал.: В.В. Гетаў і інш. – Мн.: БелЭн, 1993. – С. 521
16. Dress Accessories C.1150–C.1450: Medieval Finds from Excavations in London / Geoff Egan [ect.]; Museum of London. – London, 2004. – 426 p.

## КАСЦЯРЭЗНАЕ РАМЯСТВА ПОЛАЦКА X – XVIII СТСТ.

***канд. гіст. навук В.У. МЯДЗВЕДЗЕВА***
***(Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Мінск)***

Полацк – самы старажытны горад на тэрыторыі Беларусі, які і да цяперашняга часу прыцягвае ўвагу даследчыкаў сваёй багатай падзеямі гісторыяй, яркімі самабытнымі матэрыяльнай і духоўнай культурамі. Асноўная ўвага надаецца вывучэнню гісторыі вытворчай дзейнасці сярэднявечнага насельніцтва горада. Сярод іх адно з асноўных месцаў займае касцярэзнае рамяство, вырабы якога шырока выкарыстоўваліся ва ўсіх сферах і напрамках жыццядзейнасці: гаспадарцы, побыце, вайсковай справе, культуры і г.д.

У Полацку выяўлена адна з самых вялікіх археалагічных калекцый касцяных вырабаў перыяду IX – XVIII стст., якая налічвае звыш 650 адзінак. Пры археалагічных даследаваннях акрамя гатовых прадметаў выяўлена вельмі шмат іх нарыхтовак, паўфабрыкатаў, бракаваных вырабаў, разнастайных адыходаў (спілаваныя косткі, стружкі, апілкі і іншыя), велізарная колькасць сыравіны, а таксама інструменты для яе апрацоўкі і вырабу рэчаў з косці.

Асновай любой вытворчасці, яе галоўным кампанентам з'яўляецца сыравіна. У разглядаемым рамястве ў якасці сыравіны прымяняліся косткі, рогі, зубы (іклы) свойскіх і дзікіх жывёл (каровы, каня, авечкі, свінні, аленя, лася і гд.), а таксама ў невялікай колькасці косткі птушак (гуся, качкі, цаплі, жураўля і інш.) і рыб (у большасці сямейства асятровых). Асаблівым попытам у майстроў-касцярэзаў карысталіся рогі лася і аленя, дзякуючы іх трываласці, шчыльнасці, гнуткасці, лёгкасці апрацоўкі, аднароднасці структуры і невялікай колькасці тлушчу (мал. 1).

Дадзеныя тыпы сыравіны падвяргаліся розным відам апрацоўкі: сячэнню, рэзанню, пілаванню, свідраванню, шліфоўцы, паліроўцы, апрацоўцы на такарным станку і іншым, што бачна на вырабах, нарыхтоўках, паўфабрыкатах, сыравіне. На нарыхтоўцы XI ст. з рога лася касцярэз нажом нанёс дзве літары, што ўказвае на яго знаёмства з пісьменнасцю [12, с. 134]. Інструменты, з дапамогай якіх апрацоўвалася костка і выраблялася велізарная наменклатура разнастайнай прадукцыі – універсальныя. Прылады апрацоўкі косці падзяляюцца на дзве групы: інструменты для атрымання нарыхтовак, паўфабрыкатаў і непасрэдна для вырабу прадметаў. Прыладамі працы першаснай, грубай апрацоўкі служылі ўніверсальныя скоблі, лёгкія невялікія сякеры, ці вялікія нажы, пілы. На другім этапе прымяняліся невялікія нажы, свердлы, долаты, напільнікі, разцы, цыркулі, шылы і такарны станок. Арыгінальны невялікі касцярэзны нож XII–XIII стст., з маленькім і вузкім лязом. Касцяная рукаяць упрыгожана складаным рэдкім дэкорам: вочкава-геаметрычна-хвалістае аздабленне і выява фантастычнай жывёлы (мал. 2). [5, с. 138 – 153; 13, с. 91 – 95; 14, с. 112 – 113].



Мал. 1. Сыравіна касцярэзнай вытворчасці: 1, 3 – рог лася, 2 – рог аленя

Мал. 2. Інструменты касцярэзнай вытворчасці: 1 – спіральны свердзел, 2 – 4 – шылы, 5 – касцярэзны нож з касцяной арнаментаванай ручкай

У Полацку выяўлены тры касцярэзныя майстэрні: на тэрыторыі Вялікага пасада (XII – XIII стст. і XV – першай паловы XVI стст.) і на тэрыторыі Ніжняга замка (XIII – XIV стст.) (даследчык Дук Д.У.), дзе вырабляліся разнастайныя гаспадарчыя, бытавыя і іншыя прадметы з косці [1, с. 86 – 101; 4, с. 123 – 125, 131; 6, с. 173 – 174].

Касцяныя вырабы па агульнаму функцыянальнаму прызначэнню падзяляюцца на шэсць катэгорый, якія складаюцца з груп, апошнія па канкрэтнаму функцыянальнаму ўжытку раздзяляюцца на віды, а віды па марфалагічных адрозненнях – на тыпы, якія, у сваю чаргу, па форме, арнаменту – на падтыпы і варыянты.

Самай вялікай з'яўляецца ***катэгорыя гаспадарчых вырабаў***, у якую ўваходзяць прылады працы, дэталі прадметаў гаспадарчага інвентару, тэхнічныя прыстасаванні. Група прылад працы ўключае праколкі, качадыкі, іголкі. Колючыя прылады – праколкі і качадыкі з'яўляюцца самымі масавымі на многіх сярэднявечных археалагічных помніках, у Полацку іх выяўлена 137 і 11 суадносна (мал. 3).




Мал. 3. Прылады працы: 1 – 2 – качадыкі, 3 – 6 – праколкі

Касцяных іголак знойдзена 14 экз. – гэта самая вялікая колькасць з усіх знойдзеных на тэрыторыі Беларусі. Для захавання іголак служылі ігольнікі (7 экз.), вырабленыя, у асноўным, з трубчастых птушыных костак (мал. 4: 1 – 7).

Да прылад працы адносяцца таксама лашчылы і стылы-пісалы. Лашчылы, зробленыя з рэбраў жывёл, прымяняліся ў гарбарнай справе, керамічнай вытворчасці і іншых справах (мал. 4: 8). Два стылы XI – XII стст. з’яўляюцца ўнікальнымі для тэрыторыі Беларусі. Адно з іх добра выраблена і нават аздоблена гравіроўкай [2, с. 14, малюнкі 14: 3, 20: 4].

Да дэталяў прадметаў гаспадарчага інвентару належаць цэльныя рукаяці нажоў, лыжак, шылаў і іх наборныя элементы (накладкі, абоймы) (мал. 5), а таксама навершшы (4 экз.).




Мал. 4. Гаспадарчыя і бытавыя прадметы: 1 – 7 – ігольнікі, 8 – лашчыла, 9 – 12 – пярсцёнкі




Мал. 5. Прадметы гаспадарчага інвентару: 1 – 3 – цыліндрычныя рукаяці,
4 – 9 – пласціны-накладкі, 10 – 13 – абоймы рукаяці

Цэльныя рукаяці тыпалагічна падзяляюцца на цыліндрычныя (X – XIII стст.) і гранёныя (XIV – XVIII стст.). Цыліндрычныя рукаяці часта ўпрыгожваліся рознымі арнаментамі: геаметрычным, раслінным, камбінаваным і іншымі, а гранёныя часцей былі без аздаблення. Цікавасць уяўляе навершша XVII ст. з графіці ў выглядзе знака «IXI I» і літары «Н» [2, с. 14, малюнак 20: 3]. Прадметы гэтых дзвюх груп бытавалі на працягу ўсяго сярэднявечнага перыяду, асабліва былі пашыраны ў X – XIII стст. Тэхнічныя прыстасаванні прадстаўлены канічным праселкам XII ст., пляскатым падоўжаным юрком X – XI стст. па-

мерам 4,2 x 1,4 x 0,4 см, які прымяняўся для сукання нітак у вертыкальным ткацкім станку (малюнак 6: 1 – 2) і нявызначаным вырабам XVII ст., падобным да вертлюга [2, с. 14, малюнак 19: 8].

***Да катэгорыі бытавых прадметаў*** належаць упрыгожанні, прыналежнасці касцюма, прадметы туалету. Да групы ўпрыгожанняў адносяцца пярсцёнкі двух тыпаў: круглыя і гранёныя, якія бытавалі ў XII – XVI стст. (5 экз.) (мал. 4: 9 – 12). Група «Прыналежнасці касцюма» уключае зашпількі, гузікі, паясныя накладкі. Зашпількі мнагачленістыя даўжынёй ад 3 да 7 см вырабляліся на такарным станку і бытавалі ў XI – XII стст. (мал. 6: 6 – 10). У Полацку сустрэты адзін тып гузікаў: пляската-пукатыя (паўсферычныя) з адной адтулінай – 6 экз. (X – XIII стст.) і некалькімі адтулінамі – 5 экз. (XIV – XVII стст.) (мал. 6: 3 – 5). Дзве паясныя накладкі ў выглядзе тонкіх шырокіх пласцін з аздобленымі краямі прымяняліся ў XI–XIII стст. (мал. 6: 11 – 2).




Мал. 6. Тэхнічныя прыстасаванні і прыналежнасці касцюма: 1 – праселка, 2 – юрок пляскаты, 3 – 5 – гузікі, 6 – 10 – зашпількі стрыжнявыя, 11 – 12 – накладкі паясныя, 13 – 14 – капавушкі

Да прадметаў туалету належаць капавушкі, расчоскі, грабяні, зубная шчотка. Капавушак знойдзена 2 экз., бытавалі яны ў перыяд XI – XIII стст. і прымяняліся ў якасці вертавушак (пазногцечыстак) (мал. 6: 13 – 14). Адметная капавушка з навершшам у выглядзе аб'ёмнай выявы галавы птушкі [10, с. 145 – 146, мал. 2: 1, 5]. Расчосак IX – XI стст. у Полацку выяўлена самая вялікая калекцыя – 31 экз. (мал. 7).




Мал. 7. Прадметы туалету: 1 – 6 – аднабаковыя грабяні (расчоскі), 7 – расчоска з футарам

Больш раннія не арнаментаваныя, у астатніх аздабленне геаметрычна-вочкавае, знойдзены расчоскі і з футараламі для іх захавання. Двухбаковых грабянёў, якія тыпалагічна падзяляюцца на цэльныя (канец X – XIV стст.) і наборныя (XII – XIV стст.), у полацкай калекцыі 85 экз., асноўная маса без аздаблення (мал. 8).




Мал. 8. Прадметы туалету: 1 – 5 – двухбаковыя грабяні цэльныя, 6 – 8 – двухбаковыя грабяні наборныя

Двухбаковыя грабяні – гэта масавыя прадметы ўжытку, былі распаўсюджаны паўсюдна і аналогіі ім вельмі шырокія. Зубная шчотка на тэрыторыі Беларусі знойдзена ў адзінкавым экзэмпляры ў Полацку, дзе датуецца XVIII ст. [2, с. 14, малюнак 19: 9].

***Катэгорыя «Прадметы вайсковага прызначэння»*** складаецца з дзвюх груп: дэталі воінскага рыштунку і прадметы ўзбраення. Да першай з іх адносіцца знараддзе вершніка і верхавога каня, прадстаўленае пласцінамі-абкладкамі і петлямі для калчанаў і налуччаў, псаліямі, лукамі сядла, накладкай на запясце

лучніка (малюнак 9: 1 – 6). Комплекс усіх дадзеных прадметаў выкарыстоўваўся ў XII – XIII стст. Адметнай з'яўляецца адна пятля, таму што яна ўпрыгожана вочкава-лінейным арнаментам, у той час як петлі на тэрыторыі Беларусі, звычайна, былі без аздаблення. Тры фрагменты абкладак лукаў сядла выяўлены толькі ў Полацку, на іншых землях Беларусі іх невядома і адносяцца яны да X ст. Падобныя ім маюцца толькі у матэрыялах Шаставіцкага могільніка на Украіне. Цікавасць таксама ўяўляе накладка на запясце лучніка, якая служыла для засцярогі левага запясця лучніка ад udараў цецівы пры стральбе з лука. Аналогій на Беларусі ёй пакуль няма, а вядомы яны з Ноўгарада, Саркела і іншых помнікаў.




Мал. 9. Прадметы вайсковага прызначэння: 1 – пласціна налуччa. 2 – пятля калчана, 3 – 4 – псаліі, 5 – накладка на запясце лучніка, 6 – лука сядла, 7 – 8 – кісцяні

Да прадметаў узбраення належаць кісцяні і наканечнікі стрэл. У Полацку кісцянёў знойдзена 4 экз. – самая вялікая колькасць на Беларусі. Яны выраблены з рога лася, грушападобнай формы, аздоблены цыркульна-вочкавым арнаментам, прымяняліся ў XII – XIII стст. (малюнак 9: 7 – 8) [11, с. 102 – 108]. У полацкай археалагічнай калекцыі маецца 3 касцяныя ўтулкавыя наканечнікі стрэл XI – XIII стст. Яны маглі выкарыстоўвацца як у якасці баявых, так і для палявання на пушнога звера, бо не псавалі каштоўнае футра.

***Да катэгорыі культавых прадметаў*** адносяцца рэчы язычніцкага і хрысціянскага культаў. Група язычніцкіх прадметаў уключае падвескі-амулеты з іклаў і зубоў хатніх і дзікіх жывёл, прывеску-луніцу, што належалі да замоўнай, ахоўнай магіі, а таксама рытуальную сякерку (малюнак 10: 1 – 6; 10). Прывеска-луніца знойдзена толькі ў Полацку, вышынёй яна 2 см, дыяметрам 1,5 см, са скразной адтулінай у верхняй частцы для падвешвання. Датуецца XII

ст. Рытуальная сякерка XII ст. выкарыстоўвалася ў цырыманіяльных, рытуальных абрадах. Абедзве плоскасці пакрыты геаметрычным арнаментам, даўжыня складае 10,5 см, шырыня зверху 3,3 см, знізу 8 см.

Да групы прадметаў хрысціянскага культу адносяцца лыжка для прычасця і тры пасхальныя яйкі (малюнак 10: 7 – 9). Лыжачка для прыняцця прычасця XIII ст. знойдзена з адламанай лапатачкай і ўяўляе гладкі стрыжань даўжынёй 12 см, дыяметрам 0,7 – 1 см. Зверху і знізу ўпрыгожана плеценым арнаментам, сярэдзіна адпаліраваная. Пасхальныя яйкі вытачаны на такарным станку з рога лася і бытавалі ў XII – XIII стст. Яйкі авальныя, гладкія, не арнаментаваныя. Вышыня іх у межах 5 см, дыяметр 3 – 3,5 см.




Мал. 10. Культавыя прадметы: 1 – 5 – падвескі амулеты, 6 – прывеска-луніца, 7 – лыжка для прычасця, 8 – 9 – пасхальныя яйкі, 10 – рытуальная сякера

***Катэгорыя гульняў і забаў*** падзяляецца на дзве групы: прадметы інтылектуальных лагічных гульняў і прадметы дзіцячых гульняў і забаў. Да першай групы належаць шахматы, шашкі і фішка (малюнак 11: 1 – 13). У Полацку знойдзены абстрактныя сімвалічныя шахматы ў выглядзе геаметрычных фігур – 13 экз. Выяўлены амаль усе фігуры, акрамя каня: 3 каралі, 3 ферзі, 1 ладдзя, 2 сланы, 4 пешкі. Самая ранняя шахмата датуецца XII ст., а самая позняя XVII ст. Тыпалагічна шахматы падзяляюцца на абстрактныя арабскага тыпу (XII – XIII стст.) і абстрактныя новага тыпу (новай абстракцыі, XIV – XVII стст.). Вышыня фігур, у асноўным, ад 1,5 да 7,2 см, дыяметр асновы 1,5 – 2,6 см. Адметным уяўляецца кароль, знойдзены на Вялікім пасадзе (малюнак 11: 8). Шахмата цэлая, вытачана з рога на такарным станку, вышыня яе 7,2 см, аснова 2,6 см. Фігура складаецца з круглай асновы, ад якой уздымаецца каркас з размешчанымі на ім трыма вялікімі ярусамі і двума кальцавымі перахватамі. Ніжні ярус – у выглядзе паўсферы, сярэдні – цыліндрычнай формы, а апошні ярус завяршаецца каронай. Шахмата ўпрыгожана цыркульна-лінейным арнаментам, інкруставана жоўтым металам і датуецца XVI – XVII стст. [7, с. 46, малюнак 11: 1].



Мал. 11. Прадметы гульняў: 1 – 10 – абстрактныя шахматы, 11 – 13 – шашкі, 14 – 15 – канькі. 16 – 18 – свісцёлкі

Шашак знойдзена 4 экз., выраблены яны з рагоў лася і высакароднага аленя. Класіфікацыйна належаць да тыпу круглыя пляскатыя, падтыпаў: шашкі з канцэнтрычнымі кругамі (2), шашка камбінаваная, шашка з выявай. Дыяметрам у межах 3,4 – 4,8 см, пры вышыні 0,4 – 0,7 см і бытавалі ў XII – XVI стст. Цікавасць уяўляе камбінаваная шашка (з канцэнтрычнымі кругамі і цыркульным арнаментам) (мал. 11: 13). Гэта самая вялікая шашачная фігура з усіх, выяўленых на тэрыторыі Беларусі: дыяметр 4,8 см, вышыня 0,7 см. Знешняя паверхня ўпрыгожана шасцю двайнымі глыбокімі канцэнтрычнымі лініямі, паміж чацвёртым і пятым кругамі – пояс з вочкамі. Тыльная паверхня гладкая, без аздаблення, на бакавой – дзве паралельныя лініі. Датуецца пачаткам XIII ст. [8, с. 187 – 200].

Полацкая фішка-кубік – адна з васьмі, знойдзеных на Беларусі, выкарыстоўвалася як дапаўняльны прадмет пры першапачатковых гульнях у шашкі і шахматы, ці ў якасці самастойнага прадмета ў азартных гульнях (напрыклад, зернь). Уяўляе сабой кубік з вочкамі правільнай формы, памерамі граняў 1,2 х 1,2 см, па часе бытавання – гэта самы позні кубік на тэрыторыі Беларусі (XVII ст.) [3, с. 195, мал. 81: 5; 9, с. 137, мал. 1: 4].

Да групы дзіцячых гульняў і забаў адносяцца жужалкі, альчыкі, біты-бабкі і канькі, якія выкарыстоўваліся ў XI–XIII стст. Канькі для катання па лёдзе даволі рэдкая знаходка ў археалагічных матэрыялах на тэрыторыі Беларусі (мал. 11: 14 – 15). Аднак у Полацку іх знойдзена 7 экз., аналагічныя ім вядо-

мы з Віцебска, Брэста і Дрысвят. Даўжынёй, звычайна, былі ад 15 да 25 см, таўшчынёй у сярэдняй частцы каля 4 см. [13, с. 94 – 95].

***Да катэгорыі музычных інструментаў*** адносяцца свісцёлкі (3 экз.) (мал. 11: 16 – 18). Музычныя прадметы ў выглядзе свісцёлак часцей выраблялiся з трубчастых костак птушак. Дзве свісцёлкі знойдзены на тэрыторыі Верхняга замка і зроблены з тонкіх птушыных костак. Адна з іх уяўляе полую трубачку даўжынёй 7,7 см, з аднаго боку пашыраную, дыяметр яе складае 1 – 1,2 см. У верхняй частцы маецца маленькая скразная адтуліна памерам 0,2 х 0,4 мм. Другая – вельмі тонкая трубачка дыяметрам 0,6 см, даўжынёй 8,2 см, у верхняй частцы – невялікая адтуліна дыяметрам 0,3 мм. З абодвух краёў упрыгожана геаметрычна-лінейным арнаментам, сярэдзіна не арнаментаваная. Падобная на свістульку рэч знойдзена на Вялікім пасадзе Полацка. Выраблена таксама з птушынай косткі (дыяфіз плечавой косці) і з аднаго боку зламана. Мае невялікія памеры, адна частка крыху пашырана, другая – зроблена ў выглядзе роўнага шасцівугольніка. Даўжыня захаванай часткі прадмета 6,5 см, дыяметр 1,7 – 1,8 см. Усе тры вырабы па слою і аналогіях датуюцца XII – XIII стст. Падобныя свісцёлкі знойдзены на тэрыторыі Беларусі ў Слуцку і Пінску, таксама вядомы ў археалагічных матэрыялах Расіі і Германіі.

Падводзячы вынік, магчыма адзначыць, што касцярэзнае рамяство Полацка ўключалася ў цэласную сістэму вытворчай сферы, што прывяло да пашырэння яе прымянення. У развіцці апрацоўкі косці горада вылучаюцца два этапы: X – XIII стст. і XIV – XVIII стст. На першым этапе большая частка касцярэзнай прадукцыі мела утылітарнае прызначэнне, аднак значная ўвага надавалася яе мастацкаму афармленню з выкарыстаннем разнастайных дэкаратыўных і выяўленчых элементаў. З XII – XIII стст. рамеснікі-касцярэзы пачалі надаваць увагу вырабу высокамастацкіх твораў, каштоўных у эстэтычных адносінах, якія з'яўляюцца ўзорамі сярэднявечнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. На другім этапе вытворчасць прадметаў утылітарнага прызначэння ажыццяўлялася паралельна з вырабам рэчаў высокага мастацкага ўзроўню. Гэтыя два напрамкі ў вырабе касцяных прадметаў і характарызавалі касцярэзнае рамяство Полацка. Таксама па разнастайных касцяных прадметах можна прасачыць рознабаковыя ўзаемаадносіны насельніцтва Полацка як з бліжэйшымі суседнімі землямі, так і з аддаленымі краінамі Усходняй, Цэнтральнай і Заходняй Еўропы ў X – XVIII стст.

Вывучэнне касцяных вырабаў Полацка сведчыць аб аднастайнасці іх асноўнай масы ў дачыненні да такіх жа рэчаў іншых рэгіёнаў Беларусі і Старажытнай Русі. Сведчаннем гэтага з'яўляецца прыналежнасць дадзеных прадметаў да аднаго ўзроўню развіцця вытворчых сіл, тэхналогіі іх выканання і традыцыі, якая характарызуе адзінства ўсходнеславянскай матэрыяльнай культуры, распаўсюджанай на вялікіх абшарах Усходняй Еўропы.

ЛІТАРАТУРА

1. Дук, Д. Полацкая касцярэзная майстэрня XV – першай паловы XVI стст. / Д.У. Дук // Acta archaeologica Albaruthenica. Vol. II (Вып. 2) / Уклад. М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч. – Мінск: І.П. Логвінаў, 2007. – С. 86 – 101.
2. Дук, Д.У. Выратавальныя археалагічныя раскопкі на тэрыторыі Вялікага пасада Полацка ў 2005 годзе / Д.У. Дук // Вестник Полоцкого государственного университета. Серия А. Гуманитарные науки. – 2007. – № 1. – С. 2 – 15.
3. Дук Д.У. Полацк XVI – XVIII стагоддзяў: нарысы тапаграфіі, гісторыі матэрыяльнай культуры і арганізацыі жыццёвай прасторы насельніцтва беларускага горада / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2007. – 268 с.
4. Дук, Д.У. Полацк і палачане (IX – XVIII стст.) / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2010. – 180 с.
5. Мядзведзева, В.У. Вытворчасць касцяных прадметаў Полацкай зямлі / В.У. Мядзведзева // Материалы по археологии Беларуси: науч. сб. / Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. – Вып. 9: Древности Белоруссии (железный век и средневековье). – Минск, 2005. – С. 138 – 153.
6. Мядзведзева, В.У. Рамесныя касцярэзныя майстэрні XII – XVIII стст. / В.У. Мядзведзева // Романовские чтения: сб. тр. Междунар. науч. конф., Могилев, 21 окт. 2004 г. / Мин-во образов. РБ, УО «Могилев. гос. ун-т им. А.А. Кулешова»; под ред. О.В. Дьяченко. – Могилев, 2005. – С. 172 – 175.
7. Мядзведзева, В.У. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі (гісторыка-археалагічнае даследаванне) / В.У. Мядзведзева. – Мінск: Інстытут гісторыі НАН Беларусі, 2005. – 82 с.
8. Мядзведзева, В.У. Сярэдневяковыя шашкі Беларусі (па матэрыялах археалагічных даследаванняў) / В.У. Мядзведзева // Гіст.-археал. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2006. – № 22. – С. 187 – 200.
9. Мядзведзева, В.У. Да пытання аб адной групе рогавых вырабаў / В.У. Мядзведзева // Материалы по археологии Беларуси: науч. сб. / Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории. – Вып. 11: Древности Беларуси в системе межкультурных связей. – Минск, 2006. – С. 136 – 139.
10. Мядзведзева, В.У. Капавушкі X – XV стст. з тэрыторыі Беларусі / В.У. Мядзведзева // Гіст.-археал. зб. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. – Мінск, 2007. – Вып. 23. – С. 144 – 151.
11. Мядзведзева, В.У. Рогавыя кісцяні з тэрыторыі Беларусі / В.У. Мядзведзева // Acta Archaeologica Albaruthenica. – Vol. VI. – Мінск: Выдавец І.П. Логвінаў, 2010. – С. 102 – 108.
12. Штыхов, Г.В. Ремесло древнего Полоцка / Г.В. Штыхов // Материалы конференции молодых ученых Академии наук БССР. – Минск, 1962. – С. 130 – 135.

(мал. 1; 4: 2). Шырыня ямы на ўзроўні паверхні мацерыка каля 3,1 м, на ўзроўні дна каля 2,9 м. Запаўненне ямы пачынаецца прапласткам шэрай зямлі, які змяшчаў у сябе цэлыя і патрушчаныя камяні пашкоджаныя агнём, попел, вуголлі, косткі хатняй жывёлы і шмат керамікі – вялікіх абломкаў гаршкоў XI – XII стст. (мал. 5: 1 – 3, 6, 12, 17) [4, с. 81 – 82]. Ён прасочаны с глыбіні 0,3 м і знаходзіцца ў адной плоскасці з паверхняй мацерыка. Яе ўсходняя частка у паўднёвай сценцы траншэі знішчана перакопам. Пад вышэй згаданым прапласткам да самога дна яму запаўняе шэрая зямля з пяском (пераважае пясок). Перакоп, які знаходзіцца ва ўсходняй частцы ямы уяўляе сабой канічную яму меншых памераў з нахіленымі прамымі сценкамі шырынёй (у вусці) каля 1,0 м, па глыбіні яна адпавядае вышэй апісанай. Перакоп таксама прадстаўлены шэрай зямлёй з пяском (пераважае зямля). Цалкам аналагічная стратыграфія культурнага пласта і запаўнення гэтай жа ямы прасочана і ў паўночнай сценцы траншэі. Там быў прасочаны згаданы вышэй прапластак шэрай зямлі, які змяшчаў у сябе цэлыя і патрушчаныя камяні, якія былі пашкоджаны агнём. Там жа прасочаны попел, вуголлі, косткі хатняй жывёлы і знойдзена шмат керамікі – абломкаў гаршкоў XI – XII стст. [4, с. 81 – 82]. Пад час вывучэння гэтай ямы знойдзена таксама фрагмент донца гаршка з кляймом (мал. 5: 17). Ён меў патаўшчэнне ў сярэдзіне да 0,35 м і трымліваў кавалкі абпаленай і сырой гліны. Падчас распрацоўкі прапластка ў яго ўсходняй частцы знойдзены фрагмент ланцуга з колцам, магчыма ад дзверы. Пад апісаным вышэй прапласткам да самога дна гэту яму запаўняе пласт шэрай зямлі з пяском (пераважае пясок). У гэтым пласце былі прасочаны два невялікіх прапластка вуголля і абпаленай гліны таўшчынёй па 8 см і даўжынёй каля 1,0 м. Мяркуючы па размяшчэнню профіляў ямы можна лічыць, што траншэя яе прарэзала папярок.

Мал. 4. Узоры ям – скляпоў ад пабудоў і печаў. 1) – склеп ад пабудовы (Я-6); 2) – склеп ад заглыбленай пабудовы (Я-3); 3) – рэшткі печы каменкі з кавалкам плінфы (Я-4); 4) – стенка ямы пад калодзеж (Ст-1); 5) – заглыбленая зрубная пабудова са склепам (Я-10); 6) – склеп ад пабудовы (Я-5); 7) – ямы на месцы пабудоў (Я-17); 8) – рэшткі глінабіднай печы(?) (Я-19); 9) – рэшткі склепа (Я-21); 10) – ямы ад пабудоў (Я-20)



Мал. 5. Фрагменты гаршкоў знойдзеных ў ямах ад пабудоў і на адрэзках стратыграфіі: № 1 – 3, 6, 12, 17 – (Я -3); № 4, 10, 11, 18 – (Ст-1); № 5 – (Я-5); № 6 – 8 – (Я – 6); № 7 – 10, 13. 16, 23, 25 – (Я-9); № 14 – (Ст-3); № 15– (Я-11); №19, 24 – (Я-17), № 21 – (Я-10); № 26 – (Я – 18); № 20, 27 – (Я-19); № 28, 29 – (Я-20)

Значныя глыбіня і памеры выяўленай ямы дазваляюць лічыць яе своеасаблівым падклетам пад наземнай пабудовай [5, с. 140]. Адсутнасць адбіткаў спарахнелага бярвення дазваляюць лічыць, што пабудова магла ўяўляць сабой наземны зруб, а склеп быў абкладзены дошкамі. Ён быў ліквідаваны на пэўным этапе існавання пабудовы. Пабудова магла мець печ каменку, якая знаходзілася паблізу яе паўночнай сцяны. Яе скляпенне было складзена на гліне. Дзверы, мяркуючы па знаходцы ланцуга была ва ўсходняй сцяне будынка.

Далей была даследавана невялікая яма (Я-4) даўжынёй ад 0,9 м каля вусця і каля 0,8 м на ўзроўні дна. Таўшчыня культурнага пласта была ад 0,2 (без уліку ямы) да 0,5 м (да дна ямы). Глыбіня яе ад ўзроўню мацерыка каля 0,27 – 0,3 м. Зверху яе перакрываў аднародны шэры пласт зямлі, перакоп (?). Запаўненне ямы прадстаўлена светла-шэрай камкаватай зямлёй ў якой выяўлена шмат цэлых і патрушчаных перапаленых камянёў. У верхняй частцы запаўнення прасочаны кавалкі абпаленай гліны і попел (Мал. 1; 4: 3). Таўшчыня праплэстка гліны каля 0,1 – 0,15 м, да сценак ямы ён не прылягае. Межы паміж шэрай зямлёй і глінай размыты. Пад час распрацоўкі запаўнення ямы былі знойдзены кавалак плінфы таўшчынёй каля 37 мм і абломкі гаршкоў XI – XII стст. Магчыма, гэта развал вогнішча або печы каменкі.

Там жа, на 5-м зав. Ф. Міронавай знойдзена яшчэ адна яма ад пабудовы (Я-5). Траншэя таксама прарэзала яе перпендыкулярна (Мал. 1; 4: 6). Для яе вывучэння быў зачышчаны адрэзак стратыграфіі даўжынёй каля 2,5 м. Культурны пласт (без уліку ямы) ад 0,35 да 1,1 м (да дна ямы) таўшчынёй да глыбіні 0,3 м ўяўляе сабой шэры аднародны слой – перакоп. Далей да мацерыка прасочаны праплэстак шэрай зямлі. У гэтым праплэстку знойдзены цэлы кручаны драцяны бранзалет (Мал. 6: 3). Пласт ўяўляе сабой шэры аднародны слой – перакоп. Знойдзеная мацерыковая яма была ўпушчана на глыбіню каля 0,9 м ад

паверхні апошняга. Яе сценкі прамыя, злёгку адхіленыя вонкі. Шырыня вусця ямы каля 2,0 м, дна – каля 1,8 м. На глыбіні каля 0,3 м ад паверхні мацерыка яе верхнюю частку займае прапластак шэрай камкаватай зямлі. Апошні ўтрымлівае цэлыя і патрушчаныя пашкоджаныя агнём камяні, попел, вуголлі, косткі хатняй жывёлы. Там жа знойдзена і шмат керамікі – абломкаў гаршкоў XI – XII стст. [4, с. 81 – 82] Гэты прапластак таўшчынёй каля 15 см. Астатнюю частку ямы запаўняюць дробныя прапласткі пяску і шэрай зямлі. Межы паміж імі былі размыты. Там знойдзены вялікі кавалак гаршка XII ст. [4, с. 81 – 82] (Мал. 5:5) Пад час даследавання гэтай прапласткаў зямлі і пяску ў паўночнай сценкі траншэі знойдзены абломак донца шкляніцы (Мал. 6:4). Адсутнасць адбіткаў спарахнелых бярвення дазваляюць лічыць што пабудова магла ўяўляць сабой наземны зруб, а склеп быў абкладзены дошкамі. Ён быў ліквідаваны на пэўным этапе існавання пабудовы. Пабудова мела вогнішча. складзенае насуха з камянёў (Мал. 1; 4: 6).




Мал. 6. Адзінкавыя знаходкі з пабудоў. № 1) фрагмент пячной засланкі (?) (Ст-3);
№ 2 і 5) галава коніка і сценка міскі (Я-20); № 3 і 4) бранзалет і донца шкляніцы (Я-5)

Далейшыя даследаванні у 5-м зав. Ф. Міронавай дазволілі прасачыць рэшткі яшчэ адной пабудовы (Я-6). Агульная таўшчыня пласта на даследаваным адрэзку сценкі траншэі была каля 0,7 – 0,9 м (мал. 1; 4: 1). Межы ямы ад пабудовы вызначыць не ўдалося, бо яна выходзіла за межы даследаванага адрэзка сценкі траншэі. Пад перакопам таўшчынёй каля 0,3 – 0,4 м пачынаўся некрануты культурны пласт. Пад ім выяўлены пласт шэрай камкаватай зямлі. Ён таўшчынёй каля 0,2 м. Ніжэй яго была прасочана каменная адмостка (?). Яе даўжыня каля 1,0 м. Камяні адмосткі былі дыяметрам каля 0,1 – 0,2 см. З усходняга боку да адмосткі прымыкаў прапластак жоўтага пяску таўшчынёй каля 5 – 7 см. На адным ўзроўні з адным з адмосткаў, з яе заходняга боку, знойдзены развал гаршка XI – XII стст. (Мал. 5: 6 – 8) [4, с. 81 – 82]. Ніжэй каменнай адмосткі, прапластка пяску і развалу гаршка быў прасочаны прапластак чорнай зямлі, насычаны вуголлем і попелам, кавалкамі керамікі, косткамі жывёл.

Найбольш выразнай і цікавай сярод іх была яма ад невялікай пабудовы (Я-10), прасочаная на 3-м зав. Ф. Міронавай (мал. 1; 4: 5). Культурны пласт да дна ямы быў агульнай таўшчынёй каля 0,65 м. Ад дзённай паверхні да мацерыка быў прасочаны пласт шэрай аднароднай зямлі (перакоп?) таўшчынёй каля 0,3 м. (без уліку ямы). Для вывучэння быў зачышчаны адрэзак стратыграфіі даўжынёй 3,0 м. Пад ім выяўлена мацерыковая яма глыбінёй каля 1,0 м. ад дзённай паверхні. Дно ямы роўнае сценкі прамыя, злёгку нахіленыя. Дно ямы мела тры паглыблення іх глыбіня была каля 0,2 м. ад дна ямы. Запаўненне ямы прадстаўлена шэрай камкаватай зямлёй з украпваннямі абпаленай гліны і попелу. Пад час яе распрацоўкі знойдзены кавалкі гаршкоў XI – XII стст. [4, с. 81 – 82] Найбольш значнай знаходкай стаў вялікі фрагмент гаршка з хвалістым і скобка падобным арнаментам (мал. 5: 21) Шэрая зямля, якая запаўняла бакавыя паглыбленні ў дне ямы мела ўкрапванні сырой гліны. Тыя паглыбленні, што былі каля сценак ямы былі шырынёй каля 0,3 м, цэнтральная – каля 1,2 м. Магчыма, бакавыя паглыбленні засталіся ад зруба (мал. 4: 5), цэнтральнае – ад невялікага склепа (мал. 1; 4: 5). Такім чынам, можна меркаваць, што даўжыня аднаго з бакоў пабудовы была каля 2,6 м.

Іншыя ямы, якія засталіся ад пабудоў (Я – 9, 11, 12, 16 – 21) мелі менш выразны контур і падобную стратыграфію запаўнення (мал. 1; 4: 7 – 10). Абавязковым элементам іх стратыграфіі з’яўляўся прапластак, які ўтрымліваў камяні, попел (ці вуголле) і разам з імі косткі жывёл, альбо кераміку XI – XII стст. [4, с. 81 –

82] (мал. 5: 19, 20, 24. 26 – 29). Звычайна здабыты ў іх пад'ёмны матэрыял не вылучаўся разнастайнасцю, сярод унікальных знаходак можна назваць толькі мініяцюрны скрутак медзі (Я-16), кавалак міскі поўнага профілю (мал. 6: 5) і фрагмент цацкі у выглядзе галавы каня с пракрэсленай вупражжу (Я-20) (мал. 6: 2).

Падчас даследаванняў на вуліцы і завулках Ф. Міронавай ямаў ад скляпоў пабудоў XI – XII стст. была заўважана адна заканамернасць у іх размяшчэнні. Мацярык быў прадстаўлены пяском, ніжэй яго пачыналася тлустая чырвоная гліна, альбо суглінак.

Калі верхні пласт мацерыка быў пяшчаны, то пабудовы часта былі заглыблены ў яго ці мелі склепы. Апошнія, дзякуючы значным памерам, нярэдка маглі выконваць ролю падклецццяў. Гэта выклікана тым, што пясок фільтраваў ваду і склепы былі сухімі. Гэта акалічнасць, як і нязначная таўшчыня культурнага пласта таксама прывяла да таго, што культурны пласт арганічных рэчаў (дрэва, скуры і інш.) не захоўвае. Падлогі нават тых пабудоў, што былі без скляпоў, не было прычыны размяшчаць высока над зямлёй.

Калі мацярык пад культурным пластом быў прадстаўлены адразу глінай (ці суглінкам) і культурны пласт быў вільготны, пабудовы, калі яны там узводзіліся, скляпоў не мелі. Увогуле іх месцы немагчыма ніякім чынам нават прыблізна вызначыць. Таму гэтыя даследаваныя часткі траншэй былі названы сценкамі (Ст) (мал. 4: 4). На наяўнасць пабудоў магла ўказваць толькі канцэнтрацыя знаходак.

Цікавым месцам для даследаванняў стала кропка скрыжавання 4-га і 5-га завулкаў Ф. Міронавай (СТ-1). Там капаўся калодзеж пад калонку і злучалася некалькі магістраляў водаправода (мал. 4: 4). Назіранні паказалі, што культурны пласт таўшчынёй каля 0,7 м і да глыбіні каля 0,3 – 0,35 м ад дзённай паверхні ўяўляе сабой перакоп. Далей быў пласт шэрай зямлі, таўшчынёй каля 0,2 м пад ім у пласце падобнай зямлі каля самага мацерыка канцэнтраваліся знаходкі кавалкаў амфар і гаршкоў XI – XII стст. [4, с. 81 – 82] (мал. 5: 4, 10, 11, 18; 7).




Мал 7. Фрагменты амфар са скрыжавання 3-га, 4-га і 5-га зав. Ф. Міронавай (Ст-1)

У іншых месцах пласт быў моцна пашкоджаны перакопамі, зробленымі яшчэ ў старажытнасці. Было знойдзена шмат ям, якія часам перакрывалі адна адну, таму стратыграфія пласта была вельмі заблытана. Мяркуючы па памерах і глыбіні, гэтыя ямы засталіся ад вогнішчаў ці печак-каменак, якія былі ў будынках. Там таксама сустрэта шмат керамічных гаршкоў XI – XII стст [4, с. 81 – 82] сярод знаходак сустрэты донцы з ганчарнымі клеймамі (мал. 5: 7, 10, 13, 16, 23, 25) [4, с. 82].

Даследаваныя адрэзкі сценак траншэй дазволілі прасачыць рэшткі культурнага пласта з матэрыяламі XI – XII стст. Прыкмет ямы ў тых месцах не знойдзена.

Прыкмет пластоў XII – XVI стст. не выяўлена увогуле. Сярод знаходак, якія могуць сведчыць пра іх існаванне, трэба прыгадаць абломкі керамічных вырабаў з вул. Ф. Міронавай (мал. 6: 1) (Ст-3).

Пласты XVII – XIX стст. прадстаўлены вельмі сціпла. Так, толькі у адным месцы (Я-21) ва ўтрамбаваным перакопе адразу пад дзённай паверхняй знойдзены дробныя кавалкі кафлі з матывамі «каванага металу» пачатку XVII ст.

Больш прадстаўнiча выглядае калекцыя матэрыялаў XVIII ст. На 3-м зав. Ф. Міронавай (Я-13) былі знойдзены рэшткі вялікай зрубнай пабудовы, ад якой ацалелі ніжнія вянкі зруба. Будаўнічая траншэя прарэзала зруб па дыяганалі. Пабудова была значна заглыблена у пяшчана-гліністы мацярык, які прасочаны на глыбіні каля 0,6 – 0,8 м ад дзённай паверхні. Пясок утвараў нязначныя пласт нязначнай таўшчыні у верхняй частцы мацерыка.

Стратыграфія паўночнай сценкі (зачышчаны адрэзак 5,0 м) была наступнай. Да глыбіні 0,3 м. ад дзённай паверхні прасочаны слой перакопу. Наступны пласт быў таўшчынёй ад 0,3 да 0,7 м, ён прасочаны да мацерыка і цалкам перакрываў і запаўняў верхнюю частку ямы (мал. 8). Гэты пласт прадстаўляў сабой светла-шэрую камкаватую зямлю насычаную пяском, украпваннямі сырой гліны і кавалкамі цэглы (?) x 13,0 – 15,0 x 6,5 см. Большасць апошніх была сканцэнтравана каля яго ніжняй мяжы. Далей усю яму на глыбіні каля 0,9 – 1,0 м перакрываў пласт светла-шэрай зямлі таўшчынёй каля 0,25 м, ён быў насычаны украпваннямі пяску і вуголлем. Ся-

род іх было знойдзена шмат бітай кафлі са змешчанай рамкай і разеткай. (мал. 8), безрамкавай кафлі з манаграмай Дзевы Марыі. Самая старажытная кафля з падобнай манаграмай знойдзена на Запалоцкім пасадзе на месцы бернардынскага кляштара – першага каталіцкага манастыра на тэрыторыі Полацка, заснаванага ў 1498 г. і знішчанага ў 1563 г. пад час Лівонскай вайны [6, с. 90 – 91]. Знойдзеная зараз кафля датавана сярэдзінай XVIII ст., яна цалкам аналагічная адзінкавым фрагментам пласцін знойдзеных на карпусах «А» і «Г» былога полацкага езуіцкага калегіума ўзведзеных ў сярэдзіне XVIII ст. [7, с. 60 і 70: мал. 12]. Сустрэтыя карнізы былі акруглымі і гладкімі. Іх аналагі добра вядомыя па карычнева паліваным знаходкам з карпусоў полацкага езуіцкага калегіума, узведзеных у сярэдзіне XVIII ст. [7, с. 60 і 71: мал. 14] Далей знаходзіўся пласт светла шэрай зямлі, які цалкам перакрываў рэшткі зруба. У ім на ўзроўні бярвення сустрэты абломкі посуду – кавалкі гаршкоў і талерак XVIII ст. (мал. 9: 1 – 9) глыбіню ямы са зрубам высветліць не ўдалося, бо яго хутка затаплівала грунтовымі водамі.




Мал. 8. Стратыграфія сценкі траншэі і рэшткі зруба ад пабудовы XVIII ст. (Я-13)




Мал. 9. Знаходкі з пабудоў XVIII ст. (Я-13 і 15)

Ацалелыя бярвенні былі прасочаны на глыбіні 1,5 – 1,6 м ад дзённай паверхні, але назіранні за стратыграфіяй дна і сценак траншэі паказалі, што падлога будынка знаходзіцца на большай глыбіні, чым дно траншэі (мал. 8).

Мяркуючы па наяўнасці унутранай зрубнай перагародкі (?) гэта мог быць дом-пяцісценак на высокім драўлянай падклеці. Наяўнасць у верхнім пласце цаглянага бою дазваляе меркаваць, што яна магла мець фахверкавыя канструкцыі з цагляным запаўненнем, альбо столь памяшканняў было з боку паддашша выкладзена цэглай у мэтах супрацьпажарнай бяспекі. Далейшыя даследаванні стратыграфіі запаўнення ямы будынка дазволілі знайсці прапластак з бітай кафлі, цэглы вуголля і абпаленай гліны, якая засталася ад упаўшай з верху кафлянай печы. Цэлыя цагліны і кафлі былі старанна выбраны пад час разбурэння будынка. Печка магла ўяўляць сабой двюхкамерную грубку з вусцем з боку меншага памяшкання. Ніз яе быў аблямаваны кафляй з разеткай, верх з кафляй з манаграмай. Паліваныя пласціны маглі выкарыстоўвацца як каляровыя ўстаўкі (мал. 9: 1 – 6). Назіранні за стратыграфіяй паказалі, што на момант яго знішчэння склеп быў часткова засыпаны. Расчысціць да канца запаўненне зруба не ўдалося з-за абмежаванасці часу і хутка праступаўшай вады. Але на ўзроўні дна траншэі былі знойдзены рэшткі бярвення якія ўпалі з верху і са знойдзеным зрубам не звязаны, разам з імі сустрэты кавалкі гаршкоў і блакітных эмалевых талерак XVIII ст. (Мал. 9: 7 – 9) Гэта можа сведчыць аб блізкім знаходжанні рэштках падлогі. Поўная адсутнасць слядоў пажару на бярвенні сведчыць, што будынак мог быць нейкі час закінутым і пазней мэтанакіравана разабраным.

Пад час даследаванняў недалёка ад рэшткаў зруба на 4-м зав. Ф. Міронавай быў прасочаны тоўсты пласт хвалістай дахоўкі XVIII ст. з прастакутнымі шыпамі. Узоры аналагічнай дахоўкі знойдзены на паддашшы полацкага калегіума, узведзенага ў сярэдзіне XVIII ст. [8, с. 82]

Яшчэ адна пабудова канца XVIII ст была знойдзена крыху далей на 4-ым зав. Ф. Міронавай (Я-15). Ад яе ацалелі рэшткі цаглянага склепа, які таксама хутка запаўняўся вадой, таму падлогі склепа даследаваць не ўдалося. Ён быў таксама прарэзаны траншэяй па дыяганалі (Мал. 10). Стратыграфія даследавана-

га адрэзка паўночнай сценкі траншэі была наступная. Адразу пад дзёрнам знойдзеныя рэшткі пабудовы былі перакрыты магутным пластом перакопу таўшчынёй ад 0,9 да 1,2 м гэты перакоп па словах мясцовых жыхароў утварыўся пры пракладцы водаправоду для калонак ў 2005 г. Ён прасочаны да самога мацерыку, які тут быў прадстаўлены чырвонай тлустай глінай. Уся цагляная канструкцыя была перакрытая будаўнічым друзам, які быў прадстаўлены кавалкамі вапнавай рошчыны і цагляным боем.




Мал. 10. Рэшткі цаглянага склепа і рэканструкцыя плана яго абрысаў (Я-15)

Сам склеп меў сценкі таўшчынёй у адну цагліну. Муроўка прадстаўляла сабой шэрагі лажкоў і тычкоў і была выканана на вапнавай рошчыне. Скляпенне было цыліндрычным, магчыма ў палову цагліны, але яго пяты мелі ўзмацненне ў выглядзе муроўкі у таўшчыню цэглы. Ад узроўню скляпення муроўка сценак, была толькі ў палову цэглы.

Цэгла знойдзенага склепа не мела пальцавых або штампаваных барознаў на пасцелістым баку, але была памерамі 31 х 15 х 6,5 – 8,0 см, такім чынам, яе можна было датаваць другой паловай XVIII ст. Рошчына муроўкі сцен і скляпення была даволі слабай.

Абкопка склепа ўздоўж сценак дазволіла выявіць тры кута памяшкання і вызначыць памеры яго ўнутранай прасторы – 2,5 х 3,7 м. Даследаванні запаўнення склепа дазволілі выявіць нешматлікія артэфакты, неабходныя для яго датавання. Там былі знойдзены кавалкі прафіляваных кафляў – карнізаў з зялёнай эмаллю другой паловы XVIII ст і каля мяркуемага ўвахода (паўночна-заходняя сцяна) быў сабраны вялікі кавалак гаршка (Мал. 9: 10). Невялікія памеры знойдзенага склепа дазваляюць меркаваць, што ён мог знаходзіцца у складзе падмурка вялікай драўлянай драўлянай жылой пабудовы.

Размяшчэнне рэштка ў знойдзеных будынкаў дазваляюць меркаваць, што, магчыма, яны паказаны на планах Полацка канца XVIII – пачатку XIX стст. Да аднаго са знойдзеных будынкаў мог належыць магутны пласт дахоўкі XVIII ст., які быў знойдзены паміж імі. Наяўнасць кафлі з манаграмай Дзевы Марыі, дазваляюць меркаваць, што гэты маёнтак мог належаць каталіцкай царкве (дакладней аднаму з яе ордэнаў). Калі гэты пабудовы былі знішчаны невядома, бліжэйшай датай іх разбурэння можа быць вайна 1812 г.

*Заключэнне.* Праведзеныя даследаванні 2005 – 2006 гг. дазволілі ахапіць значную тэрыторыю, якая занята сеткай вуліцы і завулкаў Ф. Міронавай і атрымаць новыя і ўнікальныя звесткі пра адзін з самых не вывучаных археолагамі раёнаў Полацка. Па выніках гэтых даследаванняў можна зрабіць наступныя высновы.

У XI – XII стст. на гэтай тэрыторыі з'яўляецца вялікае неўмацаванае пасяленне. Таксама папярэдне можна занзначыць, што сярод жыхароў пасялення былі небагатыя рамеснікі (напрыклад камнярэзы, якія выраблялі праселкі) і гандляры (у прыватнасці прывазным вінoм і алеем у амфарах). Наяўнасць ў комплексах знаходак выяўленых у ямах ад пабудоў прывазных вырабаў і сыравіны сведчыла пра іх дачыненне да замежнага гандлю. Заходняя і паўночная межы пасялення дасягаюць тэрыторыі былога аэрадрому і, магчыма, часткова перакрыты сучаснай шматпавярховай

забудовай. Паўднёвая і ўсходняя межы – натуральныя, гэта Палата, яе старое забалочанае рэчышча за старажытным гарадзішчам і глыбокі роў, які прымыкае да сучаснай вул. Кастрычніцкай і прасочаны на другім яе баку ў выглядзе забалочанай нізіны побач з кафэ «Отдых» і закінутай пляцоўкай міні-рынку. Зараз па дну гэтага рова цячэ ручай. З улікам размяшчэння паселішча ў непасрэднай блізасці ад першапачатковага гарадзішча і ўзвозу ад Палаты паміж Верхнім замкам і Вялікім пасадам (пасля 1563 г. на гэтай тэрыторыі ўзнікне Ніжні замак), пасяленне магло быць з імі звязана праз масты ці паромы(?). Гэтыя абставіны забяспечвалі зручны доступ да першапачатковага дзяцінца (Полацкае гарадзішча) і торгу, які першапачаткова мог знаходзіцца ў непасрэднай блізасці ад яго, на тэрыторыі старажытнага пасада, на левым беразе Палаты (верагодна, ў раёне вул. Стралецкай паміж дамамі 15-23).

Назіранні за культурным пластам паказалі, што забудова паселішча на вул. Ф. Міронавай не была шчыльнай і праіснавала яно нядоўга (каля 100 – 150 гадоў) і хутка знікла. Нешматлікасць знойдзеных на месцы пабудоў артэфактаў сведчыць, што пакідаючы яго жыхары забралі з сабой усё каштоўнае. Прычынамі гэтага перасялення можа быць як пагаршэнне ўмоў пражывання (канец XII – пачатак XIII стст. – гэта час скарачэння межаў Запалоцкага пасада і перанос яго ўмацаванняў на лінію сучаснай вул. Гастэлла [6, с. 45], магчыма, з-за набегаў смалянаў. Першымі аб’ектамі іх нападу станавілася Запалоцце і правы бераг Палаты. Аддегласць ад першапачатковага дзяцінца і Верхняга замка, паўночна-заходняй ўмацаванай мяжы Запалоцкага пасада значна ўскладняла арганізацыю і кіраванне яго абаронай). Другой прычынай мог стаць пачатак пераносу дзяцінца з першапачатковага гарадзішча на Верхні замак, гэты працэс пачынаецца з XI ст. (пасля ўзвядзення Сафійскага сабора), і канчаткова завяршаецца толькі ў пачатку XIV ст. пасля пабудовы цагляна-драўлянага церама з печамі з гаршковай кафлі [6, с. 38 – 40] Трэцяй прычынай перасялення стаў перанос гандлёвай плошчы ад межаў былога дзяцінца на тэрыторыю, якую пасля 1563 г. часткова з поўначы зойме вал І. Грознага, а з паўднёвай пасля 1589 г. зойме езуіцкі калегіум. Адным з магчымых месцаў перасялення жыхароў даследаванага намі паселішча на вул. Ф. Міронавай можа з’яўляцца Вялікі пасад, які ў той час хутка развіваецца ва ўсходнім накірунку па берагавым тэрасам ўздоўж Дзвіны і Палаты і паступова ахоплівае з двух бакоў старажытны курганны некропаль, які дасягнуў у некаторых месцах нават сучаснай вул. Гогаля (тэрыторыя за гарадскім домам культуры паміж сучаснымі вул. Камуністычнай і Ф. Скарыны [6, с. 86, 108] і скрыжавання вул. Гогаля з вул. Ніжне-Пакроўскай каля дамоў № 44 – 47. Пасля будаўніцтва ў 1501 г. абарончай сцяны (паркана) [6, с. 102, 106] гэтыя часткі Вялікага пасада засталіся па-за межамі ўмацаванняў. Пасля гэтага тэрыторыя закінутага і спаленага паселішча на месцы сучаснай вул. Ф. Міронавай доўгі час застаецца вольнай ад засялення. З XVII ст. зноў пачынаецца засяленне гэтай тэрыторыі, з’яўляюцца першыя фальваркі, ад якіх засталіся дробныя кавалкі кафлі з матывамі «кованага металу». Іх знікненне можа быць звязана з войнамі XVII ст. З сярэдзіны XVIII ст. зноў пачалося будаўніцтва фальваркаў. На іх тэрыторыі з’яўляюцца капітальныя жылыя пабудовы на драўляных і цагляных склепах, крытыя керамічнай хвалістай дахоўкай, аздобленыя кафлянымі печкамі. Іх разбурэнне можа быць звязана з вайной 1812 г.

Знойдзеная манаграма Дзевы Марыі на некаторых кафлях з 3-га зав. Ф. Міронавай сваімі абрысамі нагадвае кафлю з манаграмай, што была знойдзена на Запалоцці на вул. Краснова, 12, там, дзе да Лівонскай вайны па назіранням Д.У. Дука быў бернардынскі кляштар, знішчаны ў 1563 г. [6, с. 90 – 91] Такім чынам, знойдзеныя намі пабудовы маглі належыць аднаму з ордэнаў каталіцкай царквы (бернардынцам ці езуітам).

Гэтыя высновы нельга лічыць вычарпальнымі, у перспектыве неабходна не толькі працягваць археалагічны нагляд за будаўніча-землянымі работамі, але і закладваць паўнавартасныя археалагічныя раскопкі. Такім чынам, стане магчымым больш дэталёва даследавання старажытнага паселішча і збудаваных пазней фальваркаў XVIII ст.

ЛІТАРАТУРА

1. Дэйніс І.П. Полацкая даўніна / І.П. Дэйніс. – Мінск: Медисонт. 2007. – 330 с.
2. Тарасаў, С. В. Полацк IX – XVII стст.: гісторыя і тапаграфія / С.В. Тарасаў. – Мінск: Беларуская навука, 1998. – 183 с.
3. Чантурия, Ю.В. «Градостроительное искусство Беларуси второй половины XVI – первой половины XIX в.: средневековое наследие, Реннесанс, барокко, классицизм» / Ю.В. Чантурия. – Минск: Беларуская наука, 2005. – 375 с.
4. Штыхов, Г.В. Древний Полоцк IX – XIII вв. / Г.В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1975. – 157с.
5. Древняя Русь. Город, замок, село. – М.: Наука, 1985. – 415 с.
6. Дук, Д.В. Полацк і палачане (IX – XVIII стст) / Д.У. Дук. – Наваполацк: ПДУ, 2010. – 180 с.
7. Салаўёў, А.А. Вынікі натурных даследаванняў на другім і трэцім паверхах корпуса «А» Полацкага езуіцкага калегіума пад час яго мадэрнізацыі / А.А. Салаўёў // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (па выніках навукова-даследчай работы ў 2006 г.). – Полацк: НПГКМЗ, 2004. – С. 33 – 62.
8. Салаўёў, А.А. Археалагічнае вывучэнне паддашша корпусаў «А» і «Г» / А.А. Салаўёў // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі (па выніках навукова-даследчай работы ў 2007 г.). – Полацк: НПГКМЗ, 2008. – С. 79 – 100.

## ГАНЧАРНЫЯ КЛЕЙМЫ: ПАРАЛЕЛІ І ХРАНАЛОГІЯ

***канд. гіст. навук, дац. С.В. ТАРАСАЎ***
***(Інстытут парламентарызму і прадпрымальніцтва, Мінск)***

*Прасочана храналогія і геаграфія ганчарных клеймаў, праведзены паралелі паміж клеймамі з тэрыторыі Балгарыі, Польшчы, усходнеславянскіх земляў, адзначана іх пераемнасць. Разгледжаны знакі ганчарных клеймаў, прасочана развіццё некаторых з іх. Выказана меркаванне аб тым, што кляймёны посуд мог выкарыстоўвацца ў якасці мернай тары.*

**Уводзіны.** Падставаю для напісання дадзенага артыкула стала патрапіўшае ў нашы рукі даследаванне балгарскага археолага Станчо Станчева «Грънчарски знаци от Плиска, Мадара и Преслав», надрукаванае ў зборніку «Разкопки и проучвания», ІІІ. София, 1949 г. Балгарскай акадэміі навук і Народнага археалагічнага музея [25].

Клеймы на донцах ганчарных пасудзін, гэтаксама як і клеймы (знакі) на будаўнічай кераміцы X – XII стст., дасёння з'яўляюца адной з неразгаданных таямніц не толькі беларускай, але і ўсёй еўрапейскай археалогіі. Публікацый на гэтую тэму дастаткова многа, як і публікацый саміх артэфактаў. Асноўныя гіпотэзы зводзяцца да таго, што клеймы маглі быць магічнымі знакамі, перайшоўшымі з дахрысціянскай традыцыі; асабістымі таварнымі знакамі майстраў-рамеснікаў; знакамі, якія сведчаць аб феадальнай залежнасці рамесніка ад гаспадара; рытуальнымі знакамі, звязанымі з абрадам пахавання; знакамі, якія вызначалі метралагічныя характарыстыкі посуду; знакамі – элементамі хрысціянскага культа.

Мы не ставім сваёй задачай вылучэнне новай тэорыі альбо абгрунтаванне папярэдніх. Аднак хочам звярнуць увагу на тыпалогію і храналогію ганчарных клеймаў ад Балгарыі да сучаснай Расіі, уключаючы некаторыя краіны Заходняй Еўропы. Мы таксама не прэтэндуем на паўнату скарыстанага матэрыялу. Разам з тым, выбарка амаль 30 публікацый на гэтую тэму (у тым ліку публікацыі саміх клеймаў) сама па сабе дастаткова рэпрэзэнтатыўная.

**Асноўная частка.** Балгарская тыпалогія знакаў паводле С. Станчава ўключае некалькі катэгорый знакаў на донцах гаршчкоў: кола; кола з упісаным ў яго меншым колам, крыжам і іншымі знакамі; знакі ў выглядзе свастыкі; знакі-«краты»; знакі-«відэльцы»; знакі-зоркі і тамгападобныя знакі ў выглядзе літар і «тамгі». Адпаведна аўтару, усе яны абсалютна ідэнтычны па форме і памерам у трох пералічаных балгарскіх гарадах. Датуюцца археалагічна IX – X стст.

Падобныя клеймы былі знойдзены намі ў публікацыях балгарскага часопіса «Археалогія» за 1969 г., дзе посуд з вёскі Нова Черна, у тым ліку і з клеймамі, адносяць да перыяду Першага Балгарскага царства (VIII – першая палова X ст.) [16, с. 31 – 41]. З Плiскі – да IX – XI стст. [1, с. 25 – 35]. Тут назіраюцца падобныя ганчарныя клеймы, як у С. Станчава, з некаторай варыятыўнасцю салярнага (кругавога) варыянта. Маецца на ўвазе больш складаны ўпісаны ў круг малюнак.

На тэрыторыі Ўкраіны падобныя клеймы таксама былі знойдзены. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што са значнай колькасці публікацый па археалогіі Ўкраіны клеймаў ўдалося знайсці не так і багата. Тыя, што сталі даступнымі, таксама падпадаюць пад балгарскую тыпалогію. Але часткова. У першую чаргу, гэта клеймы з выявай круга, двух кругоў, упісанага ў круг крыжа. Але тут з'яўляюцца і арыгінальныя выявы ў выглядзе «двузуба», якія даследчыкі звязваюць з княжай адміністрацыяй, і абсалютна ўнікальныя ў выглядзе «яшчаркі». З'яўленне клеймаў звязваецца з X ст. [17, с. 26]. і знаходкі ў Кіеве (горад Уладзіміра) – X – XI стст. [18, с. 80], у Вышгарадзе – другая палова X – XI ст. [19, с. 165]. Пры даследаванні жылых комплексаў у Кіеве на Горадзе Ўладзіміра (Дзеньслова) кераміка з клеймамі траплялася ў комплексах XII – пачатку XIII ст, канца XII – першай паловы XIII ст. [12, с. 241 – 255]. У блізкім кіеўскаму кругу і сферы ўплыву гарадзішчы Асавік (120 км на поўдзень ад Смаленска), дзе даследаваны фактычна закрыты археалагічны комплекс XII – XIII стст., знойдзена надзвычай багатая калекцыя посуду з клеймамі на донцах. Усе яны адносяцца да XII – XIII стст. [20, с. 107 – 108]. На тэрыторыі Польшчы клеймы на донцах ганчарных гаршчкоў (у тым ліку, падобныя і аналагічныя балгарскім) датуюцца «позняй фазай ранняга сярэднявечча», другой паловай XI – першай паловай XIII ст., канцом XIII – першай паловай XIV ст. (Michnik M., Szwed R.; Nowaczyk K., Nowaczyk L.; Gralak T.). Клеймы на гаршчках з Гданьска датуюцца другой паловай X – XI ст. [6, с. 320-321]. На Усход ад беларускіх земляў знойдзеныя клеймы на донцах гаршчкоў (таксама аналагічныя балгарскім) датуюцца ў Плёсе (Іванаў) – XII – першай паловай XIII ст. [26], у Волагдзе – XIII – XIV стст. [5].

Такім чынам, храналогія распаўсюджання клеймаў на посудзе выглядае наступным чынам. Найбольш старадаўнія паходзяць з тэрыторыі Балгарыі часоў Першага царства (IX – X стст.). Потым – Кіеў, Вышгарад і Гданьск – другая палова X – XI ст. Затым – усход Кіеўскай Русі (Асавік) і ўласна Кіеў – XII – XIII стст. І далей на Ўсход (Волагда, Плёс) – XII – XIV стст. Якое месца ў гэтай храналогіі займаюць беларускія землі?

Найбольш раннія датыроўкі посуду з клеймамі (адпаведна даследаваным помнікам) дае А.М. Плавінскі: кургановы могільнік Нагоўка, Мядзельскі раён – X – XI стст. [22, с. 74]. Г.В. Штыхаў у манаграфіі «Крывічы» датуе кургановыя комплексы, дзе знойдзены посуд з клеймамі, XI – XII стст. [28, с. 80]. У манаграфіі «Гарады Полацкай зямлі» клеймы на посудзе датуюцца – канцом X – XII ст. [29, с. 125]. XI ст. датуе посуд з клеймам з помніка Драздова (Талачынскі р-н) В.М. Ляўко [14, с. 81]. Я.Г. Звяруга датуе Кастыцкі могільнік на Вілейшчыне, дзе знойдзены ганчарны посуд з клеймамі, XI – XII стст. [10, с. 175]. Падобна, але больш шырока прадатаваны Ю.А. Зайцам археалагічныя комплексы ў Дрысвятах – XI – XIII стст. [3, с. 238] і ў Менску – другая палова XI – XIII стст. [9, с. 155].

Далей храналагічна ідзе цэлы шэраг археалагічных помнікаў, дзе посуд з клеймамі на донцах датуецца ў межах XII – XIII стст.: Лоск [3, с. 556], Маскавічы [7, с. 48 – 50], Капланцы [13, с. 207], Віцебск [4, с. 250], Полацк [11, с. 92], Ашмянец (Смаргоншчына) [8, с. 92]. Найбольш позняя храналагічныя датыроўкі падобнага посуду ў Воршы – XII – XIV стст. [14, с. 69].

Такім чынам бачна, што не выключаючы X і XI стст., на тэрыторыі Беларусі ганчарныя клеймы часцей датуюцца ў межах XII – XIII стст. і ў XIV ст. знікаюць.

У цэлым, карціна распаўсюджання ганчарных клеймаў на помніках, пералічаных вышэй, выглядае наступным чынам. Першыя клеймы з’яўляюцца на тэрыторыі сучаснай Балгарыі ў IX ст. (магчыма, у канцы VIII ст.) і шырока распаўсюджваюцца ў X ст. У X ст. (магчыма, у другой палове X ст.) і па XI ст. ганчарныя клеймы з’яўляюцца на тэрыторыі Польшчы, на тэрыторыі Кіеўскай зямлі. У канцы X – пачатку XI ст. ганчарныя клеймы з’яўляюцца на тэрыторыі Беларусі і атрымліваюць найбольшы распаўсюд у XII – XIII стст. У гэтыя ж стагоддзі (XII – XIII) ганчарныя клеймы з’яўляюцца на ўсход ад беларускіх і кіеўскіх земляў, дзе і праіснуюць па XIV ст.

Сярод розных відаў клеймаў балгарскія даследчыкі ставяць на першае месца клеймы ў выглядзе кола альбо некалькі ўпісанных адно ў другое колаў. Падобныя ж клеймы можна лічыць адной з большасцяў як на тэрыторыі Беларусі, так і сумежных краін. Яны знойдзены на Менцы, у Гродна, Ваўкавыску, Віцебску (па В. Ляўко і Т. Бубенька), Драздова (Талачынскі р-н Віцебскай вобласці), Чаркасава (Аршанскі р-н Віцебскай вобласці), у Капланцах. На сумежных тэрыторыях: гарадзішча Асавік, Клоніўскія курганы на Чарнігаўшчыне (В. Моця), у Волагдзе, Плеске, Разані.

Другой, не меньш (а можа і больш) распаўсюджанай групай знакаў з’яўляюцца ўпісаныя ў кола крыжы. На Беларусі: Ваўкавыск, Полацк, Віцебск, Гатовіна, Капланцы, Чаркасава. Ёсць яны і на сумежных тэрыторыях. Па форме гэтыя групы клеймаў абсалютна супадаюць з балгарскімі.

Падобная карціна назіраецца і з іншымі формамі клеймаў, дзе асновай з’яўляецца кола (што натуральна для кружальнага посуду). Аналогіі балгарскім мы знаходзім у выглядзе ўпісанага ў кола крыжа з дыяганалямі (шасці – васьміканцовы крыж), сегменціраванага крыжа (патоўшчаныя лініі), крыжоў, упісаных у некалькі кругоў. Не паглыбляючыся ў семантыку падобных знакаў, можна было б сказаць, што выявы салярных сімвалаў – рэч звычайная для ўсіх (асабліва індаеўрапейскіх народаў) і магла ўзнікнуць самастойна практычна ў любым месцы Еўразіі і не толькі. Але прыведзеная храналогія дазваляе лічыць іх культурным запазычаннем. Аб чым ніжэй.

Прыблізна тое ж можна казаць і пра з’яўленне на донцах гаршчкоў чатырохканцовых свастык. Аднак, на балгарскіх і вядомых нам украінскіх клеймах простая ў выглядзе тонкіх рысак свастыка адсутнічае, у той час як яна ёсць на беларускіх, польскіх і расійскіх помніках (налічана 13 узораў). Пры гэтым заўважым, што формы і памеры гэтых знакаў моцна адрозніваюцца, пры тым, што маюць аднолькавае семантычнае значэнне.

Разам з тым, ёсць адзін тып свастыкі, вельмі арыгінальны па сваёй форме, з’яўленне якога на розных геаграфічных прасторах наўрад ці можна лічыць выпадковасцю. Гэта свастыка ў выглядзе накладзеных па колу адзін на адзін квадратаў з выступаючымі краямі. Ва ўсёй скарыстанай намі літаратуры такі знак быў знойдзены толькі ў Ваўкавыску і Дрысвятах. Нідзе болей яго няма.

Яшчэ адзін цікавы сваёй унікальнасцю балгарскі знак – пяціканцовая зорка са скрыжаванымі рысамі ўнутры. Такі знак на донцы знойдзены ў Полацку, на гарадзішчы Асавік і больш нідзе.

Не меньш рэдкім з’яўляецца балгарскі знак у выглядзе ромба. Сустрэты на помніку Драздова (Талачынскі р-н ) і ў кургане Нагоўка (Мядзельскі р-н). У апошнім выпадку ў ромб упісаны чатырохканцовы крыж. Больш ромбы нідзе не сустрэты.

Рэдкім балгарскім знакам з’яўляецца трохканцовы крыж, упісаный у кола. Нам ён трапіўся толькі двойчы: сярод клеймаў Полацка (Раскоп 1, 1988 г.) і на гарадзішчы Асавік.

Не менш цікавымі з’яўляюцца балгарскія клеймы ў выглядзе кратаў (рашотак). У розных варыянтах яны вядомы ў Гданьску, Ваўкавыску, Заслаўі, Дрысвятах, а таксама на гарадзішчы Асавік. Заўважым, што ў матэрыялах раскопак аўтара ў Полацку таксама знойдзены клеймы ў выглядзе рашотак (5 экз.). Аднак яны нагадваюць прастакутнік, падзелены на сегменты, у той час як балгарскія маюць «адчыненые» бакі.

Такім чынам, ёсць знакі, распаўсюджанне якіх вельмі абмежавана тэрытарыяльна: Балгарыя – Беларусь (свастыка ў выглядзе накладзеных квадратаў, ромб); Балгарыя – Беларусь – Асавік (пяціканцовая зорка); Балгарыя – Польшча – Беларусь – Асавік (краты-рашоткі). Храналагічна гэта выглядае наступным

чынам: Балгарыя – IX – X стст.; Польша – другая палова X – XI ст.; Беларусь – XI – XII стст; Расія (Асавік) – XII – XIII стст. Храналагічная пераемнасць больш чым паказальна.

Аднак, ёсць і іншая цікавая з'ява. Гэта знакі, якія ні ў якім выглядзе не сустракаюцца ў Балгарыі, але бытуюць на беларускіх, украінскіх і сучасных расійскіх землях. Гэта знакі ў выглядзе двузуба і трызуба. Большасць даследчыкаў іх адназначна звязвае з княжацкай тамгой Рурыкавічаў. Двузубы знойдзены ў Кіеве, Ваўкавыску (ускладнёныя), гарадзішчы Асавік (просты). Трызубы – у Кіеве, Вышгарадзе, курганах Шэставіцы, Менску на Свіслачы, на гарадзішчы Асавік. Але тут патрэбна агаворка, што трызуб не абавязкова знак Рурыкавічаў, аб чым ніжэй.

Якія можна зрабіць папярэднія высновы?

Па-першае, найбольш раннія знакі-клеймы з разгледжаных з'яўляюцца ў Балгарыі.

Па-другое, як ў Балгарыі, так і на іншых тэрыторыях клеймы з'яўляюцца разам з пачаткам выкарыстання ганчарнага кола. І не раней.

Па-трэцяе, выкарыстанне клеймаў на ўсіх небалгарскіх тэрыторыях з'яўляецца запазычаннем.

У чацвёртых, запазычанне робіцца ў выглядзе выкарыстання балгарскай матрыцы (зорка, свастыка-квадраты, ромбы, рашоткі, кольцы і крыжы) альбо ў выглядзе мясцовай перапрацоўкі балгарскай матрыцы (колы і крыжы).

У пятых, з'яўленне клеймаў на донцах гаршчкоў прыводзіць да выкарыстання арыгінальных знакаў мясцовай традыцыі (двузубы (магчыма, трызубы), іншыя знакі, якія мы не разглядаем ў дадзеным даследаванні).

Перш чым выказаць свае меркаванні адносна таго, навошта гэтыя клеймы ставіліся на донцы гаршчкоў, паспрабуем адказаць на пытанне, як яны трапілі на нашы (у першую чаргу) землі. Дзеля гэтага трэба звярнуцца да гісторыі старажытнага Балгарскага царства IX – X стст.

Гэта быў перыяд найвышэйшага пад'ёму Першага Балгарскага царства, якое праіснавала з 681 па 1018 г. IX – X стст. – гэта час праўлення цара Сімяона Вялікага (893 – 927 гг.), калі межы Балгарыі найбольш пашырыліся ад паўвыспы Галіпалі ў Грэцыі і ад Сербіі да Карпацкіх гор на Паўночным Усходзе. Фактычна Вялікая Балгарыя гэтых часоў суседнічала з Польскім княствам, землямі Галіччыны і Валыньшчыны, печанегскімі стэпамі і землямі, на якія распаўсюджваўся пратэктарат кіеўскіх князёў (Святаслава, у прыватнасці). Такім чынам, нашы сённяшнія ўяўленні аб Балгарыі як аб краіне за «трыма» межамі, моцна адрозніваюцца ад гістарычных рэалій IX – X стст. Ад сярэднявечных беларускіх земляў гэта была адлегласць «выцягнутай рукі». Прынамсі, бліжэй за «Тмутаракань», куды гайсаў, адпаведна «Слова пра Паход Ігара», Усяслаў Чарадзей.

Балгарскі цар Сімяон замяніў свой тытул «князь» на «базілеўс» (цар, імператар), і Візантыя была вымушана гэта прызнаць. То быў другі ў бягучай гісторыі выпадак пасля Карла Вялікага. Балгарская царква стала першай патрыярхіяй пасля Пентархіі (Канстанцінопальскай, Рымскай, Александрыйскай, Атыахійскай і Ерусалімскай). Гэта была першая нацыянальная аўтакефальная (самастойная) царква ў Еўропе. Бурна развіваліся гарады, рамяство і гандаль. Менавіта ад грэкаў балгары запазычылі многія тэхналагічныя навацыі, у тым ліку і ганчарнае кола. Разам з колам на ганчарным посудзе з'явіліся і клеймы. Як пішуць балгарскія даследчыкі, знакі на посудзе сустракаліся ўжо паміж 500 і 900 гг. Але былі рэдкасцю [25, с. 242]. У X ст. яны становяцца распаўсюджанай з'явай. X ст. – час балгарскага культурнага ўплыву на ўсходнеславянскія землі, які найбольш праявіўся ў распаўсюдзе хрысціянства і літаратурнай пісьмовай мовы. Першы епіскап, які з'явіўся ў Кіеве пасля афіцыйнага прыняцця хрысціянства, быў балгарынам. Сам Святы Кірыл, аўтар першай славянскай азбукі, прыязджаў ў Херсанес у пошуках мошчаў Св. Клімента. І гэта толькі кароткі пералік славяна-балгарскіх сувязяў гэтага часу.

У дачыненні да нашых ганчарных клеймаў X – пачатак XI ст. можна разглядаць як час, калі разам з выкарыстаннем кола перадавалася традыцыя ставіць клеймы. Верагодней, ў гэты час клеймы перадаваліся як матрыцы, як знакі чагосьці, адметнасці і адрознення адных гаршчкоў ад другіх. Тут не важна была дакладная форма і памеры знакаў, толькі іх семантыка. Такім чынам, на наш погляд, з'явіліся шматлікія колы і крыжы, найбольш распаўсюджаныя як у нас, так і ў суседзяў.

Аднак найбольшае распаўсюджанне як у нас, так і на Кіеўшчыне і ў суседніх землях кляйменне посуду набывае ў XII – XIII стст. Нават можна казаць, што пік прыходзіцца на XII ст., а ў XIII ст. пачынаецца паступовы спад. Цікава, што гэтая храналогія перагукаецца з гісторыяй Першага Балгарскага царства.

Ужо ў канцы X ст. на балгар ажыццяўляюць паходы візантыйскі імператар Іаан Цымісхій і кіеўскі князь Святаслаў. Апошні, як вядома, нават сваю сталіцу меўся перанесці ў Дарастол. Пасля смерці балгарскага цара Самуіла ў 1014 г. Балгарыя была захоплена Візантыяй. Як гэта адбывалася і якія наступствы меліся для саміх балгар, падрабязна апісаў Леў Дыякан. Апрача візантыйскага панавання, якое доўжылася па 1185 г.і суправаджалася фізічным вынішчэннем балгар, краіна спазнала крыжовыя паходы 1096 і 1147 гг., пастаянныя напады печанегаў. Нядзіва, што вялікая колькасць этнічных балгар, ратуючы жыццё, апынулася за межамі сваёй дзяржавы. І абсалютна натуральна, што паратунку яны шукалі ў славянамоўным асяроддзі, а не, скажам, у рамана-германскім. Вось якраз яны, непасрэдныя перасяленцы другой паловы XI – пачатку XII стст., і маглі быць носьбітамі шматлікіх культурных і тэхнічных навацый. У тым ліку і ганчарных клеймаў.

Апошнюю тэзу, на наш погляд, падмацоўваюць тыя з клеймаў, якія носяць адзінкавы характар і складаную форму. Найперш гэта свастыка са складзеных квадратаў. Узоры, знойдзеныя ў Ваўкавыску і Дрысвятах, абсалютна аналагічны балгарскім. Магчыма, яны нават супадаюць па памерах (аб перспектывах падобных даследаванняў ніжэй). І гэта, безумоўна, не матрыца свастыкі як такой, а канкрэтная яе форма, якая магла з'явіцца толькі з самім носьбітам, майстрам-ганчаром. Прычым у першасным, так бы мовіць, не перапрацаваным варыянце. Тое ж справядліва і для знакаў у выглядзе пяціканцовай зоркі, ромба, часткова рашотак. Астатнія ж клеймы, асабліва ў выглядзе колаў і крыжоў, як найбольш папулярныя і таксама аналагічныя балгарскім, атрымалі і найбольшы распаўсюд. Гаворачы аб балгарах-перасяленцах, мы маем на ўвазе менавіта саміх носьбітаў традыцыі, а не, скажам, прывоз імпартных гаршчкоў з Балгарыі. Перш за ўсё таму, што храналагічны разрыў паміж арыгінальным балгарскім посудам і посудам з аналагічнымі клеймамі на нашых землях складае як мінімум паўтара стагоддзя. Паўтара стагоддзя пабытовы гліняны гаршчок не жыве, калі гэта толькі не кітайская імператарская ваза.

Некалькі словаў аб саміх знаках і іх магчымым выкарыстанні.

Збольшага знакі носяць салярна-аграрную сімволіку: Сонца, агонь, касмаганічная повязь неба і зямлі, якая «перапрацоўвалася» хрысціянствам. Яны складаюць абсалютную большасць. Іншыя можна аднесці да ўмоўнай катэгорыі «мясцовай творчасці». Іх таксама многа, аднак яны рэдка паўтараюцца. Сярод апошніх – розныя лініі, літарападобныя знакі, квадраты, розных памераў крыжыкі, нават выявы сабак, яшчаркі ці Маці-Мокаш, як з Маскавічаў.

Асобна ў гэтай катэгорыі знакаў трэба вылучыць тыя, што безумоўна, на наш погляд, можна звязваць з хрысціянскім культам. Сярод іх просты роўнаканцовы, часам патоўшчаны крыж, які знаходзіцца ў цэнтры донца і не кранае краёў пасудзіны-кола. Безумоўна, у дахрысціянскія часы ён таксама меў «салярны» сэнс: зямля, агонь, вада, паветра. Ён жа з'яўляецца найбольш старажытным у выкарыстанні самых першых хрысціян. Сярод балгарскіх клеймаў яго няма. Але знойдзены ў Полацку (раскопкі Г. Штыхава і аўтара), Дрысвятах, Ваўкавыску, у кургане каля в. Ашмянец, у Гданьску і на гарадзішчы Асавік.

Да безумоўна хрысціянскай сімволікі трэба аднесці кляймо, знойдзенае ў Полацку ў 1988 г. на Вялікім пасадзе. Гэта выява крыжа-краслета (перакрыжаваны крыж), які раней называўся Крыж Хрыста, таксама ён меў назву Тэўтонскі крыж. 4 маленькіх крыжыка па яго канцах сімвалізуюць 4 евангелля. Нідзе апрача Полацка падобных клеймаў не знойдзена. Аднак цікава, што абсалютныя аналагі такога крыжа, альбо вытворныя ад іх, упрыгожваюць і сёння купалы цэркваў Земенскага (пабудаваны ў XII ст.) і Мулдаўскага (канец другога Балгарскага царства, 1185 – 1396 гг.) манастыроў у Балгарыі [27, с. 268 – 269, 358 – 359].

Да катэгорыі хрысціянскіх сімвалаў можна аднесці і выяву пяціканцовай зоркі, якая знойдзена, як сказана вышэй, сярод клеймаў у Балгарыі, Полацку і на гарадзішчы Асавік. Зорка інакш называецца «Пентальфа» і ў хрысціянскай традыцыі сімвалізуе пакуты Хрыста – пяць Яго ранаў на крыжы.

Трэцяя катэгорыя – выявы княжацкіх знакаў: двузубы і трызубы. Іх даследчыкі адзінадушна звязваюць з прыналежнасцю (залежнасцю) ганчароў да княжаскага кола. На наш погляд, падобнае меркаванне справядліва ў асноўным толькі да двузубаў, аб чым ніжэй.

Такім чынам, гаварыць аб прыкладным значэнні клеймаў можна толькі разглядаючы першую і трэцюю катэгорыі.

Назіранне за «салярнымі» клеймамі выяўляе тэндэнцыю, якая праяўляецца ва ўскладненні формы кляйма. Перш за ўсё, у павялічэнні колькасці колаў, упісаных адно ў адно, а таксама ў павялічэнні колькасці канцоў крыжа. (Дарэчы, апошнія ў хрысціянскай традыцыі павялічваюцца толькі да шасці – так званы Крыж Канстанціна, які пабачыўся імператару ў небе разам з надпісам «in hocsigno vinces» – «з гэтым знакам пераможаш»). Калі не разглядаць дадзеную з'яву (памнажэнне дэталяў) як узмацненне «магічнасці» знака, ці ягонай «мастацкай» прывабнасці, то застаецца прызнаць, што гэта можа быць толькі нейкая матэматычная кратнасць. А мы ведаем, што ў гэтыя часы ўсе вымярэнні праводзіліся зыходзячы з метралагічнай кратнасці на два. Любая мера павялічвалася альбо памяншалася ў два разы ў любы бок.

У гэтай сувязі цікавыя назіранні і высновы зрабіў украінскі даследчык Р. Арлоў. Ён слушна заўважыў, што ў артыкулах «Рускай Праўды» і ў ноўгарадскіх граматах маюцца згадкі аб мерах важкіх і сыпучых рэчываў: «уборкі пшана», «уборкі гароху», «вёдры соладу», «гарнцы алею», «ставіца алею», «2 гаршчкі алею». Таксама згадвае грамату Вялікага князя Літоўскага Аляксандра ад 1494 г., дзе мёд мераецца «насаткай», «калодаю» і «пасудзінай» [19, с. 169]. Згаданы даследчык робіць цікавыя высновы, што клеймы маглі быць звязаны з агульнай дзяржаўнай сістэмай мер, неабходнай не толькі для гандлю, але і для ўсіх відаў разлікаў. У тым ліку і сплочвання падаткаў [19, с. 167]. У яе аснову магла быць пакладзена добра распрацаваная антычная метралагічная сістэма, якая мела свае эталоны. Падцвярджае гэтыя думкі і той факт, што з канца X – пачатку XI ст. пачаў адчувацца недахоп ў грашова-манетных рэсурсах, а XII – XIII стст. дык і ўвогуле атрымалі ў навуцы назоў «безманетны перыяд». Таму разлікі непасрэдна прадуктамі з дапамогаю клеймёных гаршчкоў (падобна кратнасці вагавых гірак), выглядае абсалютна натуральна. Да гэтага трэба дадаць і яшчэ адно назіранне: кляймёныя гаршчкі былі непрыдатны

для гатавання ежы. У выніку выкарыстання іх на вогнішчы, з улікам перападаў тэмпературы, клеймы хутка бы знішчаліся. І гаршчок, такім чынам, губляў бы сваю пачатковую вартасць і прызначэне.

**Заключэнне.** Паколькі на вялікім тарным посудзе, накшталт карчагаў, аналагічныя клеймы дасюль не знойдзены, можна меркаваць, што клеймёныя гаршчкі (дакладней іх аб'ём) маглі выкарыстоўвацца ў дробных і сярэдніх разліках. А з гэтага вынікае, што імі карысталіся самыя шырокія колы тагачаснага грамадства. Практычна ўсе. І паколькі для разлікаў патрабаваліся канкрэтныя «мерныя» гаршчкі, кляймо ставілася не на ўвесь посуд. З пачаткам распаўсюду на нашых і суседніх тэрыторыях пражскага гроша патрэба ў «мерных» гаршчках адпала сама сабой.

Аднак, гэта не азначае, што кляймёны посуд не мог выкарыстоўвацца і з іншымі мэтамі. Як вядома, у значнай колькасці гаршчкі з клеймамі знойдзены ў пахаваннях (статыстыкі, на жаль, пакуль няма). Пахавальны абрад быў звязаны з сакральнымі ўяўленнямі аб працягу існавання, «жыцця» чалавека ў іншым вымярэнні. Таму і гаршчок з кляймом набываў іншы, сакральны сэнс. Нельга выключаць, што «пахавальныя» гаршчкі з клеймамі выраблялiся адмыслова. Але маглі выкарыстоўвацца і тыя, якія ўжываліся як мера, паколькі яны мелі сваю, больш высокую за звычайны гаршчок вартасць.

Што тычыцца гаршчкоў з клеймамі ў выглядзе княжацкіх знакаў, пэўна, яны ў першую чаргу мусілі падкрэсліваць сацыяльны статус уладальніка. Але ёсць адно пытанне. Магчыма, што знакі, прыведзеныя Р. Арловым у якасці княжацкіх, на самой справе гэткімі не з'яўляюцца. Па-першае, яны вельмі падобны на балгарскія ў форме «відэльца» і «відэльца з ніжняй рыскай». Па-другое, падобныя знакі былі знойдзены і аўтарам пад час раскопак у Полацку ў 1988 г. у напластаваннях XII ст. Наўрад яны мелі адносіны да кіеўскай княжаскай дынастыі. Па-трэцяе, «відэлец» – вядомы хрысціянскі знак, які выказвае ідэю трыадзінства Бога, гэтаксама як «трохкутнік», «трылiснiк», перасякаючыеся тры колы і г.д. Дарэчы, ганчарнае клеймо ў выглядзе «трылісніка» таксама было знойдзена ў Полацку ў тым жа раскопе. Тут варта адзначыць, што ідэя Святой Троіцы была, на наш погляд, была вельмі актуальна ў тагачасным Полацку. Яна матэрыялізавалася ў манастыры Св. Троіцы пры Сафійскім саборы, у Крыжы Ефрасінні Полацкай.

І апошняе назіранне. Абсалютная большасць клеймёных гаршчкоў знойдзена на гарадзішчах і ў гарадах. А горад у разглядаемы храналагічны перыяд – гэта не толькі месца канцэнтрацыі рамяства, але, у першую чаргу, месца гандлю. Разлічвацца за тавары і паслугі пры адсутнасці манеты выключна «куніцамі і вавёркамі», якія з цягам часу гублялі «таварны» выгляд, відавочна, было нязручна. Ды і дзе гараджаніну-рамесніку налавіць тых «куніц»? Таму версія аднаго з магчымых выкарыстанняў кляймёнага посуду ў якасці мернай тары падаецца перспектыўнай. Для далейшага даследавання неабходна праводзіць метралагічнае вывучэне посуду ў цэлым, з вылучэннем посуду з клеймамі.

P.S. Клеймы на донцах кругавых гаршчкоў, безумоўна, маюць сувязь з клеймамі на будаўнічай кераміцы. І тыя і другія бытуюць у межах адной храналогіі. Клеймы на плінфе а priori не маглі быць мясцовым «вынаходніцтвам». Ёсць усе падставы меркаваць, што іх з'яўленне на нашых землях таксама звязана з балгара-балканскай традыцыяй IX – X стст.

ЛІТАРАТУРА

1. Антонова, А. Материали от сондажни проучвания в Плиска / А. Антонова, Ст. Дамянов // Археология. – София, Выдавецтва БАН, 1969. – № 2, год XI. – С. 23 – 34.
2. Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 3. Сярэдневяковы перыяд (IX – XIII стст.). – Мінск, Беларуская навука, 2000, – 554 с.
3. Археалогія і нумізматыка Беларусі. Энцыклапедыя. – Мінск, Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 1993, – 702 с.
4. Бубенько, Т.С. Средневековый Витебск. Посад – Нижний замок (X – первая половина XIV в.) / Т.С. Бубенько. – Витебск: УО «ВГУ им. П.М. Машерова», 2004. – 276 с.
5. Васильева, Н.Б. Средневековые гончарные клейма (по материалам раскопок на ул. Бурмагиных, 20) / Н.Б. Васильева // Археология Вологды. История и современность: Сборник статей. – Вологда, 2007. – С. 53 – 61 // [Электронный ресурс]. – Режим доступа: http://www.booksite.ru, свободный. – Загл. с экрана.
6. Гензель, В. Культура и искусство польского Поморья в эпоху раннего средневековья (VIII – XI вв.) / В. Гензель // Славяне и скандинавы. – Москва: Прогресс, 1986. – С. 319 – 321.
7. Дучиц, Л.В. Браславское Поозерье в IX – XIV вв. Историко-археологический очерк / Л.В.Дучиц. – Минск, Навука і тэхніка. – 120 с.
8. Зайкоўскі, Э.М. Даследаванне культавага комплекса Ашмянец. / Э.М.Зайкоўскі // Гістарычна-археалагічны зборнік. – 2002. – № 17. – С. 181 – 190.
9. Заяц, Ю.А. Новые археологические исследования Верхнего города Минска / Ю.А. Заяц // Гістарычна-археалагічны зборнік. – 2001. – № 16. – С. 151 – 166.
10. Звяруга, Я.Г. Даследаванне курганных могільнікаў вярхоўяў Віліі / Я.Г. Звяруга // Матэрыялы па археалогії Беларусі. – 2001. – № 3.

11. Здановіч, Н.І., Беларуская паліваная кераміка XI – XVIII стст. / Н.І. Здановіч, А.А. Трусаў. – Мінск, Навука і тэхніка, 1993. – 184 с.
12. Козловський, А.О. Садиба першої половини XIII ст. в «Місті Володимира» Давньего Києва / А.О.Козловский, М.М. Ієвлєв // Дьнєслово: Збірка праць на пошану дійсного члена Національної академії наук України Петра Петровича Толочка з нагоди його 70-річчя. – Київ: Інститут Археології, 2008. – С. 241 – 255.
13. Кошман, В.І. Гарадзішча Капланцы / В.І. Кошман // Гістарычна-археалагічны зборнік. – 2002. – № 17. – С. 201 – 211.
14. Левко, О.Н. Средневековое гончарство Северо-Восточной Белоруссии / О.Н. Левко. – Минск, Наука и техника. – 1992. – 127 с.
15. Материал к экскурсии «Древнерусская керамика Верхнего Поволжья» // [Электронный ресурс]. – Рэжим доступа: http://university.tversu.ru/misc/archaeology/ke.htm, свободный. – Загл. с экрана.
16. Милчев, Ат. Разкопки и проучвания в м. «Колето» при с. Нова Черна, Силистренски окръг през 1967 г. / Ат. Милчев, Ст.Ангелова // Археология. – София: Выдавецтва БАН, 1969. – № 3, год XI. – С. 31 – 41.
17. Моця, О.П. Населення Південно-руських земель IX – XIII ст. / О.П. Моця. – Київ, Інститут Археології, 1993. – 160 с.
18. Килиевич, С.Р. Детинец Киева IX – первой половины XIII вв. По материалам археологических исследований / С.Р. Килиевич. – Киев: Наукова думка, 1982. – 176 с., ил.
19. Орлов, Р.С. Правда Руська і керамічне виробництво XI – XII ст. / Р.С. Орлов // Старожитності Русі – України. Збірник наукових праць. Киівска Академія Эвробізнесу. – Київ, 1994. – С. 165.
20. Павлова, К.В. Гончарные клейма городища Осовик / К.В. Павлова // Памятники старины: концепции, открытия, версии. Памяти Василия Дмитриевича Белецкого (1919 – 1997). Т II. – Санкт-Петербург – Псков, 1997. – С. 107 – 116.
21. Плавинский, А.М. К вопросу о гончарных клеймах / А.М. Плавинский // Славяне и их соседи (археология, нумизматика, этнология). / Под ред. А.А. Егорейченко. – Минск: Веды, 1998. – С. 58 – 65.
22. Плавінскі, А.М. Курганны могільнік Нагаўкі / А.М. Плавінскі, М.А. Плавінскі // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Вып. 6. – Мінск, 2003. – С. 173 – 180.
23. Село Київское Русі. (за матеріалами південноруських земель). – Київ: Шлях, 2003. – 232 с.
24. Семянчук, Г. Курганны могільнік каля вёскі Гатовіна Мінскага раёна / Г. Семянчук // Гістарычна-археалагічны зборнік. – 2001. – № 16. – С. 121 – 128.
25. Станчев, С. Грнъчарски знаци от Плиска, Мадара и Преслав / С. Станчев // Разкопки и проучвания. III. – София, 1949. – С. 235 – 245.
26. Травкин, П.Н. Гончарные клейма из Плеса / П.Н. Травкин // [Электронны рэсурс]. – Режим доступа: http://www.travkin-museum.ru/statya04.html, свободный. – Загл. с экрана.
27. Чавръков Г. Български манастири / Г.Чавръков, К.Танчев. – София: Септемри, 1978. – 378 с.
28. Штыхаў, Г.В. Крывічы. Па матэрыялах раскопкаў курганой Паўночнай Беларусі / Г.В.Штыхаў. – Мінск: Навука і тэхніка, 1992 г. – 192 с.
29. Штыхов, Г.В. Города Полоцкой земли (IX – XIII вв.) / Г.В. Штыхов. – Минск: Наука и техника, 1978. – 160 с.

## АРХЕАЛАГІЧНЫЯ РАЗВЕДКІ НА ГРУНТОВЫМ МОГІЛЬНІКУ КАЛЯ в. ДОЎГАЕ ГЛЫБОЦКАГА РАЁНА ў 2010 г.

***В.У. ЧАРАЎКО***
***(Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт)***

*Прыведзена апісанне археалагічных разведак на грунтовым могільніку каля в. Доўгае Глыбоцкага сельсавета Віцебскай вобласці. Мэтай разведак было даследаванне пахавальных помнікаў XIV – XVIII стст. На могілках былі выяўлены каменныя крыжы, у т. л. са знакамі. Плошча шурфа склала 5 м$^2$. Зафіксаваны каменныя надмагільныя канструкцыі, прадстаўленыя суцэльнай вымасткай і абкладкай магілы камянямі па перыметры. Было ўскрыта два пахаванні, арыентаваных галавой на захад. Стан захаванасці касцякоў дрэнны. Пахавальны інвентар адсутнічаў, аднак знаходка фрагментаў керамічнага гаршка, які адносіцца да памінальнага інвентару, дазваляе датаваць пахаванні XV – XVI стст.*

**Уводзіны.** У ліпені 2010 г. экспедыцыя Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта ажыццяўляла археалагічныя разведкі на тэрыторыі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Мэтай было даследаванне паха-

вальных помнікаў XIV – XVIII стст. Адным з даследаваных аб'ектаў стаў грунтовы могільнік каля вёскі Доўгае, дзе праводзілася шурфоўка.

**Асноўная частка. Размяшчэнне і гісторыя вывучэння грунтовага могільніка каля в. Доўгае.** Могілкі размешчаны прыблізна ў 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі Доўгае. Вёска адносіцца да Зябкаўскага сельскага савета Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці. Могілкі складаюцца з трох частак: сучасных дзеючых могілак, закінутага грунтовага могільніка, на якім і праводзілася шурфоўка, і курганнага могільніка.

Курганы на могілках в. Доўгае ўзгадвае ў сваёй «Археалагічнай карце Віленскай губерні» Ф.В. Пакроўскі [1, с. 14, 17]. Адзначана, што 3 кургана абкладзены вялікімі камянямі. Курганная група на могілках в. Доўгае (са спасылкай на Ф.В. Пакроўскага, А. і В. Галубовічаў ўзгадваецца ў «Археалагічнай карце Беларусі» Г.В. Штыхава [2, с. 43]. У 1981 г. курганную групу апісала Л.У. Дучыц, а ў 1995 г. яна правяла там археалагічныя раскопкі кургаоў. Л.У. Дучыц паведамляе аб наяўнасці побач з курганамі грунтовага могільніка плошчай у некалькі гектар, «дзе пахаванні адбываліся ад часоў сярэднявечча да сённяшняга дня» і выказвае меркаванне, згодна з якім грунтовы могільнік з'яўляецца працягам курганнага. На старой частцы могільніка «многія з грунтовых магіл пакрыты камянямі», маюцца каменныя крыжы і валуны з высечанымі крыжамі і іншымі знакамі [3, с. 111].

**Апісанне помніка.** Закінуты грунтовы могільнік мае форму, набліжаную да прамавугольнага трохкутніка з бакамі 113 м («гіпатэнуза»), 50 м і 89 м («катэты»). «Гіпатэнуза» адпавядае лініі «поўнач – поўдзень». З паўночнага захаду да могільніка прымыкае курганная група, з захаду – дзеючыя могілкі. З паўночнага ўсходу могільнік абмежаваны сцежкай, а з паўднёвага ўсходу – грунтовай дарогай. На паўночным захадзе ад могільніка, за курганамі, праходзіць ашфальтаваная дарога да в. Доўгае.

Рэльеф роўны. Могільнік густа парос ліставым лесам і хмызняком. Асабліва часта сустракаецца алешнік. Хмызняк на заходняй ускраіне, памежнай з дзеючымі могілкамі, часткова засыпаны смеццем з іх. Могільнік пакрыт тоўстым слоем мінулагодняга лісця, якое разам з дзёрнам хавае дробныя камяні з абкладак магіл. Аднак мяркуючы па заўважных валунах у галавах (нагах) пахаванняў, могільнік уключае каля сотні пахаванняў. Дакладна заўважны толькі асобныя магілы, абкладзеныя (абстаўленыя) камянямі большых памераў. Зыходзячы з размяшчэння валуноў у галавах (нагах) пахавання, магілы арыентаваны па лініі «ўсход – захад». На могільніку маецца 5 каменных крыжоў (мал. 1). Крыжы ўраслі ў зямлю, нахілены. Крыжы і большасць камянёў – з пароды шэрага колеру. Маецца адзін крыж, які рассыпаецца з прычыны нетрываласці каменя (граніт-рапаківі?).



Мал. 1. Могільнік каля в. Доўгае Глыбоцкага раёна. Шурф 2010 г. Каменны крыж пахавання 2 са знакам

**Апісанне раскопа.** На ўсходнім ускрайку могільніка быў закладзены шурф. Шурф першапачаткова меў памеры 2x2 м. Размяшчэнне каменнага крыжа і надмагільных камянёў дазваляла меркаваць наяўнасць у межах шурфа двух пахаванняў.[18] У працэсе раскопак высветлілася, што пахаванні ідуць не ў радок, а адно змешчана адносна другога па лініі «ўсход – захад». Таму з усходняга бока шурфа, ля паўночна-ўсходняга кута, была зроблена прырэзка 1 × 1 м. Агульная плошча шурфа склала, такім чынам, 5 м$^2$. Шурф разбіраўся да мацерыка, на глыбіню 1,3 м.

Улічваючы адсутнасць паблізу аб'ектаў, якія маглі б выкарыстаны ў якасці рэпера, з гэтай мэтай выкарыстоўваўся спецыяльна загнаны ў зямлю на адлегласці 6 м на паўночны ўсход ад шурфа кавалак жалезнай арматуры. Нівелірная адзнака – 123.

Раскопкі праводзіліся пластамі па 0,2 м з дапамогай рыдлёвак. Расчыстка каменнай вымасткі, а таксама рэшткаў шкілета адбывалася пры дапамозе шпатэляў і пэндзляў. Грунт перабіраўся на месцы. Пасля заканчэння работ шурф быў засыпаны, знешні выгляд пахаванняў адноўлены.

У межах шурфа знаходзілася два пахаванні. Магіла 1 маркіравалася буйным валунным камянем з усходняга і меншым камянем з заходняга боку магілы, паміж імі прасочвалася некалькі меншых камянёў,

[18] У далейшым «пахаванне 1» («магіла 1», «надмагілле 1») – пахаванне, магіла, надмагілле ў паўднёвай частцы шурфа, «пахаванне 2» («магіла 2», «надмагілле 2») – пахаванне, магіла, надмагілле ў паўночнай частцы шурфа.

якія выступалі над дзёрнам. Магіла 1 была арыентаваная па лініі «ўсход – захад». Магіла 2 маркіравалася каменным крыжам з усходняга боку. Крыж быў моцна нахілены на ўсход. На крыжы маецца выбіты знак – (крыж з паўсферай). Надмагільных насыпаў у абодвух выпадках не прасочвалася.

***Пласт 1*** (0 – 0,2 м). На глыбіню 0,1 м пласт складаўся з дзёрана. Глыбей ішоў слой бесструктурнага светла-шэрага (попелападобнага) пяску-падзолу з вялікай колькасцю каранёў. Слой падзолу меў магутнасць каля 0,1 м.

Разбор пласта 1 дазволіў дэтальна ўбачыць надмагільныя канструкцыі (Мал. 2). *Надмагілле 1* уяўляла суцэльную вымастку з 21 камяня памерамі ад 0,05 да 0,4 м, якімі была пакрыта ўся паверхня магілы. Камяні ляжалі ў адзін слой. З усходняга і заходняга бакоў размяшчаліся 2 ўжо згаданыя валунныя камяні, што маркіравалі ногі і галаву пахавання. З улікам іх вымастка складалася з 23 камянёў. У цэнтры былі змешчаны буйнейшыя, па краях – драбнейшыя камяні.




Мал. 2. Могільнік каля в. Доўгае Глыбоцкага раёна. Шурф 2010 г. Надмагільныя канструкцыі пасля зняцця дзёрну

*Надмагільная канструкцыя 2* ўключала згаданы каменны крыж (гл. мал. 1), камяні, якімі ён быў абкладзены з мэтай умацавання, і абкладку магілы па перыметры. Крыж размяшчаўся з заходняга боку надмагільнай канструкцыі. Канструкцыя арыентавана па лініі «ўсход – захад». Надмагілле ў асноўным было зроблена з камянёў невялікіх памераў (0,1 – 0,3 м). Шэсць камянёў былі змешчаны вакол падножжа крыжа і адначасова акалялі магілу з захаду. У першапачатковы шурф трапілі каменны крыж і камяні з абкладкай. Выяўленне пахавання 2 абумовілі неабходнасць прырэзкі да шурфа, у выніку якой была выяўлена астатняя частка надмагільнай канструкцыі – абкладка магілы па перыметры. Па перыметры магіла была абкладзена 10 камянямі, па 5 з паўночнага і паўднёвага бакоў. Канструкцыя не ўтварала замкнутага контура: адсутнічалі камяні з усходняга боку. Відаць, магіла была некалі абкладзена камянямі па ўсім перыметры.

Камяні надмагільных канструкцый пахаванняў 1 – 2 у асноўным знаходзіліся ў пласце 1, але некалькі буйных камянёў заходзілі ў пласт 2.

***Пласт 2*** (0,2 – 0,4 м). Пласт складаўся з шэра-жоўтага, досыць шчыльнага пяску з вялікай кольскасцю каранёў. У слаі пасля зачысткі заўважна наяўнасць больш цёмных плям ад карэння, якое сустракаецца ў вялікай кольскасці. Плямы размешчаны хаатычна.

Пад камянямі, якімі быў абкладзены крыж, знойдзены развал керамічнага начыння. Нівелірная адзнака – 150.

***Пласт 3*** (0,4 – 0,6 м) складаўся з жоўтага шчыльнага пяску. У паўднёвай палове шурфа колькасць каранёў была большая, чым ва ўсходняй. Магільных плям не прасочвалася.

У межах ***пласта 4*** (0,6 – 0,8 м) на ўзроўні каля 0,7 м адбыўся выхад на мацярык. Жоўты пясок па ўсёй плошчы шурфа змяніўся светла-шэра-жоўтым мацерыковым пяском. У пласце 4 сустракалася вялікая колькасць каранёў. У паўднёвай частцы шурфа быў знойдзены кавалак вугалю памерамі каля 1 см$^3$. Зачыстка пласта 4 не выявіла контураў магільных ям.

У паўднёвай палове шурфа на глыбіні 0,95 м (нівелірная адзнака 218) на адлегласці 0,1 м ад заходняй і 0,55 м ад паўднёвай сценак быў выяўлены чэрап, якім было прадстаўлена *пахаванне 1* (гл. Мал. 3). Іншых касцей не выяўлена. Паралельна паўднёвай сценцы шурфа ад алешыны, што расла на ўсход ад шурфа, раслі карані, якія, верагодна, і знішчылі шкілет. Стан захаванасці чэрапа дрэнны. Пахаванне было арыентавана галавой на захад. З заходняга боку, дзе быў выяўлены чэрап, папярочная прарэзка дазволіла заўважыць тлен ад труны. Мяркуючы па тлену, у раёне галавы труна мела шырыню 0,27 м.

У паўночнай палове шурфа на глыбіні 1,02 м (нівелірная адзнака – 234) на адлегласці 0,6 м ад паўночнай сценкі шурфа і 0,2 м ад першапачатковай усходняй сценкі шурфа (г.зн. без прырэзкі) былі выяўлены чэрап *пахавання 2*. Пахаванне 2 прасочвалася па чорных плямах, густа пераплеценых карэннем,

якія ішлі на ўсход за межы шурфа. Таму да шурфа была зроблена прырэзка (гл. вышэй). Пахаванне 2 прадстаўлена чэрапам і 2 фрагментамі доўгіх костак. Стан захаванасці надзвычай дрэнны. Косці чэрапа ўтрымліваліся разам дзякуючы камяку зямлі ўнутры чэрапа і прарosшым праз чэрап караням. Пахаванне арыентавана галавой на захад.




Мал. 3. Могільнік каля в. Доўгае Глыбоцкага раёна. Шурф 2010 г. Размяшчэнне пахаванняў

Антрапалагічная экспертыза пахаванняў праводзілася антраполагам В.А. Емяльянчык[19], старшым выкладчыкам УА «ПДУ». Паводле вынікаў экспертызы, першае пахаванне належыць жанчыне ва ўзросце 20 – 30 гадоў. Стан захаванасці рэшткаў шкілету не дазваляюць вызначыць пол пахаванага ў магіле 2. Яго ўзрост складае 20 – 40 гадоў.

**Апісанне знаходак.** Знаходкі прадстаўлены развалам керамічнага гаршка, знойдзенага пад каменнай надмагільнай канструкцыяй пахавання 2. Развал уключаў 9 фрагментаў гаршка, у т.л. 3 фрагменты венца. 8 фрагментаў спалучаліся паміж сабой, іх атрымалася склеіць (мал. 4).




Мал. 4. Могільнік каля в. Доўгае Глыбоцкага раёна. Шурф 2010 г. Керамічны гаршок з пахавання 2

Гаршок шурпаты, няроўна загладжаны. На зломе ў цесце бачна жарства памерамі 0,5 – 1,0 мм. Венца гаршка плаўна адагнута вонку, шыйка кароткая, плечыка рэзка падкрэслена. Плечыка ўпрыгожана ямкавым арнаментам. Гаршок можа быць датаваны XV – XVI стст.

Глыбіня, на якой быў знойдзены развал гаршка, дазваляе аднесці яго не да пахавальнага, а да памінальнага інвентару. Адсутнасць пахавальнага інвентару – прыкмета большасці пахавальных помнікаў Беларускага Падзвіння XIV – XVIII стст.

**Заключэнне.** Такім чынам, былі праведзены разведкі на грунтовым могільніку каля в. Доўгае Глыбоцкага раёна. На могільніку закладаўся шурф плошчай 5 м$^2$. Было ўскрыта 2 пахаванні. Зафіксаваны два

[19] Аўтар удзячны В.А. Емяльянчык за праведзеную антрапалагічную экспертызу.

варыянты каменных надмагільных канструкцый, прадстаўленыя суцэльнай вымасткай і абкладкай магілы па перыметры, выяўлены рэшткі труны і памінальнага інвентару (кераміка). Атрыманы матэрыял адносіцца да XV – XVI стст.

ЛІТАРАТУРА

1. Покровский, Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии / Ф.В. Покровский – Вильна: Типография А.Г. Сыркина, 1893. – XVIII с.+164 с.
2. Штыхов, Г.В. Археологическая карта Белоруссии. Памятники железного века и эпохи феодализма. Вып. 2 / Г.В. Штыхов. – Минск: Полымя, 1971. – 276 с.
3. Дучыц, Л. Курганны могільнік Зябкі – Доўгае / Л. Дучыц // Гістарычна-археалагічны зборнік. – 2001. – № 16. – С. 111 – 114.

## РАННЕНЕАЛІТЫЧНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ Ў МІКРАРЭГІЁНЕ КРЫВІНСКАГА ТАРФЯНІКА

***М.М. ЧАРНЯЎСКІ, У.Я. ГРЫБ***
***(Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, Мінск)***

*Разглядаюцца вынікі раскопак стаянкі ранненеалітычнай нарвенскай культуры Асавец 4 у Бешанковіцкім р-не, на якой захаваўся інвентар з арганікі і мінеральных рэчываў – касцяныя, рагавыя і крамянёвыя прылады працы і паляўнічая зброя, упрыгожанні, а таксама фрагменты керамічнага посуду. Адзначана генетычная пераемнасць мясцовай нарвенскай культуры з папярэдняй мезалітычнай кундскай культурай і яе сувязі з ранненеалітычнымі супольнасцямі Падняроўя і Панямоння.*

У Крывінскім мікрарэгіёне, размешчаным на мяжы Бешанковіцкага і Сенненскага р-наў Віцебскай вобл., знаходзіцца шэраг старажытных паселішчаў, вывучэнне якіх дазваляе з рознай ступенню паўнаты рэканструяваць гісторыю мясцовага насельніцтва на працягу прыкладна 5-ці тысячагоддзяў – ад 6-га да сярэдзіны 2-га тыс. да н.э. У археалагічнай перыядызацыі гэта ад ранняга неаліту да сярэдняга бронзавага веку.

Найбольш старажытным паселішчам мікрарэгіёна, якое адносіцца да нарвенскай культуры, з’яўляецца стаянка Асавец 4, размешчаная праз 2,0 км на паўднёвы ўсход ад в. Асавец Бешанковіцкага р-на. Яна займала паўднёва-заходні схіл пясчана-жвіровага ўзгорка «Брускавішча», што ўздымаецца каля краю Крывінскага тарфяніка. На жаль, амаль увесь узгорак у 1974 – 75 гг. быў знішчаны кар’ерам, прыдатнай археалагічнаму даследаванню засталася вузкая паласа каля падножжа (мал. 1: Б, В). Помнік выяўлены аўтарам у 1973 г., ім жа і праводзіліся тут раскопкі ў 1976 і 1977 гг., у выніку чаго ўскрыта 110 $м^2$. [15]. У наступныя 1980 і 1987 гг. невялікія даследаванні вяліся на ўсходнім краі кар’ера, аднак яны далі мала матэрыялу, да таго ж ён быў рознакультурным.

Найбольшая вышыня захаванага ўчастка паселішча над узроўнем тарфяніка ў месцы раскопа 1976 г. складала 2 м. Культурны пласт дасягаў 0,5 – 0,7 м (мал. 1: В). Ён складаўся з жвіру з вялікай колькасцю вапняковых галек, што прывяло да вапнавання астэалагічнага матэрыялу, які захаваўся ў даволі добрым стане. Пласт падсцілаўся тым жа жвірам.

Насычанасць культурнага пласта артэфактамі ўмераная. Выглядае, што частка іх магла перамяшчацца ўніз па схілу натуральным чынам. У раскопе 1977 г. выўленае авальнавыцягнутае крыху пранікаючае ў мацярык паглыбленне памерамі 4,0 на 1,5 м, арыентаванае з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход (мал. 1: В). У яго запаўненні прасочана невялікая вуглістасць, каля паўднёвага краю адзначана невялікая сціжма патрушчаных костак жывёл, а за межамі таго ж краю – развал часткі глінянай пасудзіны. Магчыма, паглыбленне сведчыць пра наяўнасць рэшткаў нейкага жытла.

Крамянёвы комплекс Асаўца 4 прадстаўлены першаснымі і другаснымі прадуктамі расшчаплення крэменю. Усяго за два сезоны раскопак было здабыта каля 200 артэфактаў з гэтага матэрыялу, сярод якіх 60 маюць сляды другаснай апрацоўкі, пераважна рэтушоўку.

Крэмень даволі розны па якасці і гатунках. Ён пераважна светла-шэры да малочна-белага, зрэдку шэры і цёмна-шэры, часам злёгку рудаваты або нават ружаваты да чырвонага. Пераважала мясцовая галечная сыравіна дрэннай якасці. Але сутракаецца і больш якасны імпартаваны крэмень. Светлая танальнасць большасці матэрыялу ў асноўным выклікана яго заляганнем з вапняком.

Малая колькасць крамянёвай сыравіны вымагала ашчаднасці. Так, знойдзены толькі два нуклеусы. Абодва аднапляцовачныя. Адзін з іх мае добра аформлены фронт-адшчэпню (мал. 2: 19). Другі нуклеус даволі аморфны.

Першасным прадуктам расшчаплення крэменю з’яўляюцца пераважна адшчэпы і пласціны, якія выкарыстоўваліся ў якасці нарыхтовак для прылад працы або з’яўляліся адыходамі вытворчасці. Самую масавую частку крамянёвай калекцыі складаюць адшчэпы. Пласцін знойдзена значна менш – 29.

Тэхналогія нарыхтоўкі пласцін была заснаванная на выкарыстанні некалькіх тэхнік зняцця. Найбольш распаўсюджанай з'яўлялася адціскальная. Аб гэтым перш за ўсё сведчыць іх правільная паралельная агранка, нярэдка трапецападобнае сячэнне. Для атрымання пласцін выкарыстоўвалі і пасярэднікі. У выніку на нарыхтоўках атрымлівалася як паралельная, так і непаралельная агранка. У калекцыі таксама прысутнічае абломак рабрыстай пласціны. Такія артэфакты ўтвараліся пры першых сколваннях для фармавання фронту нуклеуса.










Мал. 1. Ранні неаліт Паўночнай Беларусі (А); план стаянкі Асавец 4 (Б); раскоп на стаянцы Асавец 4 (В)




Мал. 2. Асавец 4. Крамянёвы інвентар: 1, 2, 3 – наканечнікі стрэлаў; 4, 7, 10, 11, 14 – скрабкі; 5 – разец; 6 – сякера з разцом на абушку; 8 – трапецыя; 9 – наканечнік дроціка; 12 – скобля; 13 – свердзел; 15, 16 – рэжучыя прылады; 17 – укладка; 18 – рубячая прылада; 19 – нуклеус

Усе прылады працы дзеляцца на некалькі тыпаў у залежнасці ад іх тэхналагічнага і функцыянальнага кантэксту.

Да паляўнічай зброі адносяцца тры наканечнікі стрэлаў – два цэлыя і адзін з абламаным вастрыём. Усе яны ўтвараюць адну групу з невялікімі адрозненнямі паміж сабой.

Першы наканечнік выраблены з правільнай пласціны з трапецападобным сячэннем (мал. 2: 1). Ударны бугарок адсутнічае, але па ўскосных прыкметах можна вызначыць, што нарыхтоўка для наканечніка была атрыманая з дапамогай адціску. Вастрыё знаходзіцца на дыстальным канцы пласціны і аформлена рэтушшу па краях з брушка і спінкі, г.зн. з вентральнага і дарсальнага бакоў. Чаранок аформлены стромкай рэтушшу на дарсальным і супрацьлеглым яму вентральным баку.

Другі наканечнік таксама змайстраваны з правільнай адцісканай пласціны, але меншых памераў (мал. 2: 2). Бугарок, як і на папярэднім экземпляпы, адсутнічае. Сячэнне пласціны трохкутнае. Вастрыё знаходзіцца на дыстальным канцы і аформлена з вентральнага боку даволі стромкай рэтушшу. Чаранок таксама апрацаваны такой жа рэтушшу.

Трэці наканечнік уяўляе сабой выраб з абламаным вастрыём і па марфалогіі падобны на папярэднія (мал. 2: 3). Ён аформлены на правільнай адцісканай пласціне трохкутнага сячэння. Як і ў папярэдніх, вастрыё знаходзіцца на дыстальнай частцы пласціны. Чаранок аформлены стромкай рэтушшу.

Усе вышэй апісаныя наканечнікі маюць блізкія аналогіі з іншых помнікаў нарвенскай культуры на тэрыторыі Беларусі (Зацэнне, Сосенка 3). Праўда, наканечнікі з Зацэння маюць іншую арыентацыю вастрыя – на бугарковай частцы пласціны [12, мал. 4: 1 – 3]. У Сосенцы 3 наканечнікі даволі часта выраблены з няправільных пласцін і незаўсёды маюць рэтушаванае вастрыё. Найбольш блізкі тэхналагічна асавецкім экземплярам абломак наканечніка без чаранковай часткі з Сосенкі 3. Вастрыё ў яго таксама аформлена стромкай рэтушшу і знаходзіцца на дыстальнай частцы правільна агранёнай пласціны трохкутнага сячэння [14, мал. 4: 15].

У арэале нарвенскай культуры Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі наканечнікі падобнага тыпу сустракаюцца рэдка. Ф.А. Загорскіс знайшоў такі экземпляр у ранненеалітычным пласце стаянкі Оса ў Паўднёва-Усходняй Латвіі [4, с. 60].

Да паляўнічай зброі адносіцца і наканечнік дроціка з абламаным вастрыём (мал. 2: 9). Ён мае лістападобную форму з прамой асновай, у сячэнні лінзападобны, пакрыты плоскай рэтушшу з абодвух бакоў. Такі тып дроцікаў сустракаецца як на помніках Беларусі (Зацэнне) [12, мал. 4: 8], так і на нарвенскіх паселішчах Прыбалтыкі (Акалі ў Эстоніі) [16, с. 187, рис. 19: 14], Сарнатэ ў Латвіі) [1, табл. 3: 1].

Геаметрычны мікраліт у Асаўцы 4 знойдзены толькі адзін. Ён уяўляе сабою амаль раўнабокую трапецыю, сфармаваную на фрагменце пласціны з непаралельнымі краямі. Стромкай рэтушшу апрацаваныя супрацьлеглыя бакі прылады (мал. 2: 8).

Трапецыі былі даволі распаўсюджанай з'явай на помніках паўднёвых рэгіёнаў нарвенскай культуры. Яны знойдзены ў Зацэнні [12, мал. 4: 4 – 7] і Сосенцы 3 [14, мал. 5: 1 – 9]. Трэба адзначыць наяўнасць трапецый ва ўсходняй Літве на помніку Кратуонас 1Б, дзе таксама маюцца ранненеалітычныя матэрыялы [2, рис. 18: 21, 22].

Разцоў на помніку знойдзена толькі два (мал. 2: 5). Яны зроблены з адшчэпаў сярэдніх памераў і адносяцца да тыпу вуглавых.

Скрабкі ўтвараюць самую вялікую катэгорыю прылад працы на стаянцы (15 экз.). У тэхналагічным і функцыянальным плане яны даволі разнастайныя. Дамінуюць скрабкі на адшчэпах (11 экз.). Але сустракаюцца і прылады, сфармаваныя на рэгулярных высокіх пласцінах (3 экз.). Па спосабе афармлення рабочай часткі – скрабніцы і тыпу нарыхтоўкі скрабкі можна падзяліць на чатыры тыпы.

Першы тып утвараюць канцавыя скрабкі, выробленыя з высокіх рэгулярных пласцін (3 экз., мал. 2: 4, 7). Іх скрабніцы апрацаваныя рэгулярнай паўстромкай рэтушшу на дыстальнай частцы нарыхтоўкі.

Другі тып – канцавыя скрабкі на разнастайных адшчэпах і абломках крэменю (мал. 2: 14). Яны маюць даволі разнастайныя памеры і форму. Буйнейшы быў выраблены з вялікага адшчэпа з рэшткамі скарынкі (мал. 2: 10). Яго скрабніца знаходзіцца на тарцы і мае стромкую рэтуш з слядамі моцнай спрацаванасці.

Трэці тып утвараюць бакавыя скрабкі. Нарыхтоўкамі для іх служылі невялікая адшчэпы. Але ў калекцыі прысутнічае даволі масіўны бакавы скрабок, выраблены з пласцінчатага адшчэпа (мал. 2: 11).

Чацвёрты тып прадстаўлены адным падакруглым скрабком. Ён быў выраблены з адшчэпа, у якога захавалася крэйдавая скарынка. Скрабковая рэтуш пакрывала амаль увесь перыметр артэфакта і месцамі мела невялікую спрацаванасць.

Скоблі на стаянцы знойдзены дзве (мал. 2: 12). Яны былі выробленыя з невялікіх адшчэпаў і маюць рабочыя часткі на тарцах.

Перфаратары ўтвараюць невялікую групу з трох экзэмляраў. Найбольш выразны з іх быў выраблены з правільна агранёнай пласціны трохкутнага сячэння (мал. 2: 13). Вастрыё апрацаванае супрацьлеглай прытупляючай рэтушшу з брушка і спінкі. Магчыма, ён выкарыстоўваўся і ў якасці свердзела.

Даволі шматлікай зяўляецца серыя рубячых прыладаў і іх абломкаў (10 экз.). Яны даволі разнастайныя па форме і памерах і не вельмі ахайна апрацаваныя, месцамі захоўваюць крэйдавую скарынку (мал.

2: 18). На некаторых маюцца сляды моцнай спрацаванасці. Цікавасць уяўляюць вырабы з разцовым сколам (мал. 2: 6) або скрабковай рэтушшу на адным з бакоў.

Адносна шмат рэтушаваных пласцін, як цэлых, так і абломкаў. Вылучаецца серыя сячэнняў з паўстромкай рэтушшу на адным з бакоў (мал. 2: 17). На некаторых з іх прыкметная ўтылізацыйная рэтуш. Гэтыя сячэнні маглі выкарыстоўвацца як укладкі для састаўных прылад. У калекцыі таксама прадстаўлена серыя нажападобных пласцін з плоскай рэтушшу на адным з бакоў (мал. 2: 15, 16). Яны хутчэй за ўсё з'яўляліся нажамі.

Акрамя таго, у калекцыі маецца невялікая колькасць невыразных рэтушаваных адшчэпаў і абломкаў крэменю.

Вырабаў з рогу і костак і іх фрагментаў знойдзена 32.

З упрыгожанняў маюцца цэлая і фрагментарная падвескі з зубоў жывёл з кальцавой нарэзкай на корані (мал. 3: 15 ).

Два наканечнікі стрэлаў маюць кароткую іголкападобную (блізкую біканічнай) форму, насады і вастрыі пашкоджаны (мал. 3: 1). Трэці наканечнік сплюснутаіголкападобны з лёгка выдзеленым чаранком (мал. 3: 3). Верагодна, ад наканечнікаў стрэлаў паходзяць абломкі круглых у сячэнні вастрый і стрыжняў (мал. 3: 7, 8).

Два абломкі належалі вастрыям плоскарамбічнага сячэння. Адзін з іх меў па краю зубчатыя нарэзкі (мал. 3: 6). Таксама ў двух экземплярах знойдзены абломкі плоскіх і шырокіх гарпуноў (мал. 3: 3, 4).

6 фрагментаў паходзяць ад плоскіх кінжалаў (мал. 3: 13, 14, 16). З пласціны ад дзіковага ікла быў зроблены нож с фігурным лязом, аснова яго абламана (мал. 3: 10). Захаваўся абломак невядомага вырабу на падобнай пласціне (мал. 3: 9).

Праколкі (4 экз.) вырабляліся пераважна з сколаў з трубчастых костак (мал. 3: 12).

Унікальны ікол мядзведзя з зрэзамі на вастрыі (мал. 3: 11). Верагодна, ён выкарыстоўваўся ў якасці адмысловага разца.

Сякера з рогу з лёгка асіметрычным лязом захавалася здавальняюча (мал. 3: 1). Рэшта сякерападобных і цяслападобных прыладаў з рогу і расшчапаных буйных трубчастых костак прадстаўлена абломкамі (мал. 3: 2, 3).

Частка рагавых і касцяных артэфактаў асабліва фрагментарная і не паддаецца ідэнтыфікацыі.

Пераважная большасць керамікі ў раскопах 1976 – 77 гг. складае адзіны культурна-храналагічны комплекс (мал. 5 – 7; 8: 1 – 12). Гэта фрагменты шэра-рудых пасудзін з яйкападобным корпусам і вострым (злёгку прытупленым) дном, з дыяметрам па венцу да 40 см. Краі венцаў былі прамымі, слёгку зведзенымі або крыху адгіналіся. Іх зрэзы плаўна патанчаліся ад сярэдзіны пасудзін, часам былі патончаныя з абодвух бакоў, прыкругленыя, а ў адзінкавых выпадках мелі плоскі зрэз. Пасудзіны выраблялiся з гліняных стужак пераважна спосабам тарцовага прылепу (мал. 7: 7). Пры гэтым адзін край стужкі патанчаўся пальцамі, ад чаго засталіся характэрныя ўмяціны, а стык стужак расчэсваўся папярок, быццам сшываўся. Сустракаецца і косы прылеп. Стык стужак дадаткова прыкрываўся тонкімі пласткамі гліны.

Адтлушчальнікамі служылі валакністыя раслінныя рэшткі, дробная арганіка, ад якой засталася порыстасць, а таксама тоўчаныя ракавіны. Пры гэтым дамешкі ракавін былі ад нязначных да багатых. Магчыма, выкарыстоўваўся і шамот.

Паверхні сценак, асабліва ўнутраных, маюць сляды расчэсаў зубчатым шпатэлем, які быў і арнаменцірам. Таўшчыня сценак на корпусе 8 – 9 мм. На адзінкавых фрагментах прысутнічаюць прасвідраваныя па сухому «рамонтныя» адтуліны (мал. 5: 5).

Захаваліся два абломкі авальных місачак з плаўным пераходам ад сценак да пласкаватага дна (мал. 5: 6).

З усіх 52 фрагментаў знойдзеных венцаў каля 10 маюць пад краем знешні пояс глыбокіх круглых ямак або глыбокіх наколаў (мал. 5: 8; 7: 3, 5). Зрэз венцаў у большасці не арнаментаваны, толькі ў некаторых ён упрыгожаны насечкамі і накольчатымі паглыбленнямі (мал. 5: 5; 6: 10). Некалькі часцей адбіткі грэбня і насечкі сустракаюцца на ўнутраным скосе краю або на ўнутранай паверхні венца (мал. 5: 2, 9; 6: 1, 5, 8, 10, 11, 12; 7: 2).

Каля дзесятка фрагментаў венцаў дробныя і малаінфарматыўныя.

На знешняй паверхні 31 венца захаваўся арнамент з розных пераважна штампаваных элементаў (мал. 5 – 7). Амаль палова такіх венцаў маюць розныя наколы, што складаюць гарызантальныя паясы: дробныя невыразныя наколы, наколы глыбокія ямчатыя, насечкавыя, тычковыя вострым арнаменцірам, тарцовыя акруглым тонкім вастрыём, падтрохкутныя нерэгулярныя igольчатым вастрыём, разрэджаныя паўмесячныя (капытковыя) (мал. 6: 11 – 14; 7: 1, 2, 4, 5). 8 венцаў арнаментаваныя гарызантальнымі паясамі даволі доўгіх і кароткіх насечак (мал. 6: 1 – 9). У адным выпадку лінія з насечак пастаўлена коса. 6 венцаў маюць паясы грабеньчатых, звычайна косых управа, адбіткаў (мал. 5: 7, 9). На адным фрагменце зігзаг з такіх адбіткаў спалучаўся з гарызантальным поясам (мал. 5: 11). Таксама ў адным выпадку на венцы прысутнічаюць кароткія нарэзкі (мал. 6: 10). Часам сустракаюцца спалучэнні гарызантальных баразёнак з насечкамі (мал. 6: 7) або ямчатымі наколамі (мал. 7: 3). Невялікая група венцаў цалкам не мае аздаблення (мал. 5: 1, 3, 4).

Элементы арнаменту на сценках пасудзін складаліся з розных наколаў і паглыбленняў (мал. 8: 4, 5, 7, 10, 11), з тонкіх і звычайна злёгку выгнутых грабеньчатых адбіткаў (мал. 7: 6, 8, 10, 11, 13), насечак (мал. 7: 7, 9; 8: 3), прачэрчаных ліній (мал. 8: 9, 12). Значна радзей ужываліся адступаючыя наколы палачкай (мал. 8: 8), ямчатыя ўмяціны і тычковыя наколы.




Мал. 3. Асавец 4. Касцяныя і рагавыя вырабы: 1, 2, 5 – наканечнікі стрэлаў; 6, 7, 8 – абломкі вастрый; 3, 4 – абломкі гарпуноў; 9, 10 – вырабы з дзіковых іклаў; 11 – разец з мядзведжага ікла; 12 – праколка; 13, 14, 16 – фрагменты кінжалаў 15 – падвеска




Мал. 4. Асавец 4. Рубячыя прылады: 1 – рагавая сякера; 2, 3 – касцяныя цяслы




Мал. 5. Асавец 4. Фрагменты кераміка нарвенскай культуры




Мал. 6. Асавец 4. Фрагменты кераміка нарвенскай культуры




Мал. 7. Асавец 4. Фрагменты кераміка нарвенскай культуры




Мал. 8. Асавец 4. Фрагменты кераміка нарвенскай (1 – 12) і ўсвяцкай (13, 14) культур

Даволі шырока прадстаўлены спалучэнні розных элементаў: двухзубыя адбіткі і злёгку паглыбленыя ямачкі, накольчатыя насечкі і вертыкальныя зоны дробных наколаў, крыжыкі з грабеньчатых адбіткаў і наколы зламанай палачкай, косыя наколы і адбіткі злёгку нахіленай палачкай, адбіткі зубчатага штампа і глыбокія тарцовыя наколы, наколы і прачэрчаныя лініі, грабеньчатыя адбіткі і насечкі.

Дамінуючы матыў арнаментацыі – гарызантальныя паясы. Радзей сустракаюцца вертыкальныя, косыя або косасеткавыя кампазіцыі, спалучэнне гарызантальных і вертыкальных палос (мал. 7: 9, 12; 8: 9 – 12).

Больш паловы знойдзеных фрагментаў ранненеалітычных пасудзін з Асаўца 4 не мае арнаментацыі.

У раскопе 1976 г. сустрэты тры фрагменты гладкасценнай керамікі больш позняй усвяцкай культуры, у тым ліку два венцы з характэрным патаўшчэннем краю (мал. 8: 13, 14).

Аналіз астэалагічнага матэрыялу, зроблены В.В. Шчагловай, паказаў, што з 97 знойдзеных у Асаўцы 4 костак дзікіх жывёл значная часть належыць ласю (40,2 %) і дзіку (27,8 %). Далей ідуць бабёр (15,5 %) і мядзведзь (13,5 %). Ад выдры захавалася адна костка. Уражвае наяўнасць 20 костак свойскіх жывёл. Сярод іх першае месца займае свіння, далей ідуць конь і сабака. Косткі буйных і дробных рагатых жывёл адзінкавыя. Прысутнасць свойскіх жывёл у колекцыі патрабуе яе далейшага даследавання, каб выключыць механічную прымесь. Не выключана, што яны могуць адносіцца да больш позняга часу – каля заходняга краю кар'ера захаваліся сляды рознакультурнага паселішча, на якім сустрэта і шнуравая кераміка. На стаянцы Асавец 4 трапіліся і раздробленыя косткі чалавека.

Крамянёвыя вырабы помніка захоўваюць некаторыя мясцовыя кундскія традыцыі. Асабліва гэта прыкметна ў наканечніках стрэлаў, наследуючых формы і характар апрацоўкі аналагічных артэфактаў з мезалітычных стаянак Падзвіння – Замошша 1 і Крумплева [9, с. 53 – 55, мал. 17, 18]. Кундскія пережыткавыя рысы прысутнічаюць таксама ў касцяным і рагавым інвентары – у біканічных наканечніках стрэлаў, вастрыях з папярэчнымі нарэзамі, плоскіх буйназубых гарпунах з сценак трубчастых костак, цяслападобных вырабаў з такога ж матэрыялу [4, с. 47]. У цэлым жа артэфакты Асаўца 4 з крэменю і арганікі блізкія матэрыялам нарвенскай культуры Паўднёва-Усходняй Прыбалтыкі [6, с. 14, 15]; [10, табл. IX, XI, XIII].

У крамянёвым інвентары Асаўца 4 праглядаюцца і паўднёвыя пранікненні, што выяўлена ў прысутнасці трапецыі і трапецыяпадобных сячэнняў пласцін.

Кераміка Асаўца 4 утрымлівае большасць рысаў, вылучаных Л. Янітсам [20, с. 122 – 126] і Н.М. Гурынай [3, с. 31 – 39)] для керамікі нарвенскай культуры Эстоніі: дамешкі тоўчаных ракавін і арганікі, расчэсы паверхні, тарцовы прылеп гліняных стужак, арнаментацыя ўнутранай паверхні венцаў, авальныя місачкі, неглыбокія і бедныя арнаменты з грабеньчатых і ямчатых адбіткаў, кароткіх нарэзак, свідраваныя адтуліны. Бліжэйшыя аналогіі знаходзяцца сярод старажытнасцяў паселішча Оса на ўсходзе Латвіі (Лубанская нізіна), дзе ў арнаментах сустрэтыя дробназубчатыя грабеньчатыя адбіткі, невялікія ямчатыя паглыбленні, прачэрчаныя лініі [6, с. 134)].

Узгорак «Брускавішча» засяляўся ў познім Атлантыкуме, калі возера яшчэ падступала да яго падножжа. Па костцы з падставы культурнага пласта помніка атрымана дата 5860 ± 50 BP (Кі-6213), што з калібрацыяй складае 4800–4620 BC. Да блізкага часу належыць і большасць матэрыялаў нарвенскай культуры з тарфянікавай стаянкі Зацэнне на паўночным усходзе Міншчыны: 5895±55 BP (Ua-34616): 4910-4600 cal BC; 5625±40 BP (Кі-6214); 5450±75 BP (ЛЕ-960). У апошні час з падставы культурнага пласта Зацэння атрымана дата: 6425±60 BP (Ua-34617): 5480-5360 і 5490-5290 cal BC, якая сведчыць пра магчымы пачатак нарвенскай культуры на поўначы Беларусі ў другой палове 6-га тыс. да н.э. [8, с. 86].

Упершыню характэрны матэрыял нарвенскай культуры (кераміка, касцяныя, рагавыя і крамянёвыя вырабы) быў выяўлены ў 1966 г. на тарфянікавай стаянцы Зацэнне ў басейне верхняга цячэння Бярэзіны Дняпроўскай [5, с. 9]. Падобныя керамічныя і крамянёвыя артэфакты таксама сустрэтыя на стаянках Сосенка 1 і 3 у Вілейскім р-не на Віліі, Скема 1 (воз. Мястра) у Мядзельскім р-не, каля воз. Слабадское ў Вілейскім р-не [13, с. 192, 198, 199]. Нядаўна знойдзена паселішча з матэрыяламі нарвенскай культуры на р. Бярэшча ў Лепельскім р-не [11].

Неабходна адзначыць, што нарвенская кераміка Асаўца 4, як і падобных помнікаў у басейнах Віліі і Бярэзіны, носіць рысы ўплыву ранненеалітычных культур Падняпроў'я і Панямоння. Гэта праяўляецца ў большым распаўсюдзе глыбокіх ямак пад венцам, грабеньчатых узораў, прачэрчаных ліній, паўмесячных наколаў, арганічных валакністых дамешак у сценках і тэхнікі косага прылепу.

У паўночнай частцы паселішча Асавец 2, размешчанага па суседству з Асаўцом 4, на мацерыку, пад пластом з матэрыяламі усвяцкай культуры сустракаюцца адзінкавыя фрагменты нарвенскай керамікі. З імі ж залягаў тыповы для Нарвы абломак цясла з сценкі тоўстай трубчастай косткі. Кара дрэва, знойдзеная тут на мацерыку, паказала час 4900±140 BP (IGSB-779): 3360–2620 cal BC. Нагар на абломку пасудзіны ўсвяцкага тыпу, які залягаў на тым жа мацерыку, таксама меў – 4370±50 BP (Ua-34618): 3030 – 2910 cal BC [8, с. 79]. Магчыма, гэтыя даты фіксуюць прыпыненне жыцця на Асаўцы 4 і перасяленне часткі яго жыхарства на больш зручны ўчастак берага высыхаючага і зарастаючага возера – на Асавец 2. Гэты працэс, верагодна, супаў з трансфармацыяй ранненеалітычнай нарвенскай культуры ва ўсвяцкую сярэдняга неаліту. Адзінкавыя

фрагменты ўсвяцкай керамікі ўжо сустракаюцца на Асаўцы 4, але ў ніжніх пластах паўночнай часткі Асаўца 2 яны дамінуюць поўнасцю.

Стаянка Асавец 4 на сёння з’яўляецца адзіным помнікам ў Беларусі, на якім захаваўся комплекс каменных, рагавых, касцяных і керамічных артэфактаў нарвенскай ранненеалітычнай культуры.

ЛІТАРАТУРА

1. Ванкина, Л.В. Торфяниковая стоянка Сарнате / Л.В. Ванкина. – Рига: Зинатне, 1970. – 176 с.
2. Гирининкас, А. Крятуонас: средний и позний неолит / А. Гирининкас // Lietuvos archeologija. – 1990. – Т. 7. – 122 с.
3. Гурина, Н.Н. Из истории древних племен западных областей СССР / Н.Н. Гурина // Материалы и исследования по археологии СССР. – Т. 144. – М., 1967. – 207 с.
4. Гурина, Н.Н. Мезолит Латвии и Эстонии / Н.Н. Гурина // Мезолит СССР. – М., 1989. – С. 46 – 54.
5. Долуханов, П.М. Палеогеография и абсолютная хронология стоянки Заценье / П.М. Долуханов [и др.] // Доклады АН БССР. – № 9. – Том XX. – 1976. – С. 817 – 819.
6. Загорскис, Ф.А. Ранний и развитый неолит в восточной части Латвии. Автореф. дис. … канд. ист. Наук / Ф.А. Загорскис. – Рига, 1967. – 27 с.
7. Загорскис, Ф.А. Оса – многослойное поселение эпох мезолита и неолита на Лубанской низине (Латвийская СССР) / Ф.А. Загорскис [и др.] // Археология и палеогеография мезолита и неолита Русской равнины. – М., 1984. – С. 55 – 67.
8. Зайцева, Г.И. Новые данные по радиоуглеродной хронологии неолита Беларуси и сопредельных территорий / Г.И. Зайцева [и др.] // Acta archaelogica Albaruthenica. Vol III. – Мінск, 2008. – С. 77 – 88.
9. Ксяндзоў, У.П. Кундская культура / У.П. Ксяндзоў // Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. – Мінск. – 1997. – С. 52 – 55.
10. Лозе, И.А. Поселения каменного века Лубанской низины. Мезолит, ранний и средний неолит / И.А. Лозе. – Рига: Зинатне, 1988. – 209 с.
11. Чарняўскі, Максім М. Археалагічныя даследаванні на стаянках Асавец-7 і Бярэшча-1 / Максім М. Чарняўскі // ГАЗ. – Вып. 23. – 2007. – С. 188 – 189.
12. Чарняўскі, М. М. Тарфяніковая стаянка Зацэнне / М.М. Чарняўскі // З глыбі вякоў. Наш край. – Мінск, 1996. – № 1. – С. 132 – 147.
13. Чарняўскі, М.М. Нарвенская культура / М.М. Чарняўскі // Археалогія Беларусі. Т. 1. Каменны і бронзавы вякі. – Мінск, 1997. – С. 190 – 206.
14. Чарняўскі, М.М. Стаянка Сосенка 3 на Віліі / М.М. Чарняўскі // ГАЗ. – Мн, 1999. – №14. – С. 83 – 97.
15. Чернявский, М.М., Зайковский, Э.М. Исследования в Понеманье и Подвинье / М.М. Чернявский, Э.М. Зайковский // Археологические открытия 1976 г. – М., 1977. – С. 418.
16. Янитс, Л.Ю. Поселения эпохи неолита и раннего металла в приустье р. Эмайыги (Эстонская ССР) / Л.Ю. Янитс. – Таллин, 1959. – 382 с.

## ГОРАД ПОЛАЦКАЙ ЗЯМЛІ УСВЯТЫ: ПРАБЛЕМЫ ЯГО ГІСТАРЫЧНАЙ ТАПАГРАФІІ

***д-р гіст. навук, прафесар Г.В. ШТЫХАЎ***
***(Інстытут гісторыі НАН Беларусі, Мінск)***

Усвяты (Всвят, Въсвяч, Восвято) цяпер пасёлак у Пскоўскай вобласці, Расія. У XIX ст. гэта было мястэчка Веліжскага павета, Віцебскай губерні. Тут нарадзіўся Аляксей Парфёнавіч Сапуноў (15.03.1851 – 2.10.1924) выдатны беларускі гісторык, археограф, краязнавец. Вучыўся ў Віцебскай мужчынскай гімназіі, затым на гісторыка-філалагічным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта [14, с. 229]. У 1912 – 1922 гг. чытаў лекцыі ў Віцебскім аддзяленні Маскоўскага археалагічнага інстытута [15]. А.П. Сапуноў сам археалагічных раскопак не праводзіў, але з маладых гадоў цікавіўся старажытнымі помнікамі Віцебшчыны і, канешне, роднага Усвята.

«Всвят» упершыню названы ў крыніцах разам з Віцебскам у сувязі з падзеямі 1021 г. Паводле паведамлення летапісаў, у гэтым годзе полацкі князь Брачыслаў зрабіў паход на Ноўгарад, захапіў там мноства палонных і вялікую здабычу. На сёмы дзень вяртання з паходу полацкае войска ўбачыла перад сабой дружыну Яраслава Мудрага і апалчэнне кіеўлян. Бітва адбылася на рацэ Судаміры. Брачыслаў быў разбіты, палонныя вызвалены. Яраслаў, які даводзіўся Брачыславу дзядзькам, пасля заключэння міру

зрабіў разважлівы крок. Ён аддаў Брачыславу гарады Усвяты і Віцебск – ключавыя пункты на шляху «з вараг у грэкі». Дагавор вызначаў граніцу паміж полацкімі і наўгародскімі ўладаннямі. Верагодна, гэтыя гарады раней належалі полацкім князям і Яраслаў Мудры быў вымушаны вярнуць іх Брачыславу, бо жадаў мець яго сваім саюзнікам [16, с. 31].

Палачане атрымалі волакі, якія злучалі Заходнюю Дзвіну з Дняпром. Гэта давала магчымасць ім браць пошліны за правоз тавараў. Дагавор супакойваў Брачыслава і нават рабіў яго паплечнікам Яраслава Мудрага, які вёў цяжкую барацьбу з магутным тмутараканскім князем. У Кіеве ўзнік «двор Брачыслава», дзе некаторы час знаходзіўся полацкі князь і жылі полацкія купцы.

У наўгародскіх летапісах горад названы пад 1223 г., калі наўгародскі князь Яраслаў Усеваладавіч (бацька Аляксандра Неўскага) прагнаў літоўскія атрады з Наўгародскай і Таропецкай валасцей, гонячыся за імі «до Въсвяча». У 1225 г. літоўцы з'явіліся зноў і былі разбіты Яраславам каля Усвят. Аляксандр Неўскі наведаў Віцебск (1245 г.), каб забраць адсюль свайго сына. Ён ехаў з невялікай дружынай, каля Усвят сустрэў атрад літоўцаў, якіх перамог – «и тех изби», гаворыцца ў «Новгородской первой летописи старшего и младшего изводов» [6, с. 64, 79]. На пачатку XIV ст. Усвят належаў Віцебскаму княству, дзе княжыў Яраслаў Васількавіч. У 1318 г. ён выдаў сваю дачку Марыю замуж за літоўскага князя Альгерда. Альгерд са сваёй жонкай знаходзіўся ва Усвяце. Праз два гады Яраслаў памёр. Віцебскім князем стаў Альгерд. Так, дзякуючы шлюбу, Віцебск і Усвяты апынуліся ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Поспеху аб'яднання літоўскіх і беларускіх зямель у адной дзяржаве садзейнічала тое, што літоўскія князі давалі абяцанне ў беларускіх землях «не рухаць даўніны» і не ўводзіць «навіны».

Паўстае пытанне, дзе першапачаткова знаходзіўся Усвят, якія этапы прайшоў у сваім фарміраванні?

А.П. Сапуноў выказаў думку, што пачаткова горад быў на Юравых Гарах недалёка от населенага пункта Усвяты. Гэту выснову ён падмацоўваў тапанімічнымі дадзенымі. Горы атрымалі назву Юравых таму, што там знаходзілася старажытная царква Георгія Пабеданосца [10, с. 8, 29]. Пісцовая кніга XVI ст. адзначае «над воз. Над Усвятам гарадзішча Старое Усвятцкае, а на гарадзішчы зямля развораная» [7, с. 445]. Такім чынам, размова ідзе пра разворваемае ўжо тады гарадзішча на Юравых Гарах.

А.П. Сапуноў надрукаваў у кнізе «Река Западная Двина» [11] план археалагічных помнікаў Усвята, якім мы будзем карыстацца цяпер (мал. 1).

У 50-я гады XX стагоддзя вывучэннем помнікаў займалася археолаг Я. Станкевіч. Яна зняла планы трох гарадзішчаў і на кожным зрабіла невялікія раскопкі. Першае гарадзішча размешчана на паўночна-заходняй ускраіне пасёлка Усвяты і вядома пад назвай Пруд. Пляцоўка авальнай формы памерам 55 х 40 м з крутымі абрывістымі схіламі. Пры зачыстцы абрэза з паўднёва-ўсходняга боку гарадзішча пад дзірваном і суглінкам, на глыбіні 0,3 – 0,9 м выяўлены ў некаторых месцах чорны культурны пласт. У ім знойдзены фрагмент ляпной керамікі, пакрытай штрыхамі, а таксама некалькі кавалкаў ад ляпнога сасуда, упрыгожанага перакрыжаванымі лініямі. Гарадзішча адносіцца да днепра-дзвінскай культуры ранняга жалезнага веку.




Мал. 1. Усвяты: 1-5 – археалагічныя помнікі (па А. Сапунову)

Другое падобнае гарадзішча № 3 знаходзіцца на паўднёва-ўсходняй ускраіне Усвят (мал. 1). Яно ўяўляе высокую гару, моцна пашкоджаную ямамі і акопамі. Раней пляцоўка мела авальную форму памерам 40 х 20 м. Культурны пласт сапсаваны могільнікам XIV – XVII стст. Пры зачыстцы абрэза адной з ямаў пад пахаваннямі ў чорным культурным пласце, на глыбіні 0,8 – 1,1 м, знойдзены фрагменты ляпной керамікі з крыху ўвагнутым усярэдзіну венчыкам і асобныя кавалкі, пакрытыя штрыхоўкай [12, табл. XXVIII, 3]. Помнік належыць таксама днепра-дзвінскай культуры, як і гарадзішча № 1.

Паміж апісанымі гарадзішчамі ў населеным пункце Усвяты размешчана яшчэ гарадзішча № 2, якое называецца Замкавая гара (мал. 1). Яно мае выцягнута-авальную форму. На ўсходнім і заходнім краях выступаюць акругленні, магчыма, ад некалі існаваўшых тут бастыёнаў. Даўжыня пляцоўкі складае прыкладна 120 м, шырыня 50 – 70 м.

Паверхня Замкавай гары (гарадзішча № 2) моцна відазменена ў выніку розных земляных работ і мае аморфны гумусаваны слой, што, па назіраннях Я. Станкевіч, з'яўляецца характэрным для многіх помнікаў позняга феадалізма. У 1952 г. на разворваным пад агароды паўднёвым схіле Замкавай гары і ў абрывах трапляліся абломкі кругавога посуду XIII – XIV стст. з плотнай чорнай гліны, упрыгожанай лінейным арнаментам. Паўсюдна сустракалася кераміка больш позняя і кавалкі кафлі XVI – XVII стст. [12, с. 322].

Акрамя апісаных вышэй трох гарадзішчаў, Я. Станкевіч абследавала каля Усвят урочышча Юравы Горы, на заходнім беразе воз. Усвяты, прыкладна за тры кіламетры ад Замкавай гары (мал. 1). Тут Я. Станкевіч выявіла на ўзвышшах рэшткі старажытных паселішчаў, якія ёй абазначаны «селішча № 1» і «селішча № 2».

Першае селішча плошчай 200 х 400 м займае край мыса, які ўзвышаецца над возерам на 12 метраў. На раллі ўсцяж берага, па Я. Станкевіч: «сустракаюцца шматлікія абломкі ляпнога і кругавога посуду з лінейным і хвалістым арнаментам. Магутнасць культурнага пласта 0,45 м, у аснове якога знойдзена таўстасценная кругавая кераміка. Другое селішча размешчана ў 350 м на поўдзень ад першага. Гэта таксама мыс з авальнай пляцоўкай, якая знаходзіцца на вышыні 12 м над паверхняй возера. Усцяж берага возера на паласе вышынёй да 30 м сустракаецца кераміка, аналагічная посуду з першага селішча» [12, с. 322 – 323].

Абследаваўшы археалагічныя помнікі Усвята і яго наваколля, Я. Станкевіч не зрабіла спробы супаставіць іх з паведамленнямі пісьмовых крыніц, каб уявіць гістарычную тапаграфію горада. Не была звернута ўвага на паданні аб месцазнаходжанні старажытнага горада на Юравых гарах.

Знакаміты беларускі археолаг, фальклярыст, этнограф Е.Р. Раманаў (1855 – 1922) пісаў, паводле крыніцы 1765 г.: «Месца Усвяты на ўзвышшах: Замак 1,5 дзесяціны, Бугор 1/4 дзесяціны, Прудок 1/4 дзесяціны і Спасава Гара вышынёй 6 – 8 сажаняў. Старажытнае паселішча Усвяты, паводле падання, знаходзілася на Юравых Гарах. На Спасавай Гары – царква ва імя Спаса» [8, с. 187, 188].

У 1960-я гады археалагічныя даследаванні ў наваколлі Усвята былі прадоўжаны супрацоўнікамі Невельскай экспедыцыі Дзяржаўнага Эрмітажа. У Юравых Гарах на селішчы № 2 былі заўважаны рэшткі ўмацаванняў, у паўночнай і заходняй частках – роў, з заходняга боку – рэшткі вала. Каля Юравых Гор, за 0,5 км ад іх у 1965 г. археолагамі была зафіксавана курганная група з 50 паўсферычных насыпаў вышынёй ад 1 да 3 м, дыяметрам ад 7 да 14 м. Адзін курган быў даследаваны. Знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення і гаршчок з лінейным і хвалістым арнаментам, падпраўлены на ручным ганчарным крузе. Верогодна, курганны могільнік мае адносіны да старажытнага горада.

На паўночным беразе воз. Узмень ва ўрочышчы Гукавы Нівы выяўлены невялікі могільнік культуры доўгіх курганоў. Быў даследаваны адзін курган з крэмацыяй, які датуецца апошняй чвэрцю Х ст. (мал. 2: 1, 2). Выклікае асаблівую цікавасць знаходка ва Усвяце фрагмента лодкападобнага бранзалета (мал. 2: 4). Яны распаўсюджаны ў Скандынавіі і, як лічаць даследчыкі, менавіта адтуль паходзіць гэты тып упрыгожання [4, с. 266].




Мал. 2. Старажытнасці Усвята і яго акругі

У 1970 г. удзельнікамі экспедыцыі Дзяржаўнага Эрмітажа на селішчы № 2 распрацавана два невялікіх раскопы. Выяўлены матэрыял, характэрны для старажытных усходнеславянскіх гарадоў – бытавая кераміка (мал. 3), шыферныя праслíцы, фрагменты шкляных бранзалетаў [5, с. 3 – 4].

На ўзараных участках Юравых Гор мясцовае насельніцтва звычайна знаходзіла старажытныя прадметы, якія захоўваліся тады ў музеі Усвяцкай сярэдняй школы. У 1971 г. мне пашанцавала пабачыць гэты матэрыял, дзякуючы ветлівасці настаўніцы гісторыі Таццяны Пятроўны Смірновай. Тут шмат абломкаў кругавой керамікі XI – XIII стст., буйная шкляная вачкаватая пацерка X – пачатку XI стст., двухбаковы касцяны грэбень з накладкамі, бронзавы канёк-падвеска, жалезная сякера з адцягнутым уніз лязом XI – XII стст., жалезны касар для расчысткі мясцовасці ад кустоў і зразання галінак на кармы жывёле. Аналагічныя прылады знойдзены пры раскопках у Лукомлі і Лагойску [16, с. 122, рис. 52].

З'явілася магчымасць мне выказаць меркаванне аб гістарычнай тапаграфіі Усвята і яго ўзнікненні. Не выключана, што папярэднік горада нарадзіўся ў X ст. на Юравых Гарах і менавіта тут размяшчаўся Усвят у XI – XV стст. [16, с. 55]. У 1563 г. Іван Грозны авалодаў Полацкам, а ў 1566 г. «поставлен бысть город Усвято на городище Межеве» [9, с. 465]. Польскі гісторык, сучаснік Інфлянцкай (Лівонскай) вайны Р. Гейденштейн пісаў: «Усвят (замак) ляжыць на невысокім узвышшы, паміж двумя азёрамі і ракой Усвя-

чаю, з захада ён акружаны возерам Узмень, з усходу другім возерам – Усвяты, з поўдня ракой той жа назвы, якая, працякаючы праз абодва возеры, упадае ў Дзвіну пад Суражам…» [3, с. 123].




Мал. 3. Бытавая кераміка Усвята: 1, 4 – ляпная, 2, 3, 5 – 10 – кругавая

Дастаткова паглядзець на старую карту мясцовасці, надрукаваную А.П. Сапуновым, каб упэўніцца ў правільнасці гэтага апісання (мал. 1). Аднак з паўднёвага баку Замкавай гары знаходзіцца пратока, злучаючая возера Усвят і Узмень, а не рака Усвяча, якая працякае праз возера Усвяты на ўсход ад населенага пункта [11, с. 372, 373]. Паводле дакументаў, у час Інфлянцкай вайны палякі спалілі горад, які існаваў «каля замка Усвяцкага» [1, с. 18]. Адсюль вынікае, што і замак, і пасад у той час знаходзіліся на месцы сучаснага пасёлка, г. зн. на паўночным беразе пратокі, а Юравы Горы ляжаць на поўдзень, над возерам Усвяты.

Месца размяшчэння Юравых Гор дазваляе звязваць паходжанне назвы горада Усвят (у розных старажытных назвах свае варыянты) з назвай возера Усвят (Усвяцкае), на заходнім беразе якога яны знаходзяцца. Літаральна побач выцякае з возера рэчка Усвяча.

Узвышша, дзе ў 1566 г. узнік замак, называлася тады гарадзішчам Межава. На ім жылі людзі раней XVI ст., пра што гавораць як археалагічныя знаходкі, так і назва яго ў старой крыніцы «гарадзішчам».

Да вывучэння праблемы сярэдневяковага горада Усвята звярнуўся археолаг з Пецярбурга І.І. Ерамеяў. Гэты даследчык у плане параўнання разглядае не толькі археалагічныя помнікі, звязаныя з летапісным горадам, але надае значную ўвагу старажытнасцям, «існаванне якіх спадарожнічала яго ўзнікненню, размешчаных на даволі значных суседніх тэрыторыях».

Паводле назіранняў І.І. Ерамеява, Усвяцкія азёры, на якіх узнік Усвят, знаходзіліся на ўсходняй перыферыі тэрыторыі, занятай насельніцтвам, узводзіўшага доўгія курганы. Разам з тым на землях к паўночнаму захаду ад Усвят рассялялася насельніцтва, якое хавала памёршых у сопках [4, с. 263, 265].

І.І. Ерамееў згодзен, што ў XII – XV стст. Усвят размяшчаўся на месцы Юравых Гор. Аднак у больш ранні час (X – XI стст.) мог знаходзіцца ці тут, ці на Замкавай гары.

І.І. Ерамеяў робіць цікавае заключэнне: «Верагодна, асноўныя прычыны станаўлення горада трэба шукаць у палітычных працэсах якія адбываліся ў Падзвінні ў X – пачатку XI стст., і звязаных з узрастаннем актыўнасці Полацка, з пашырэннем і стабілізацыяй вобласці полацкай даніны… Своеасаблівым канкурэнтам і аналагам Усвята з’яўляўся гарадок на Ловаці, прадвеснік Вялікіх Лук, арыентаваны на Ноўгарад… У апісанай сітуацыі, верагодна, знаходзіцца адна з прычын Наўгародска-Полацкіх канфліктаў другой паловы X – пачатку XI стагоддзяў» [4, с. 272 – 273].

Акадэмік М.М. Ціхаміраў падкрэсліваў выгаднае геаграфічнае размяшчэнне пункта, які стаяў там, дзе пачынаўся волак паміж Ловаццю і ракой Усвячай, упадаючую ў Заходнюю Дзвіну [13, с. 368]. Важнае значэнне Усвяцкага волака пацверджана дэталёвым яго археалагічным абследаваннем, якое зрабіў у 1973 г. В.А. Бураў. Функцыя кантроля гандлёвага шляху магла здзейсняцца ва Усвяце, размешчаным на заходнім беразе воз. Усвят (Юравай Гары), пакуль гэта роля не перайшла к замку, пабудаванаму ў больш зручным месцы – насупраць пратокі, злучаючай воз. Усвят (Усвяты) з воз. Узмень [2, с. 84].

В.А. Бураў абгрунтавана лічыць, што жыхары селішча (№ 1) выконвалі асноўную, цяжкую работу на волаку: перацягвалі судны з Ловаці ў басейн ракі Усвячы, ажыццяўляючы тым самым перавозку тавараў. «Паселішча ва ўр. Юравы Горы (старажытны Усвят) мела гандлёва-рамесніцкі характар» [2, с. 84 – 85].

Ці быў у гісторыі Усвята так званы «перанос горада», пад якім мы разумеем такую змену яго гістарычнай тапаграфіі, калі населены пункт перамясціўся на новае месца, па-за тэрыторыю свайго першапачатковага распалажэння? Перанос горада звязаны з заміраннем жыцця ў населеным пункце і ўзнікненнем у другім месцы новага пункта. Перанесенымі могуць быць асобныя часткі горада, яго пасады, дзядзінец, торг. Гэта выпадкі частковага пераноса гарадоў. Перасоўванне паселішчаў магло быць у межах тэрыторыі горада. Гэта адзін з варыянтаў перанясення яго частак. Другі варыянт – узнікненне на некаторай адлегласці (у 2 – 5 км і больш) ад горада паселішча, да якога пераходзіць як назва, так і функцыі старога горада, паступова прыходзячага ў заняпад [16, с. 20].

Археалагічныя даныя пацвярджаюць меркаванне А.П. Сапунова аб знаходжанні пачаткова горада Усвяты на Юравых Горах. Затым, верагодна, у XVI ст. адбылося канчатковае перамяшчэнне горада ў мясцовасць, дзе была Замкавая гара і цяпер размяшчаецца адміністрацыйны цэнтр Усвяцкага раёна.

ЛІТАРАТУРА

1. Брэжго, Б. Замкі Віцебшчыны / Б. Брэжго. – Вільня, 1933.
2. Буров, В.А. Усвятский волок по археологическим данным / В.А. Буров // Вестник Московского университета. – Серия 9. – История. – 1975. – № 4.
3. Гейденштейн, Р. Записки о Московской войне (1578 – 1582) / Р. Гейденштейн. – СПб., 1882.
4. Еремеев, И.И. Средневековый Усвят. Проблемы ранней истории / И.И. Еремеев // Новгород и Новгородская земля. История и археология. – Вып. 11. – Новгород, 1997.
5. Микляев, А.М. Работа Северо-Западной экспедиции Государственного Эрмитажа / А.М. Микляев, Р.С. Минасян // Археологические открытия 1970 года. – М., 1971.
6. Новгородская первая летопись старшего и младшего изводов. – М.; Л., 1950.
7. Писцовые книги Московского государства. Ч. 1. Писцовые книги XVI века. Отделение II. – СПб., 1877.
8. Романов, Е.Р. Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский / Е.Р. Романов. – Могилев, 1898.
9. Россия. Верхнее Поднепровье и Белоруссия. – СПб., 1905. – Т. 9.
10. Сапунов, А.П. Усвят (местечко Витебской губернии) и святыня его / А.П. Сапунов. – Витебск, 1889.
11. Сапунов, А.П. Река Западная Двина. Историко-географический обзор / А.П. Сапунов. – Витебск, 1893.
12. Станкевич, Я.В. К истории населения Верхнего Поднепровья в I и начале II тысячелетия н.э. / Я.В. Станкевич // МИА. – 1960. – № 76.
13. Тихомиров, М.Н. Древнерусские города / М.Н. Тихомиров. – М., 1956.
14. Філатава, А. Сапуноў А.П. / А. Філатава // Гісторыі Беларусі. Энцыклапедыя. – Т. 6. – Кн. 1. – Мінск, 2001.
15. Шибеко, З. Из истории Витебских археологических «курсов» / З. Шибеко // Неман. 1980. № 6.
16. Штыхов, Г.В. Города Полоцкой земли (IX – XIII вв.) / Г.В. Штыхов. – Минск, 1978.

# ЗМЕСТ

*Навуковае выданне*

# БЕЛАРУСКАЕ ПАДЗВІННЕ: ВОПЫТ, МЕТОДЫКА І ВЫНІКІ ПАЛЯВЫХ І МІЖДЫСЦЫПЛІНАРНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ

Зборнік навуковых прац
міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай
160-годдзю з дня нараджэння А. П. Сапунова

(Полацк, 21 – 23 красавіка 2011 г.)

У дзвюх частках

Частка 1

Тэкст друкуецца ў аўтарскай рэдакцыі

Адказны за выпуск *Д. У. Дук*

Тэхнічнае рэдагаванне і камп’ютарная вёрстка *І. М. Бязборшчай*
Дызайн вокладкі *В. А. Вінаградавай*

Падпісана да друку 22.10.11. Фармат 60×84⅛. Бумага афсетная. Рызаграфія.
Ум. друк. арк. 17,67. Улік.-выд. арк. 12,78. Тыраж 50 экз. Заказ 1752.

Выдавецтва і паліграфічнае выкананне:
установа адукацыі «Полацкі дзяржаўны універсітэт».

ЛВ № 02330/0548568 от 26.06.2009 ЛП № 02330/0494256 от 27.05.2009

Вул. Блахіна, 29, 211440, г. Наваполацк.